

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 25 (13505)

17—23 чэрвеня 1991 года

Цана 35 кап. (па падпісцы—20 кап.)


## 50 гадоў з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны

22. VI. 1941

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

# Хто ён, „ДОКТАР“?



**Праблемы медыцыны нас пачынаюць хваляваць толькі тады, калі мы з імі сутыкаемся асабіста. Такі ўжо чалавек. Тым не менш яны ёсць, існуюць. Над адным яе аспектам—падрыхтоўкай спецыялістаў—сёння на старонках нашай газеты разважае загадчык кафедры акушэрства і гінекалогіі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў, доктар медыцынскіх навук, прафесар Іван Уладзіміравіч ДУДА.**

Крызіс, які ахапіў сёння многія галіны народнай гаспадаркі нашай краіны, не прайшоў і міма галіны аховы здароўя. Нельга, вядома, сцвярджаюць, што гэта стала раптам. Іржа раз'ядала гэты важнейшы орган многія дзесяцігоддзі. У чым жа прычына? Сярод мноства іх асаблівую значнасць уяўляе недастаткова высокая кваліфікацыя ўрачэбных кадраў, што звязана, перш за ўсё, з недасканаласцю медыцынскай адукацыі. Ужо шмат гадоў афіцыйна адзначаецца, што наспела неабходнасць у глыбокай перабудове вышэйшай адукацыі, у тым ліку і медыцынскай, і прывядзенне яе ў нармальнае рэчышча, па якім рухаюцца цывілізаваныя краіны, што давялося ў час шматгадовай работы за мяжой назіраць самому. Аналіз праведзеных змен у сістэме вышэйшай медыцынскай адукацыі за перыяд перабудовы сведчыць аб тым, што ў большасці сваёй яны бессістэмныя, носяць характар суб'ектыўны, вельмі фрагментарны і часта лозунгавы. Таму яны і не прывялі да выкрыцця глыбінных працэсаў. Давайце для прыкладу прызядзём некаторыя падобныя эксперыменты і што яны далі ў канчатковым выніку.

Успомнім хаатычную рэарганізацыю медыцынскай адукацыі за пасляваенны перыяд: пераход з 5-гадовага на 6-гадовы перыяд навучання студэнтаў, спецыялізацыя на 6-м курсе і вяртанне да ранейшай практыкі падрыхтоўкі ўрача агульнага профілю. І вось ужо другое дзесяцігоддзе працуе сістэма падрыхтоўкі ўрача праз субардынатуру (тую ж спецыялізацыю на 6-м курсе) з наступным праходжаннем інтэрнатуры. Апошнюю можна было бачыць у розных мадыфікацыях: ад 3-х спецыяльнасцей (тэрапія, хірургія і акушэрства з гінекалогіяй) да 6—8 і больш.

Паколькі размова ідзе аб змене менавіта гэтай мадэлі падрыхтоўкі ўрача, трэба больш дэталёва даць ёй характарыстыку.

Такім чынам, разгледзім праграму падрыхтоўкі ўрача-спецыяліста праз сістэму з субардынатурай і інтэрнатурай. Хочацца адразу адзначыць, што яна знаходзіцца ў поўнай неадпаведнасці з патрэбамі і запытаннямі як медыцынскай навукі, так і практычнай аховы здароўя, якая штогод папаўнялася ўрачамі-спецыялістамі невысокай кваліфікацыі. Паколькі патрэбнасць у іх пры сучасным стане планавання фактычна рэгулярна была невядомай, амаль усе выпускнікі пачыналі сваю ўрачэбную дзейнасць не па мэце навучання: большасць выпускнікоў размяркоўвалася ў амбулаторна-паліклінічныя ўстановы, хоць і па спецыяльнасці, але без пэўнага ўліку тых ведаў, якія былі атрыманы ў субардынатуры і інтэрнатуры; значная частка наогул не па спецыяльнасці; і толькі некаторыя пачыналі сваю дзейнасць з улікам атрыманай падрыхтоўкі. Шлях станаўлення найбольшай колькасці выпускнікоў, якія пачалі работу з паліклінічных устаноў, працяглы і няпэўны: адпрацаваўшы тры абавязковыя гады ў паліклінічных установах і амбулаторыях і засвоіўшы практыку паліклінічнага ўрача, яны набывалі права заняцца павышэннем (дакладней, станаўленнем) сваёй кваліфікацыі па спецыяльнасці ўжо ва ўмовах стацыянара. Як бачым, тэрмін падрыхтоўкі і станаўлення ўрача-спецыяліста невысокай кваліфікацыі працягваецца мінімальна 13 год. Якая ж тады эфектыўнасць субардынатуры і інтэрнатуры? Сёння бачна, што яны патрабуюць рэарганізацыі, бо сённяшні іх стан нікога не задавальняе.

Яшчэ засталіся ў памяці масавыя акцыі па правядзенню прафарыентацыі сярод школьнікаў, паўлегальнае і ўжо сёння легальнае рэпетытарства паступаючых, незразумелая штогадовая неразбярыха са змяненнем праграмы ВНУ і ў сувязі з гэтым пераразмеркаванне нагрузак сярод выкладчыкаў, змяненне профілю іх работы, а значыць і аслабленне падрыхтоўкі будучых кадраў. Усё гэта ў рэшце рэшт выливалася ў непатрэбны паток папер, непаразуменні, што адцягвала ўвагу ад задач больш важных. Сёння кабінетная валюнтарысцкая рэарганізацыя заяўляе аб сабе ў поўнай меры. З усяго гэтага непатрэбнага можна выдзеліць, напэўна, адно—павышэнне патрабаванняў да ацэнкі будучых спецыялістаў. Хоць як іх ацаніць аб'ектыўна? Як выключыць магчымасць суб'ектыўнага падыходу выкладчыка? Гэта праблема вырашальная, калі выкарыстоўваць для гэтых мэт камп'ютэрную і іншую тэхніку, да якой нам яшчэ так далёка. Было і такое, калі на працягу года выключалася за непаспяховасць больш як сто студэнтаў. У свой час гэта прынесла добрыя вынікі. Але такі падыход мог бы быць зусім апраўданым, калі б выключэнне ў такой колькасці студэнтаў з інстытута працягвалася б не больш, чым на працягу паўтара—двух год. Высокія адэкватныя патрабаванні да ўзроўню ведаў студэнтаў пры стварэнні аптымальных умоў для навучання—неабходнасць вышэйшай медыцынскай адукацыі. Аднак неаб'ектыўная і неўсебаковая ацэнка ведаў і магчымасцей студэнта, за якімі як вынік стаіць яго выключэнне з інстытута, недапушчальная. Калі кожны год выключэнне студэнтаў з інстытута не памяншаецца, то гэта патрабуе дакладнага аналізу.

Якія ж асноўныя прынцыпы недасканаласці вышэйшай медыцынскай адукацыі? Першае, на што хацелася б звярнуць увагу, гэта галеча ўсіх навучальна-вытворчых клінічных баз, нізкая тэхнічная ўзброенасць выкладчыка і студэнта, адсутнасць у апошніх нармальных умоў для навучання як у працэсе заняткаў, так і ў быце: заняткі, як і 40 год таму, праходзяць нярэдка ў калідорах і на лесвічных пляцоўках, харчаванне студэнтаў на большасці баз не арганізавана і г.д. Гэта, калі можна так сказаць, матэрыяльны бок. Але давайце паглядзім у гэтым ракурсе тэарэтычны аспект: ці адпавядаюць сённяшняму дню мэты і задачы вышэйшай медыцынскай адукацыі? З поўнай падставай магу сказаць, што не. З аднаго боку, нам кажуць, што нашы ВНУ не павінны рыхтаваць кваліфікаванага спецыяліста, таму што, маўляў, ён у поўнай меры гэтага не можа зрабіць. У той жа час існуе абавязковая сістэма падрыхтоўкі спецыялістаў вузкага профілю праз субардынатуру-інтэрнатуру. Вось тут і хаваецца, на мой погляд, супярэчнасць, якая гаворыць аб адсутнасці дакладнага ўяўлення аб мэтавай важнасці як вывучаемага прадмета, так і ўсяго навучальнага працэсу ў студэнтаў і выкладчыкаў.

На жаль, узровень падрыхтоўкі спецыялістаў залежыць не толькі ад выкладчыкаў, але і ад супрацоўнікаў базавых устаноў—бальніц. Расхістаная сістэма прававых адносін паміж кафедрамі і бальніцамі не толькі не спрацоўвае, але іншы раз тармозіць справу зусім. Атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: распараджальнікі базавых клінік не хочуць браць на сябе адказнасць за якасць падрыхтоўкі ўрачоў, спасылаючыся на тэарэтычную «падкоўку» выпускнікоў. ВНУ ж, у сваю чаргу, ківаюць на практычны бок, тэорыя, маўляў, без практыкі нішто, тым больш у медыцыне. Вось і стаіць будучы спецыяліст або ўжо ўрач на раздарожжы. Выштурхнулі яго ва вароты і—няхай будзе, што будзе, нагоняй упушчанае, або недададзенае сам. Далей — размеркаванне. Каго куды пашлюць? Згадзіцеся, тут сёння дамінуе пакуль, на жаль, суб'ектыўны фактар, што ў рэшце рэшт бумерангам зноў жа вяртаецца ў медыцынскія ўстановы да тых жа студэнтаў, а навошта старацца? Вось і атрымліваем тыя плады, якія часта прыходзіцца збіраць у нашых клініках, калі з-за няздары, гора-спецыяліста пакутуюць ні ў чым не вінаватыя людзі.

Удасканаленне ўрача, спасціжэнне вяршынь майстэрства, вернасць клятве Гіпакрата павінны адбывацца на працягу ўсёй яго працоўнай дзейнасці.

Аднак у пачатку свайго ўрачэбнага шляху малады спецыяліст мае патрэбу ў «спецыяльных інстытутах». У меншай ступені такую патрэбнасць адчуваюць тыя, хто аказаўся ў клініках або хаця б на ўзроўні абласных лячэбна-прафілактычных устаноў і вельмі яны неабходныя для тых, хто пачаў работу ва ўстановах больш нізкага звяна. Пакуль жа шляхі станаўлення спецыялістаў (асабліва ў першыя гады) няпэўныя і невядомыя. Высокакваліфікаванае ўдасканаленне ведаў, аб'ектыўная атэстацыя і ацэнка ўзроўню кваліфікацыі ўрачоў-спецыялістаў, думаю, магчыма толькі ў сістэме інстытутаў удасканалення ўрачоў.

Я мог бы і далей працягваць прыводзіць масу прыкладаў, каб пераканаць цябе, чытач, толькі ў адным, што сістэма падрыхтоўкі медыцынскіх ВНУ, узровень медыцыны, яе тэхнічнае абсталяванне, сёння, мякка кажучы, нікуды не вартыя. Ці трэба? Не, таму што многія з нас у гэтым пераканаліся на ўласным вопыце. Хачу, каб мяне зразумелі правільна, я зусім не думаю прымяншаць бліскучыя дасягненні нашай айчыннай медыцыны, але яна трымаецца не на дзяржаўнай праграме, а на людзях-фанатыках, спецыялістах, якія захоплены сваёй справай.

І разам з тым сістэму падрыхтоўкі медработнікаў мяняць неабходна. Што прапаную я?

Па-першае, вышэйшая медыцынская адукацыя павінна прадугледжваць стварэнне мадэлі ўрача-лячэбніка агульнага профілю, падрыхтаванага як для практычнай, так і для навуковай дзейнасці працягласцю навучання ў шэсць гадоў. Не зніжаючы якасці агульнаўрачэбнай падрыхтоўкі, трэба стварыць умовы для прафесіянальнай арыентацыі студэнтаў з першага курса навучання па трох напрамках—тэрапеўтычным, хірургічным і акушэрска-гінекалагічным шляхах, фарміруючы групы тых, хто навучаецца, з улікам іх жаданняў і запытаў аховы здароўя па ўказаных напрамках. На профільных (выпускных) клінічных кафедрах з ліку высокакваліфікаваных спецыялістаў вызначыць асоб, адказных за рэалізацыю дадзенай праграмы. Істотнай дапрацоўкі ў гэтым плане заслугоўваюць і кафедры тэарэтычнага профілю, на якіх неабходна стварыць умовы для паспяховага правядзення навучання з улікам напрамкаў прафарыентацыі, уключаючы розныя аспекты выкладання і засваення дысцыплін. Гэта, на мой погляд, зробіць працэс навучання менш працаёмкім і больш эфектыўным, і самае галоўнае, дасць магчымасць студэнтам канчаткова сфарміраваць сваю думку аб будучай прафесіі, прымусіць выпадковых людзей самім пайсці з няправільна абранага шляху, а сапраўдным эскулапам надасць упэўненасці. Якая ж працягласць навучання студэнтаў: пяць або шэсць год? Тым больш прыходзіцца чуць розныя думкі па гэты конт. Думаю, што шэсць (тры гады агульнабіялагічнай і тры гады клінічнай), таму што студэнт пры насычанай праграме, як паказвае практыка, не паспее за пяць гадоў усё «пераварыць».

Хацелася б крыху спыніцца на праблеме падрыхтоўкі ўрача-педыятра. Яна, на мой погляд, можа праходзіць двума шляхамі. Першы—гэта стварыць чацвёрты напрамак прафарыентацыі—педыятрычны, такім чынам, пераўтварыўшы педыятрычны факультэт, а замест яго, на гэтай жа базе пачаць падрыхтоўку ўрачоў па спецыяльнасці «лячэбная справа» з педыятрычнай прафарыентацыяй. Другі шлях—гэта захаваць педыятрычны факультэт, значна пашырыўшы яго праграму, уключаючы і іншыя напрамкі (дзіцячы хірургічны і інш.), акрамя педыятрычнага.

А вось яшчэ новы аспект у падрыхтоўцы ўрача, які яўна пачаў назірацца ў наш вірлівы час—узрастанне даверу да «сямейных урачоў». Нельга праходзіць міма гэтага і абавязкова неабходна ўлічваць пры падрыхтоўцы студэнтаў шляхам стварэння аналагічнай прафарыентацыі ўжо з першага курса навучання. Асабліва гэта важна замацаваць у час паслядыпломнай практыкі ў амбулаторна-паліклінічных установах, якая пасля шасцігадовага навучання ў інстытуце павінна працягвацца два гады, што таксама адпавядае запытам органаў аховы здароўя. Але ж гэтаму, на жаль, не ўдзяляецца належнай увагі, не гаворачы ўжо аб выніковай атэстацыі будучых спецыялістаў. Неабходна праверыць у амбулаторна-паліклінічных умовах, што сабой уяўляе ўрач і толькі пасля гэтага неабходна вырашыць, дзе яму працаваць далей: у амбулаторна-паліклінічных або стацыянарных умовах, і ў сувязі з гэтым удасканальваць далей сваю кваліфікацыю.

Думаю, што кожны разумее важнасць кампетэнцыі ўрача, а каб такім стаць, неабходна пастаянна крочыць у нагу з навукай. Таму важным звяном у яго станаўленні з'яўляецца інстытут удасканалення. І ўжо сам сабой напрошваецца вывад: урач павінен быць атэставаны. Атэстацыйныя цыклы з удасканаленнем кваліфікацыі—гэта, падкрэсліваю, правільны, калі не адзіны шлях наступнай падрыхтоўкі ўрача.

**Мае разважанні, магчыма, разлічаны на больш вузкае чытацкае кола, на спецыялістаў галіны медыцыны. Тым не менш, мне хацелася б звярнуць увагу і паставіць гэтыя пытанні перад усімі, асабліва перад тымі, хто так або інакш мае адносіны да падрыхтоўкі медыцынскіх кадраў. Хто нас лечыць?—часам усклікаем мы і разам з абурэннем спрабуем абвінаваціць усё і ўся ў некампетэнтнасці і нядобрасумленнасці. Наша здароўе—у нашых руках, гэтак жа як і добрасумленнасць і кампетэнтнасць. Мае разважанні—гэта накіды маёй праграмы, калі можна так сказаць, канцэпцыі, падрыхтоўкі спецыялістаў медыцыны. Сёння ідуць прыёмныя экзамены, многія абралі свой жыццёвы шлях і мне б хацелася, калі каго мае думкі зацікавяць, каб і яны выказалі свае адносіны да існуючай праблемы. Мы сумесна павінны прабіць сцяну неразумення важнасці такой галіны, як ахова здароўя. Такім чынам, свае лісты і пажаданні прашу высылаць на адрас рэдакцыі.**

# КАЛІ АЙЧЫНА Ў НЕБЯСПЕЦЫ

22 чэрвеня спаўняецца 50 год з таго журботна-гістарычнага дня, калі гітлераўская Германія без аб'яўлення вайны абрушыла на нашу краіну ўдар вялікай сілы. «Яе авіяцыя ажыццявіла масавыя налёты на аэрадромы, чыгуначныя вузлы і групоўкі савецкіх войск, размешчаныя ў прыгранічнай зоне, а таксама на гарады Мурманск, Каўнас, Мінск, Кіеў, Адэсу, Севастопаль. Нямецка-фашысцкая артылерыя падвергла жорсткаму абстрэлу пагранічныя ўмацаванні і раёны дыслакацыі перадавых злучэнняў армій і часцей пагранічных войск. Услед за першымі авіяцыйнымі ўдарамі і артылерыйскай падрыхтоўкай перайшлі ў наступленне на фронце ад Балтыкі да Карпат сухапутныя войскі. Адначасова пачаліся баі паўднёвей Карпат паўз румынскую граніцу да Чорнага мора». Разам з фашысцкай Германіяй у вайну супраць СССР уступілі Венгрыя, Італія, Румынія і Фінляндыя. Армія захопнікаў налічвала 5,5 млн. салдат і афіцэраў — 190 дывізій, 4300 танкаў і штурмавых гармат, амаль 5 тыс. баявых самалётаў, звыш 47 тыс. гармат і мінамётаў, больш як 190 баявых караблёў. Ніколі яшчэ не ствараласся падобнай машыны агрэсіі.

Германскі фашызм спачатку выступаў у якасці злейшага ворага Савецкага Саюза і рэвалюцыйнага руху. Захопніцкія задумы былі выкладзены ў кнізе Гітлера «Майн Кампф» у 1925 годзе, задоўга да прыходу яго да ўлады. «Калі мы сёння гаварылі аб новых землях і тэрыторыях у Еўропе,— цынічна апавядаў будучы фюрэр,— мы звяртаем свой погляд у першую чаргу да Расіі». Бальшавіцкая Расія «паспела» для гібелі».

З прыходам фашыстаў да ўлады пачалося прамое планаванне германскай агрэсіі супраць СССР. Менавіта тады, яшчэ ў 1933 г., Гітлерам быў выкладзены план уварвання ў нашу краіну, а фашысцкае камандаванне ўжо накоплівала звесткі аб Чырвонай Арміі, вывучала асноўныя аперацыйныя напрамкі ўсходняй кампаніі і вызначала магчымыя варыянты ваенных дзеянняў. Пасля разгрому Францыі, калі, на думку фашысцкага кіраўніцтва, быў забяспечаны тыл будучай вайны і ў распараджэнні Германіі аказалася дастаткова рэсурсаў для яе вядзення, пачалося планаванне вайны канкрэтнае і ўсебаковае. 30 чэрвеня 1940 г. начальнік генеральнага штаба сухапутных войск генерал-палкоўнік Гальдэр запісаў у службовым дзённіку: «Асноўная ўвага — на Усход». 31 ліпеня 1940 г. былі ўдакладнены мэты і задумы вайны, вызначаны яе тэрмін. Гітлер абгрунтаваў неабходнасць ваеннага разгрому Савецкай дзяржавы імкненнем заваяваць панаванне ў Еўропе. «У адпаведнасці з гэтым...— заявіў ён,— Расія павінна быць ліквідавана». Фашысты заяўлялі, «...што яны перакананы ў немінучым падзенні сталінскай дзяржавы. Фашызм не пацерпіць далейшага развіцця савецкай магутнасці».

Чырвоная Армія аказалася ў пачатку вайны ў цяжкім становішчы, яна вымушана была абараняцца і адыходзіць, несла цяжкія страты. Але ўжо ў першыя дні баёў бесперспектыўнасць гітлераўскага плана «маланкавай вайны» была відавочнай. Савецкія воіны ўпісалі ў гісторыю вайны такія бліскучыя старонкі, як абарона Брэста, Перамышля і Ліепаі, шматлікія подзвігі салдат і афіцэраў цэлых часцей і злучэнняў. Пералічэнне прыкладаў геранчнага супраціўлення чырвонаармейцаў заняло б многія старонкі. 11 пагранічнікаў атрымалі званне Герой Савецкага Саюза, 737 узнагароджаны ордэнамі і медалямі. 32 чырвонаармейцы 3-й заставы 86-га Аўгустаўскага пагранічнага атрада ў раёне Гродна на працягу дзесяці гадзін адбілі 7 атак пераўзыходзячых войск праціўніка. Шэраг іншых пагранічных застаў таксама не здалі ў няроўным баі сваіх пазіцый, і праціўнік змог пачаць рух толькі тады, калі загінуў апошні баец. Да сярэдзіны ліпеня гітлераўцы страцілі каля 100 тыс. чалавек, амаль палову танкаў, каля 1300 баявых самалётаў.

Бой пад Смаленскам, абарона Адэсы, Кіева, Севастопаля, Ленінграда паказалі высокі маральна-палітычны дух савецкага народа і яго арміі, іх цвёрдую рашучасць адстаяць Радзіму. Гераічная абарона гарадоў, пісала «Праўда» 11 верасня 1941 г.,— «хвалюючы прыклад беззапаветнай любві да Радзімы.., здзіўляючае па сіле праяўленне масавага гераізму».

Дзякуючы мабілізацыі ўсіх маючых сіл Савецкаму Саюзу ўдалося да канца 1941 г. стварыць больш як 400 новых дывізій, падвоіць колькасць сваіх Узброеных Сіл.

Перамога Чырвонай Арміі пад Масквой канчаткова зблытала разлікі ворага на «бліцкрыг», яна азначала важны паварот ваенных падзей на карысць СССР.

Разгром немцаў пад Сталінградам паклаў пачатак карэннаму пералому ў Вялікай Айчыннай вайне. Перамога на Волзе з'явілася паваротным пунктам у гісторыі ўсёй другой сусветнай вайны.

«Паражэнне пад Сталінградам,— як аб гэтым пісаў генерал-лейтэнант Вестфаль,—прывяло ў жах як нямецкі народ, так і яго армію. Ніколі раней за ўсю гісторыю Германіі не было выпадку страшнай гібелі такой колькасці войск».

У выніку Курскай бітвы немцы былі пастаўлены перад ваеннай катастрофай. Гісторык з Германіі В. Герлітц з жалем пісаў у сувязі з гэтым: «Буйная бітва на Курскай дузе з'явілася для немцаў пачаткам смяротнага крызісу». Выхад савецкіх войск да Дняпра завяршыў карэнны перадом у ходзе баявых дзеянняў.

Да пачатку 1944 г. нашы войскі валодалі стратэгічнай ініцыятывай. Дасягнуты пераломам у вайне, поспехі ў знешняй і ўнутранай палітыцы сацыялістычнай дзяржавы, умацаванне яе эканомікі, няўхільна растучая баявая магутнасць і майстэрства арміі і флоту дазвалялі Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму планаваць наступленне ва ўсё большых маштабах. У 1944 і ў пачатку 1945 года Чырвоная Армія правяла такія гістарычныя аперацыі, як ліквідацыя блакады Ленінграда, небывалы разгром гітлераўскіх войск у Беларусі, у Прыбалтыцы, на правабярэжнай Украіне, на Вісле і Одэры.

Новыя поспехі савецкай зброі стварылі спрыяльныя ўмовы для завяршальнага ўдару на Берлінскім напрамку. Бітва за сталіцу трэцяга рэйха ўпрыгожыла пераможны шлях Савецкіх Узброеных Сіл у Вялікай Айчыннай вайне. 8 мая фельдмаршал Кейтэль вымушаны быў падпісаць акт аб безагаворачнай капітуляцыі фашысцкай Германіі. Самая разбуральная вайна чалавечай гісторыі вярнулася і заканчвалася там, адкуль пачалася.

Вайна патрабавала гераічных намаганняў ад работнікаў сельскай гаспадаркі, каб забяспечыць фронт і тыл дастатковай колькасцю прадуктаў харчавання, а прамысловасць—сыравінай. У былой царскай Расіі за чатыры гады першай сусветнай вайны было нарыхтавана ўсяго 1399 млн. пудоў хлеба, г. зн. у тры разы менш, чым калі калгасы і саўгасы ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны.

Разгром фашысцка - мілітарысцкага блоку быў дасягнуты сумеснымі намаганнямі больш чым 50 дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі і руху Супраціўлення. Але ўклад кожнага з іх у перамогу быў нераўназначны. Вядучай і рашаючай сілай у барацьбе з агрэсарамі ў другой сусветнай вайне была Чырвоная Армія, Савецкія Узброеныя Сілы. Гэта неаспрэчны факт, і ён прызнаны ўсімі народамі свету. У. Чэрчыль сцвярджаў: «Пачварная машына фашысцкай улады была зломлена пераўзыходжаннем рускага манеўра, рускай доблесці, савецкай ваеннай навукі і цудоўным кіраўніцтвам савецкіх генералаў». Ён жа заўважыў: «Акрамя савецкіх армій, не было такой сілы, якая магла б пераламаць хрыбет гітлераўскай ваеннай машыне». Шмат добрых слоў у адрас нашай арміі, Савецкай дзяржавы было сказана Ф. Рузвельтам і Ш. дэ Голем, Д. Эйзенхаўэрам і Б. Мантгомеры, іншымі. Вось у прыватнасці, выказванне на гэты конт генерала Эйзенхаўэра: «Кампаніі, праведзеныя Чырвонай Арміяй, адыгралі рашаючую ролю ў паражэнні Германіі».



Якія ж галоўныя прычыны нашай перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне? Якія аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары, што дазволілі савецкаму народу і яго арміі не толькі выстаяць супраць вераломнага і моцнага ворага, але і нашчэнт разбіць яго?

Гэта пытанне мае важнейшае прынцыповае значэнне, паколькі буржуазныя палітыкі, ідэолагі і ваенныя дзеячы стараюцца прынізіць ролю Савецкага Саюза, паменшыць рашаючае значэнне перамогі Чырвонай Арміі, фальсіфікаваць падзеі Вялікай Айчыннай і другой сусветнай вайны ў цэлым. Яны непамерна павялічваюць ролю другога фронта, вылучаюць версіі, што прычыны перамогі СССР у мінулай вайне тлумачацца неспрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі, суровасцю рускай зімы, слабай развітасцю дарожнай сеткі, абшырнасцю тэрыторыі, «трагічнымі памылкамі» Гітлера і г.д. Словам, не ўлічваючы ісціну, буржуазная гісторыя спрабуе паменшыць рашаючы ўклад Савецкага Саюза ў справу перамогі над фашызмам.

Перамога нашай краіны ў вайне глыбока заканамерная. За тры перадваенныя пяцігодкі ў нас з'явіліся новыя галіны прамысловасці, уступіла ў строй 9 тыс. прадпрыемстваў. Вынікам выканання перадваенных пяцігадовых планаў стала ператварэнне нашай Радзімы ў магутную індустрыяльную дзяржаву.

Савецкая ваенная прамысловасць пераўзышла нямецкую не толькі па колькасных, але і якасных паказчыках. Непрыемным сюрпрызам для ворага стала з'яўленне на фронце лепшага танка другой сусветнай вайны Т-34, мінамётаў БМ-8, БМ-13 і БМ-12, штурмавікоў ІЛ-2 і ІЛ-10, знішчальнікаў А. Якаўлева, С. Лавачкіна, А. Мікаяна і М. Гурэвіча, бамбардзіроўшчыкаў А. Тупалева і В. Петлякова, падводных лодак М. Рудніцкага і іншых узораў баявой тэхнікі і зброі. Так, генеральны інспектар танкавых войск вермахта генерал Гудэрыян пісаў, што з'яўленне ў канцы чэрвеня 1941 г. на фронце танка Т-34 прывяло іх войскі ў шокавы стан, а ваеннае кіраўніцтва нацыстаў вымушана было прызнаць, што ён—унікальны і скапіраваць яго немагчыма. Даведаўшыся аб гэтым, Гітлер, па сведчанню таго ж Гудэрыяна, сказаў: «Калі б я гэта ведаў раней... думаю, што і не распачаў бы гэту вайну».

Якаснае пераўзыходжанне савецкай зброі было адной з прычын, паскорыўшых паражэнне фашысцкіх войск.

Менавіта савецка-германскі фронт быў галоўным фронтам другой сусветнай вайны. Актыўныя баявыя дзеянні войск на гэтым фронце складалі 93 працэнты, а на трох франтах саюзнікаў (паўночнаафрыканскім, італьянскім і заходнееўрапейскім)—53 працэнты часу іх існавання. На савецка-германскім фронце вораг панёс звыш 70 працэнтаў усіх сваіх страт, праіграў бітвы, якія вызначалі ход і вынік другой сусветнай вайны. Узброеныя Сілы Савецкага Саюза вызвалілі на еўрапейскім кантыненце поўнасцю або часткова тэрыторыю 11 краін з насельніцтвам 113 млн. чалавек. Тым самым яны адыгралі рашаючую ролю ў пазбаўленні народаў Еўропы ад фашысцкай акупацыі.

Гітлераўскае кіраўніцтва перакідвала войскі і баявую тэхніку з іншых тэатраў ваенных дзеянняў, але гэта не выратавала нямецка-фашысцкі вермахт ад катастрафічнага разгрому. Галоўныя яго сілы, яго ваенная тэхніка былі разгромлены на савецка-германскім фронце, і ў гэтым ёсць рашаючы ўклад савецкага народа і яго Узброеных Сіл у дасягненні агульнай перамогі.

Вынікі гіганцкага ваеннага сутыкнення сацыялізму з ударнымі сіламі імперыялізму ўвачавідкі і пераканаўча даказалі, па-першае, што сацыялізм як грамадскі лад мае большыя патэнцыяльныя магчымасці; па-другое, вопыт кааліцыйнай палітыкі мінулай вайны гаворыць аб тым, што дзяржавы-пераможцы ніколі не павінны дапусціць паўтарэння агрэсіі з боку Германіі або якой-небудзь іншай дзяржавы; па-трэцяе, нашай краіне патрэбна моцная сучасная армія і флот, здольныя забяспечыць надзейную абарону Радзімы. У гэтым галоўны сродак папярэджання страшных вынікаў агрэсіі, верагоднасць якой усё яшчэ захоўваецца. Будзем памятаць перасцярогу нашага ваеннага гісторыка А. Свегіна, які яшчэ ў 1923 годзе гаварыў: «Крыніцай войн з'яўляецца... не толькі ўзмацненне адных палітычных груповак, але і спыненне росту або паслаблення другіх».

**М. ЖАРКОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**Л. ПАЎЛОВІЧ,**
**кандыдат геаграфічных навук.**

# Апаленае дзяцінства




ЗАРАЗ, калі я зноў і зноў задумваюся, ці можна і ці патрэбна мне пісаць пра вайну, прыходжу да думкі, што напісаць трэба. Напісаць аб тым, што захавала хлапечая памяць, трэба вось чаму. Пра дзяцей мінулых ваенных год сталі сёння пісаць часцей — гэта ж таксама апаленае вайной пакаленне, якое вайну вынесла, выцерпела і якое разам з параненымі салдатамі бачыць вайну ў сваіх трывожных снах. Успамінаю, як мы, хлопцы ваеннага гарадка Уручча, з асаблівым пачуццём чакалі нядзельнага дня. На 22 чэрвеня было прызначана спартыўнае свята дывізіі і адкрыццё новага стадыёна. Мы ўжо на ім паспелі пабываць, усё агледзець. Чакалі самога адкрыцця. Бо што можа быць прыгажэй, чым урачысты і захапляючы рытуал воінскага свята. Ну, а калі свята гэта спартыўнае, то тут у адзіным сплаве і строй, і марш, і сіла, і спрыт — якасці найбольш каштоўныя для падлеткаў усіх часоў.

Мы чакалі з нецярпеннем 22 чэрвеня. Бацька, які мог бы разбудзіць мяне раніцай у нядзелю, незадоўга да гэтага паехаў у камандзіроўку, на чарговую праверку войска. Але я не праспаў і ўжо даволі рана выбег на вуліцу... Наш ваенны гарадок выглядаў чамусьці зусім не па-святочнаму.

На світанку баявая трывога падняла ўсе часці дывізіі. Бацькі маіх сяброў, якія служылі ў дывізіі, пайшлі са сваімі палкамі і ротамі па трывозе. Раніца запомнілася мне сонечнай, ледзь ветранай. На вуліцы і ўдалося пачуць, што быццам бы пачалася вайна. Пазней па радыё аб гэтым было аб'яўлена ў прамове Молатава.

На 6 дзень вайны — 27 чэрвеня сем'і ваенных эвакуіраваліся з Уручча.

Мы ехалі не вельмі вялікай калонай па Мінскай шашы. Не раз прыходзілася спыняцца, скакаць з машын, хавацца ў кюветах, класціся на зямлю. Фашысцкія самалёты пралятаглі над намі і побач. Часам стралялі па нас. Лёталі беспакарана, зніжаліся, разглядвалі нас. Шаша была параўнаўча свабоднай. Дзесьці недалёка ад Барысава адзін гітлераўскі лётчык знізіўся амаль да зямлі, праляцеў справа, ды так блізка, што нават быў відаць яго шлем. Байцы, у тым ліку і нашы шафёры, стралялі з вінтовак з калена, але самалёт не збілі. У Барысаве, які таксама бамбілі фашысты, нам аб'явілі, што на машынах будзем рухацца да Оршы. Вечарам прыбылі ў Оршу і адразу на станцыі сталі размяшчацца ў эшалонах, якія стаялі на пуцях. Вагоны ўжо былі не пасажырскія, а таварныя. У вагонах сядзелі і ляжалі вельмі шчыльна, на наспех прыстасаваных нарах. На світанку ехалі праз Смаленск. Запомніўся паветраны налёт на Смаленск. Побач з намі стаяў воінскі эшалон. Наш састаў ішоў праз Бранск, ехалі кудысьці да Волгі. Але ў нас у Бранску былі родныя: муж сястры маёй маці камандаваў танкавым палком. Вырашылі ў іх спыніцца, пакуль вайна не скончыцца. Родзічы вельмі абрадаваліся нам. Прынялі, размясцілі. З самых моцных успамінаў таго часу — паветраныя трывогі, рэзкі пах хвоек, з якіх былі абсталяваны бамбасховішчы, выгляд светлага і чыстага пяску. І яшчэ адно — налёты варожай авіяцыі, высока ў небе самалёты, добра бачныя вокам па тры ў страі, ідучыя нахабна, з разлікам на беспакаранасць за сваю чорную справу. Адной з самых вялікіх падзей таго часу стаў збіты фашысцкі самалёт. Лётчык выкінуўся на парашуце і зніжаўся ў накірунку параўнальна вялікага лесу, які пачынаўся на ўскраінку горада. Здавалася, увесь Бранск, хто мог, бягом кінуўся да лесу. Беглі і мы — хлапчукі. Думаю, што сотні людзей марылі схапіць гэтага фашыста, глянуць і плюнуць яму ў вочы. Але нашай групе рабят фашыста ўбачыць так і не ўдалося. Яго схапілі нашы байцы. Нядоўга нам прыйшлося пажыць ў Бранску. Роўна адзін месяц — дзень у дзень, 27 ліпеня эвакуіраваліся ўжо з Бранска. Зноў састаў. Зноў у таварных вагонах. Зноў на ўсход. Відаць, старэйшыя — нашы маці, ужо разумелі, як крута павярнула вайна, якія выпрабаванні выпалі ўсім нам, усяму нашаму народу.

Расійская вёска, як і гарады Паволжа, Урала, Сібіры прыняла, дала дах і прытулак, абагрэла, накарміла, дала працу тысячам эвакуіраваных. Мне давялося жыць у вёсцы Нова-Міхайлаўка Нарукскага раёна Горкаўскай вобласці. У гэтай вялікай рускай вёсцы з неаглядными палеткамі, магутнымі лясамі, шчодрымі на дары прыроды, і ціхай, чыстай празрыстай вады рэчкай Алатыр мне давялося пражыць да паступлення ў сувораўскае вучылішча два гады.

Вёска, калгас сталі маёй школай жыцця. І я добра ведаў, што такое праца, і вучыўся яе цаніць. Усіх мужчын з вёскі забралі. А тыя, хто падрастаў, кожны год ішлі ў армію. А потым усё часцей і часцей ішлі ў вёску «пахаронкі». Удовы і маці загінуўшых забываліся ў адчайным крыку і плачы, а ўжо на наступны дзень ішлі і рабілі сваю нялёгкую сялянскую працу. Гэта была праца, без якой цяжка было б выстаяць краіне. Калгас усё, што мог, аддаваў краіне, фронту. Мая маці стала працаваць рахункаводам у калгасе. Давялося і мне далучацца да пасільнай сялянскай працы. Летам прыходзілася працаваць у полі, дапамагаць на таку. Працаваў некаторы час у брыгадзе землямераў.

Галоўнае, што сёння асабліва помніцца, гэта тое, што цяжкія ваенныя гады ў вёсцы ва ўсіх былі запоўнены працай ад ранку да ранку. Працай, каб выканаць планы дзяржаўных паставак — першай запаведзі калгасніка, каб пракарміць краіну. Працай, каб пракарміць сябе, выжыць, вытрымаць.

Лягчэй стала ў сорак трэцім годзе. Перамены да лепшага на фронце сталі адчувальныя і ў вёсцы.

У ЛІСТАПАДЗЕ 1943 года я назаўсёды развітаўся з Нова-Міхайлаўкай. Паступіў у Варонежскае сувораўскае ваеннае вучылішча. Звязаў свой лёс і жыццё, як і бацька, з арміяй.

**В. ХАЛІПАЎ.**

г. Масква.

# Тусоўка

**МНОГІЯ дарослыя лічаць, што тусоўка — гэта зборышча п'яных падлеткаў, якія не маюць ні мэты ў жыцці, ні пэўнага занятку. Тыя, хто так лічыць, не маюць рацыі.**

**Як правіла, тусоўкі ўтвараюцца ў нейкіх пэўных месцах, дзе рабяты абменьваюцца інфармацыяй. Самыя буйныя тусоўкі ў Мінску—«на ГУМе», «на Феліксе» (так называецца парк, дзе стаіць помнік Феліксу Эдмундавічу), «на Гвіне» (кафэ «Пінгвін»), ёсць яшчэ некалькі месцаў. Іх пастаянных наведвальнікаў аб'ядноўваюць агульныя інтарэсы. Кожная такая тусоўка адрозніваецца адна ад адной. Напрыклад, рабяты, якія тусуюцца «на ГУМе», называюць сябе дэпешамі, зыходзячы з прыхільнасці да англійскай групы «Дэпеш Мод», а «на Пінгвіне» раней збіраліся «хіпі», зараз там «металісты».**

**Ва ўсе часы людзі мелі патрэбу ў зносінах, але са з'яўленнем тэлевізараў замкнуліся ў сваім маленькім «мірку». Раней людзі часцей збіраліся (або, як бы зараз сказалі, тусаваліся), спявалі, расказвалі цікавыя гісторыі, абменьваліся навінамі. Дык чаму ж сёння многія прымаюць маладзёжныя тусоўкі ў штыкі? Навошта прама звязваюць іх са злачыннасцю?**

**Не трэба толькі блытаць тусоўкі з групоўкамі. У групоўках пануюць куды больш строгія «законы». І калі розныя тусоўкі неяк маюць зносіны паміж сабой, то члены груповак да чужых ставяцца падазрона, а іншы раз нават і ненавісна.**

**Куды імкнуцца рабяты з тусоўкі? Туды, дзе весялей, дзе больш людзей і дзе, як выказаўся адзін мой знаёмы, можна пасвавольнічаць. Але толькі не трэба думаць, што свавольнічаць — значыць рабіць нешта дрэннае, не. Гэта значыць, забаўляцца так, каб было весела і табе, і іншым, але пры гэтым нікому не прыносіць непрыемнасцей.**

**Звычайна тусоўка пачынае сваё жыццё бліжэй да вечара. Прыходзячы сюды, вы можаце рабіць, што вам захочацца. У вас добры настрой? Выдатна! Вы можаце што- небудзь праспяваць, не баючыся, што вас хто-небудзь асудзіць, можаце танцаваць, можаце проста весяліцца, бо дома, пры бацьках, гэта немагчыма. У рэшце рэшт не заўсёды. Тут жа вы зусім можаце**



**быць самім сабой. Калі ж у каго непрыемнасці, напрыклад, пасварыўся з бацькамі і пайшоў, грукнуўшы дзвярыма, ён абавязкова прыйдзе сюды, на тусоўку. Тут свае, тут цябе не пакрыўдзяць, а калі трэба то і падтрымаюць. Толькі і чуеш размовы:**

**— Што ён ад мяне хоча, толькі крычыць, як немаведама хто...**

**Або:**

**— Яна мне ўсе дзіркі на штанах пазашывала! Не, я ёй ніколі гэтага не дарую.**

**НАВОШТА крычаць услед сваім пасталеўшым дзецям: «Ты зноў на сваю тусоўку?!» Навошта думаць пра іх дрэнна? Яны ж бягуць на тусоўку, каб хоць на нейкі час выкінуць з галавы ўсе тыя праблемы, якія ў іх ёсць дома. Дык давайце ставіцца адзін да аднаго прасцей. Успомніце сваю маладосць! Ці ж вы ніколі не хацелі адысці са сваімі сябрамі ад усіх клопатаў, пайсці далёка-далёка, каб вас ніхто не знайшоў?**

**К. КУЛІК.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

*Факт і каментарый*

# Мяжа



**Дзве падзеі, з якіх адна абышла старонкі ўсіх рэспубліканскіх газет, а другая не паслужыла тэмай амаль ні для адной публікацыі...**

**Сапраўды, першы за ўсю гісторыю рускай праваслаўнай царквы візіт у Беларусь патрыярха ўсяе Русі не толькі стаў разрэкламаванай падзеяй, выклікаў шматлікія водгукі прэсы, але і паслужыў пачаткам расстаноўкі кропак над «і»: найбольшага раздзялення веруючых дзвюх канфесій — праваслаўя і каталіцызму. Амаль у той жа час, недалёка ад заходніх межаў рэспублікі сотні і тысячы католікаў віталі свайго прызнанага лідэра — папу Іаана-Паўла II. Ні ў якім разе не трэба ставіць перад сабой мэту падзяліць межы ўплыву гэтых канфесій у багаслоўскім плане. Так, бо гэта раздзяленне залежыць перш за ўсё ад тых палітычных павеваў, якія існуюць зараз на самой мяжы, дзе сышліся сферы ўплыву Рыма і Масквы. Гэта мяжа якраз і праходзіць па Беларусі.**

**Раздзяляй і пануй... Колькі стагоддзяў гэтым прынцыпам кіраваліся людзі, якія абралі сваёй прафесіяй палітыку! А цяпер, хай не крыўдуюць на мяне шчырыя вернікі, гэтыя словы можна ўжыць і ў адносінах да вышэйшых стаўпоў рэлігіі. І не толькі цяпер. Не існуе палітыкі царквы, палітыкі дзяржавы — ёсць адна сусветная палітыка, дзе надзвычай цесна сплятаюцца інтарэсы ўсіх без выключэння палітычных сіл, хай нават яны лічаць сябе вельмі далёкімі ад палітыкі. Мы далёкія таксама ад таго, каб уносіць сваю лепту ў канфлікт, які адбываецца зараз на Украіне, дзе вельмі востра стала якраз праблема стварэння буфера паміж дзвюма канфесіямі. Але хацелася б сказаць, і не мы першыя гэта кажам, што знешняе падзяленне хрысціянства на канфесіі, якое грунтуецца на нейкіх багаслоўскіх рэчах, даўно стала архаізмам. Менавіта зараз, у наш неспакойны ядзерны век, як хлеб, як вада неабходнае менавіта аб'яднанне! Але мэтай палітыкаў заўсёды было дыяметральна супрацьлеглае...**

**Царква зараз мае прадстаўнікоў у органах улады. На пытанне «Ці не парушае гэта прынцып аддзялення царквы ад дзяржавы» патрыярх Алексій II слушна заўважыў, што царкву можна аддзяліць ад дзяржавы, але не ад грамадства. Сапраўды, так. Ужо не адно пакаленне змянілася з часоў фактычнай забароны права на веравызнанне, а людзі вераць. І вераць шчыра. Але як балюча глядзець на тое, як католік абражае праваслаўнага, праваслаўны кідае бруд на уніята, уніят лае на чым свет стаіць і тых і другіх... Усё гэта робіцца толькі з-за непаразумення. Бог адзін, Бог адзіны, і чалавек, калі ён верыць шчыра менавіта ў Бога, а не ў яго зямное палітбюро, павінен стаяць далёка ад усёй гэтай мітусні... Добра, ствараецца багаслоўе на беларускай мове. Добра, што ў Польшчы служба вядзецца па-польску. Добра, што святло Вучэння пачынае разбураць штучна створаныя людзьмі межы. Але калі ўжо рэлігія сапраўды стане аддзеленай ад дзяржавы і вернецца да чалавека?**

**А. ПАЛЫНСКІ.**

**НА ЗДЫМКУ:** сустрэча, якая не адбылася.

Мэта любога газетнага артыкула — звярнуць увагу чытача, прыцягнуць іх погляд да нейкай з'явы, падзеі. І таму заўжды прыемна атрымліваць лісты — гэта пацвярджэнне таго, што выступленне газеты не прайшло незаўважаным...

Па праўдзе сказаць, матэрыял Міхаіла Ляшко «Небяспечная двудушнасць» (№ 18, 1991 г.) я даваў з невялікай, але асцярожнасцю. «Чырвонка», як вы ўжо маглі заўважыць, спрабуе не кідацца ў бакі, прытрымліваючыся «залатой» сярэдзіны, хварэючы ў першую чаргу за нацыянальнае адраджэнне Беларусі. А тут такі пракамуністычна скіраваны матэрыял. Як і чакалася, ён выклікаў вялікі рэзананс сярод нашых чытачоў. І, што дзіўна, ніводнага ліста ў падтрымку выказванняў Ляшко.

Раней людзей за словы, прыведзеныя ніжэй, назвалі б антыкамуністамі, антысаветчыкамі. Але ж ці не мае кожны чалавек права на ўласную думку! У Міхала Ляшко яна адна, у другіх іншая. І хоць я сумняваюся, што людзі з такімі супрацьлеглымі поглядамі на жыццё здолелі паразумецца, выказацца неабходна даць магчымасць усім. Лепш вырашаць спрэчныя пытанні праз газету, чым з дапамогай кулакоў, альбо зброі. Трэба ў рэшце рэшт пачуць адзін аднаго.

**Зміцер ЛУКАШУК,**
**аглядальнік «ЧЗ»**
**па пытаннях эканомікі.**

# Ахвота блюзнерыць

**Невялічкі артыкул нінаандрэеўца Міхала Ляшко «Небяспечная двудушнасць», надрукаваны ў «ЧЗ» № 18 за 1991 г., прымусіў задумацца пра надзвычай нізкі ўзровень культуры мыслення нават асоб з дыпломамі кандыдатаў навук.**

Відаць, не толькі генералаў мы напладзілі столькі, што і скараціўшы іх на колькасць, роўную сённяшняму кадраваму генералітэту ў войсках ЗША, маем у Савецкай Арміі, відавочна, больш, чым ва ўзброеных сілах усіх краін Заходняй Еўропы, разам узятых. Што праўда, не перашкодзіла немцу Русту незаўважаным праляцець над прасторамі нашай неабдымнай Радзімы, паказаўшы ўсім «надзейнасць» нашай абароны і прызямліцца ледзь не на галовы членаў таго ЦК КПСС, якое складалася, як сцвярджае Міхал Ляшко, з «мудрых камуністаў з вялікім жыццёвым вопытам». А і напладзілі такіх вучоных, што не толькі могуць будаваць «звышнадзейныя» атамныя станцыі, адна з якіх паставіла перад фактам вымірання палову насельніцтва Беларусі, але і ствараць артыкулы сумніцельнай праўдзівасці.

Галоўная мэта опуса Міхала Ляшко — пошук вінаватых, выяўленне ворага. За свае 73 гады існавання наша краіна бачыла многа вінаватых, пачынаючы ад белых у грамадзянскую вайну і заканчваючы іншадумцамі ў нядаўні час. І перабудова, на жаль, не здрадзіла ідэі пошуку вінаватых і не паменшыла колькасць «пільных», адным з якіх і з'яўляецца юрыст, кандыдат гістарычных навук Міхаіл Ляшко, што спрабуе ўказаць на сённяшніх ворагаў.

Хто ж яны? «Прышэльцы»!

**Не-не, шаноўны чытач, космас тут ні пры чым, ды й іншапланецяне нам нічым не падгадзілі і не замінаюць пераможнаму шэсцю да светлай будучыні, да «сацыялістычнага выбару». Вораг — іншы. Цытую: «Якраз з часу выбараў народных дэпутатаў СССР пачаўся працэс спаўзання нашай краіны ў балота эканамічнага крызісу на аснове сацыяльна-палітычных узрушэнняў. Нашы «прышэльцы» разумеюць нешта ў эканоміцы і кіраванні ёю, у дзяржаўных справах і псіхалогіі чалавека, як я ў медыцыне».**

**Нічога не скажаш — «разумны» чалавек параўноўваў: выбраннікаў народа з «прышэльцамі»!**

Вось так смела і беспардонна аўтар узвальвае віну за сучасны стан спраў у краіне на тых, хто за год-два не здолеў паправіць тое, што натварылі ў нас за большую частку дваццатага стагоддзя.

**Такім чынам, вобраз сённяшніх «ворагаў народа» — народных дэпутатаў СССР — юрыст Міхал Ляшко вынырыў. Шчырае вам дзякуй! А хто ж, паводле Ляшко, невінаваты?**

**Ёсць і невінаватыя. Пра іх сказана так: «Але кожны разважлівы чалавек згодзіцца з тым, што пасля XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС і ўзнікнення З'езда народных дэпутатаў СССР і РСФСР партыйныя органы адышлі ад усёй эканамічнай работы, перадаўшы стырно кіравання эканомікай і народнагаспадарчым комплексам народным дэпутатам». Паводле слоў Міхала Ляшко, зараз «КПСС практычна адышла ад кіраўніцтва эканомікай краіны, перадаўшы свае ранейшыя функцыі нашым выбраннікам і Саветам».**

Несумненна, сур'ёзны вучоны-гісторык не абмежаваўся б такімі сцвярджэннямі, а падмацаваў бы свае меркаванні фактамі. Хацелася б ведаць, паважаны кандыдат гістарычных навук, калі і дзе адбылася перадача КПСС «сваіх ранейшых функцый... Саветам».

Не бяруся гаварыць за народных дэпутатаў СССР, але мне, як дэпутату мясцовага Савета, на ўласным вопыце не раз давялося адчуць «вялікія» магчымасці гэтай «перададзенай» улады. Нагадаю пра такі выпадак. Зімой 1991 года я звярнуўся ў Мінскі райвыканком з пісьмовай просьбай выдзеліць зямлю выбаршчыкам майго выбарчага ўчастка. Якраз у той час Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб зямлі, і я справядліва разлічваў на станоўчае вырашэнне пытання. Якое ж было маё здзіўленне, калі я з райвыканкома атрымаў адказ, у якім мне рэкамендавалі звярнуцца да дырэктара саўгаса «Лошыца», на тэрыторыі якога і знаходзяцца мае Міханавічы. Ідзі, маўляў, прадстаўнік Савецкай улады, да гаспадара зямлі, пакланіся нізенька, мо ён і злітуецца, выдасць кавалачак няўдобіцы людзям шматпавярховых каробак з пасёлка.

А вы, шаноўны Міхал Ляшко, не спрабавалі пабыць у скуры дэпутата, якому КПСС перадала «свае ранейшыя функцыі»?

Можа б у вас прапала ахвота блюзнерыць.

**Анатоль РАМАНОЎСКІ,**
**рэферэнт аддзела па пытаннях сацыяльнага**
**і культурнага развіцця Сакратарыята**
**Вярхоўнага Савета БССР.**

# Ісціна — у пазнанні прычыны

Прачытаў у «Чырвонай змене» (№ 18) допіс на тэму «Небяспечная двудушнасць» і павінен адразу адзначыць алагічнасць, парадаксальнасць і беспадстаўнасць некаторых сцвярджэнняў аўтара допісу.

**Міхал Ляшко зрабіў правільную выснову, што «прыход да ўлады некампетэнтных асоб прыводзіць да дэстабілізацыі эканомікі, заводзіць яе ў крызісны стан. Аднак далей ідуць парадаксальныя разважанні кандыдата гістарычных навук наконт сцвярджэння, што ў сучасным становішчы эканамічнага хаосу вінаваты народныя дэпутаты Вярхоўных Саветаў СССР і БССР. Міхал Ляшко аргументуе факт тым, што пасля ўтварэння З'езда народных дэпутатаў СССР «КПСС практычна адышла (?) ад кіраўніцтва эканомікай краіны...». Аўтар допісу як быццам бы і не разумее сапраўдных прычын. Як вядома, у Вярхоўным Савеце СССР каля 80 працэнтаў членаў КПСС, а больш дакладна, былая эліта партыйна-наменклатурнага апарату часоў застою, у руках якіх раней знаходзіўся штурвал эканамічнай і палітычнай улады. І калі аўтар допісу разумее пад «прышэльцамі» групу апазіцыі ў парламенце краіны і ў Вярхоўным Савеце БССР, то яны з-за сваёй малалікасці не могуць уздзейнічаць на прыняцце прагрэсіўных законаў аб паскарэнні выхаду краіны з эканамічнага хаосу.**

**У допісе М. Ляшко ёсць нотка зневажальна-абразлівага тону, калі ён разважае, што «Нашы «прышэльцы» разумеюць нешта ў эканоміцы і кіраванні ёю, у дзяржаўных справах і псіхалогіі чалавека, як я ў медыцыне». Цяжка сказаць, што сам кандыдат гістарычных навук разумее ў эканоміцы, кіраванні дзяржавай і псіхалогіі, а вось, што датычыць этыкі, то тут Ляшко з ёю не ў ладах.**

Аўтар допісу робіць вывад, што, маўляў, партыя не нясе адказнасці за сучасны стан рэчаў. Не будзем наіўнымі, Міхал Ляшко. Вашы разважанні ў дадзеным выпадку ні што іншае, як яўная сафістыка. Ці ж не «мудрыя камуністы з вялікім жыццёвым вопытам», якія знаходзіліся ля штурвала ўлады гадамі, сваімі дзеяннямі давялі краіну да эканамічнага хаосу, садзейнічалі марнатраўству і апусташэнню велізарных прыродных рэсурсаў, а дбалі толькі пра свой уласны дабрабыт?

Міхал Ляшко ў сваіх разважаннях коўзаецца па паверхні фактаў, але свядома (ці несвядома) не робіць глыбокага аналізу прычын, каб дакапацца да ісціны. Аднак яму, кандыдату гістарычных навук, павінна быць вядома, што навука і доказы засноўваюцца на пазнанні прычын.

**В. СОКАЛ,**
**выдатнік народнай**
**адукацыі БССР.**
Ляхавіцкі раён.




*Кампрэс — даследаванне*

# Махнём на поўдзень?!

Нумар гэты вы атрымаеце ў сярэдзіне чэрвеня. Час, калі не набываць квіткі на цягнік «Мінск—Сімферопаль», то, па меншай меры, рыхтавацца да адпачынку на поўдні, у цёплых хвалях Чорнага мора, пад промнямі спякотнага сонца. Так, лета — час адпачынкаў і канікулаў. Але ці гатовыя вы да сустрэчы з цэнамі, што, затаіўшыся, чакаюць вас на марскім узбярэжжы? Ва ўсялякім выпадку, хачу папярэдзіць: адпачынак на поўдні можа катастрафічна адбіцца на вашым сямейным бюджэце. Калі нехта спадзяецца на тое, што ён хітрэйшы за Паўлава і зможа вытрымаць яго першакрасавіцкі націск на вашу кішэню, прапаную спіс цэн, што чакаюць адпачываючых у Ялце:

**Кошт квітка на цягнік Мінск—Сімферопаль (купэйны вагон) — 42 рублі, 2.10 за бялізну і па 18 капеек за шклянку гарбаты.**
**Пакой на адну ноч — 10 рублёў.**
**Экскурсіі па Паўднёвым ўзбярэжжы Крыма (па вадзе і шашы) — ад 3 да 22 руб.**
**Фотаздымак на памяць (2 шт.) — 6 руб.**
**Харчгандаль накорміць вас за:**
**піражкі — 35—50 кап.**
**чабурэкі — 20—50 кап.**
**шклянка соку — 60 кап. — 1 рубель;**
**гарачы абед з першай другой стравы, салаты, булачкі і кавы — 5—8 руб.**

Купонаў у вас, вядома, не будзе і таму, каб набыць хоць што-небудзь і згатаваць страву, давядзецца ісці на рынак. А там...

**Памідоры — 17 руб.**
**Агуркі — 17—20 руб.**
**Куры вэнджаныя (1 шт.) — 17 руб.**
**Мяса (1 кг) — 20—25 руб.**
**Сала (1 кг) — 9 руб.**
**Агародніна — 1 руб.**
**Мёд (200-грамовы слоік) — 12 руб.**
**Пад'елі, зараз можна і на пляж рушыць. Яшчэ не напалохалі вас цэны?**
**Купальнік — 50—100 руб.**
**Плаўкі — 30 руб.**
**Ручнік — 10 руб.**
**Панама — 7 руб.**
**Пляжны абутак — 10 —20 руб.**
**Катамаран — 3 руб.**

Ну, а зараз прыгадайце, чаму вас вучылі ў школе на ўроках матэматыкі (альбо папрасіце сваіх дзяцей), і зрабіце хоць бы прыблізныя падлікі. Ды ўлічыце яшчэ і «падатак на адпачынак» — 10 рублёў, абавязковы курортны збор. У мяне атрымліваецца за тры дні 200—230 рублёў. Маёй зарплаты хопіць акурат на тры дні. Ці паспею загарэць?.. Ну, як — рушым на поўдзень?!

**Зміцер ЛУКАШУК.**

# Якубаўскія фермеры

У мінулыя гады «Чырвоная змена» ўжо расказвала пра сямейную ферму Раманавых з Клімавіцкага раёна. Аўтару матэрыялу «пашчасціла» нават пабываць пасля публікацыі на «дыване» ў райкоме партыі. Дасталося на арэхі за тое, што ўздымаў вясковыя праблемы. Пісаў не ад сябе, а што гаварылі людзі, на што скардзіліся. У важным будынку мовілі пра многае, дапытваліся мэты і задачы, нібы гэта на двары сталінскі час. Аднак забыліся забараніць больш не наведваць ферму.

А таму я зноў пацікавіўся, як жа ідуць справы ў Раманавых. І тыя былі вельмі рады. Пыталіся, чаму так доўга не наведваў. Гэта пытанне так і павісла ў паветры. Што я мог адказаць фермерам? Пра строгі райком ці то пра сваю нядаўнюю пасаду, якая мала была звязана з вёскай.

Калі шчыра прызнаць, для многіх з нас фермерства — справа новая. А вось сям'я Раманавых з вёскі Якубаўка лічыць наадварот: «Не новая, а забытая старая». І гэта сапраўды так. Шмат моцных сямейных гаспадарак было да правядзення суцэльнай калектывізацыі ў нашай краіне.

Вось ужо некалькі гадоў, як працуе на сямейным падрадзе ферма ў вёсцы Якубаўка. Сёлета яе члены даглядаюць 279 галоў буйной рагатай жывёлы. Працуюць, бадай што, сваім нязменным саставам. Як і летась, упяцёх: муж з жонкай—Мікалай Сцяпанавіч і Ганна Іларыёнаўна, сын Міхаіл, зяць Віктар. А не так даўно ў калектыў улілося папаўненне. Пачала працаваць разам з імі падменнай даглядчыцай сваячка Раманавых — пенсіянерка Лідзія Сцяпанаўна Белавусава.

...Усё пачалося з таго, як на малочнатаварнай ферме ў Якубаўцы здарылася надзвычайная сітуацыя. Асобныя жывёлаводы памянялі месца жыхарства. Некаторыя пайшлі на заслужаны адпачынак. І, бадай, няма каму стала даглядаць жывёлу.

Раманавы ж не збіраліся пакідаць фермы. Былі яшчэ ў сіле. Абодва працавалі тут даярамі. А таму і спыніў свой выбар на іх былы кіраўнік гаспадаркі М. М. Хіўрэнка, прапанаваў працаваць на сямейным падрадзе. Тым больш, што і сям'я ў іх немалая, ёсць каму дапамагчы.

Акрамя жывёлы, за Раманавымі замацавалі і тэхніку, якую «асядлалі» муж і дзеці. Зараз у іх — тры трактары: Т-25, ТД-75, Т-16, пагрузчык і кормараздатчык. Гэтыя агрэгаты яны выкарыстоўваюць эфектыўна, а кармы — з высокай аддачай. Ды і самі да справы адносяцца сумленна.

— Раненька прыйдзем на ферму, управімся. Пасля пойдзем дружна ўвечары. Узімку, каб што не здарылася, дзяжурылі нават, — расказвае Ганна Іларыёнаўна.

Ці не таму і ёсць поспех. Не было яшчэ выпадку, каб на іх ферме жывёла страчвала ў вазе. Летась праз рукі фермераў прайшло 480 бычкоў і цялушак.

— У мінулым годзе рэалізавалі мяса на 206,5 тысячы рублёў. Такім чынам, кожным работнікам фермы выраблена прадукцыі на 34,4 тысячы рублёў. У саўгасе гэта лічба ў чатыры разы ніжэйшая — усяго 8,5 тысячы. Валавых прываг атрымалі 864,4 цэнтнера. А сярэднясутачныя прывагі склалі па 816 грамаў, калі па саўгасу ўсяго 469, — усё сыпала лічбамі галоўны эканаміст саўгаса Ніна Іванаўна Дуброўская.

Вось так плённа працуе калектыў аднадумцаў. Ды і самі яны, як кажуць жартам, не лыкам шытыя.

Ганна Іларыёнаўна мае больш як тры дзесяткі гадоў працоўнага стажу на ферме. Сёлета ідзе на заслужаны адпачынак. Мікалай Сцяпанавіч — трыццаць гадоў адпрацаваў у жывёлагадоўлі. Многа чаму навучыліся ў іх сын і зяць. Вопыту не пазычаць і Л. С. Белавусавай.

Усе работы выконваюць самі. Саўгас толькі забяспечвае кармамі, за якія сямейны калектыў разлічваецца са свайго «сямейнага» бюджэту. Вядома, палёгка і тое, што нязменнымі памочнікамі бацькам сталі іх дзеці.



Сорак гектараў атрымаў у надзел былы работнік саўгаса «Ходцы» Сенненскага раёна Генадзь Казлоў. Самастойна гаспадарыць на зямлі два гады назад ён пачаў практычна з нуля. А сёння ў Казлова — шэсць кароў, два трактары, адноўлены прэс-падборшчык, які саўгасныя спецыялісты ўжо «спісалі» на металалом. А галоўнае — пачаў будаваць фермер добры дом.

Цяжка было напачатку. І, магчыма, не справіцца б Генадзю з клопатамі, якія навaліліся на яго, калі б не было такіх памочнікаў, як жонка Нэлі і старэйшы з чатырох дзяцей трынаццацігадовы Сяргей. Добрую дапамогу аказваюць і сваякі-гараджане. Ды і сам Генадзь Казлоў—майстар на ўсе рукі.

— Пакуль поўнасцю не абжыліся, не наладзілі вытворчы цыкл, —гаворыць фермер,—выкарыстоўваем любую магчымасць, каб зарабіць грошы. Вырошчваем для продажу саджанцы перспектыўных гатункаў вішні, ягадных кустоў, высаджваем раннія гатункі бульбы.

Адным словам, праяўляюць сялянскую кемлівасць, каб як мага больш моцна стаць на ногі.

НА ЗДЫМКУ: Генадзь КАЗЛОЎ з жонкай Нэлі Вячаславаўнай і сынам Сяргеем вяртаюцца з поля.

Фота А. ЦЕРЛЮКЕВІЧА (БЕЛТА).

Шасцёра іх ў Раманавых. Пасля заняткаў у школе і ў час канікулаў яны часта забягаюць на ферму. Больш не на экскурсію, а каб дапамагчы маці і бацьку. Васьмікласнік Саша, пяцікласнік Валодзя. Яны самі многае ўмеюць ужо рабіць.

Дачка Людміла раней працавала на ферме, а зараз — у дэкрэтным адпачынку. А сын Міхаіл ужо паўнапраўны член калектыву. Другі сын, Мікалай, да арміі дапамагаў бацькам. Адслужыў і падаўся ў суседні раён — Касцюковіцкі. Як кажуць, на свой хлеб. Не прывабіла яго чамусьці сямейная ферма ў глыбіннай вёсачцы. І хутчэй за ўсё, відаць, самі ўмовы працы. Тут прыходзіцца і вілы ў рукі браць, і гаечны ключ, і рыдлёўку...

Дачка Валянціна працуе ў дзіцячым садку на цэнтральнай сядзібе ў Малашкавічах. Але і яна сэрцам хварэе за сямейную справу. Невыпадкова свайго мужа адкамандзіравала на дапамогу бацьку з маці. Нават аўтамашыну пакінуў былы саўгасны вадзіцель Віктар Семчанка. Стаў жывёлаводам. Кажуць, стараецца зяць.

Так што на сямейнай ферме без асаблівых перамен. Мы нездарма гэта падкрэсліваем. Было прыемна пачуць, што, бадай, адзіная ў раёне сямейная ферма не распалася, выстаяла ў нялёгкі час і з кожным годам набірае тэмпы.

Толькі вось не радуе той факт, што без перамен застаюцца іх умовы працы ў аддаленай вёсцы. Лічы, што ў самай клімавіцкай глыбінцы. Хаця і прыязджалі пасля папярэдняга выступлення «Чырвонай змены» правяраючыя нібыта з аблаграпрома, нібыта з абкома камсамола. Хутчэй, відаць, не каб дапамагчы, а каб знайсці памылкі ў матэрыяле.

Зараз з кармамі на ферме справы нядрэнныя, а вось пад'езды нікуды не вартыя. Асабліва ў непагадзь. А гэта і нервы, і выдаткі. Вось бы заасфальтаваць. Люба-дорага можна было і паглядзець, і папрацаваць нават у чаравічках. Ёсць і іншыя праблемы ў калектыву, але аб іх — у наступны раз.

Вядома, у саўгасе не адна гэта ферма. І клопатаў заўсёды шмат, у любую пару года. Але хочацца спадзявацца, што ў гаспадарцы з прыходам новага дырэктара В. І. Цімашэнкі нарэшце паклапоцяцца пра ініцыятараў як след. Такіх працавітых людзей нельга забываць, а трэба ўсяляк падтрымліваць. Згадзіцеся, добрая ж справа! І добры прыклад, варты пераймання на вёсцы іншымі гаспадаркамі.

Прыемна было пачуць навіну, што сямейнаму калектыву Раманавых, як пераможцу сацыялістычнага спаборніцтва, выдзелілі па-за чаргой новенькую аўтамашыну. І цяпер па неадкладных сямейных справах дабіраюцца яны ў райцэнтр не на доўгачаканым рэйсавым аўтобусе, а на сваім уласным «Масквічы».

Поспехаў вам і надалей, якубаўскія фермеры!

**Іван ЛАПО,**
**загадчык аддзела эканомікі клімавіцкай раённай газеты «Родная ніва».**

# Дынастыя хлебаробаў

У сціплым драўляным доміку па-вясковаму смачна пахне салёнымі агуркамі, свежазваранай у печы бульбай і парным малаком. Гаспадыня хаты, папрацаваўшы на агародзе, накарміўшы жывёлу, пачынае збіраць вячэру, расстаўляючы на стале дамашнія прысмакі.

— Праўда, — гаворыць Галіна Рыгораўна, — сыны часам так стомяцца, асабліва ў час пасяўной, што кубак малака вып'юць ды спяшаюцца хутчэй гадзінку-другую адпачыць. А яшчэ і пагуляць хочацца збегаць, бо аднаму 21, а другому — дзевятнаццаць. У іх яшчэ час спатканняў.



Скончылася пасяўная, пачалася нарыхтоўка кармоў. У пяці яе сыноў - механізатараў і мужа Мікалая Аляксеевіча да глыбокай восені гарачыя дзянькі, як кажуць, работа ад відна да відна, Галіна Рыгораўна Смаль — ужо трыццаць гадоў жонка механізатара. І таму добра ведае, што такое гарачая пара на вёсцы. Бо ўсе пяць яе сыноў працуюць поруч з бацькам на конезаводзе «Зарэчча» Смалявіцкага раёна.

Вялікая сям'я Смаляў перасялілася сюды — у вёску Паддуб'е, родныя мясцы Галіны Рыгораўны — з далёкага Казахстана. Дваццаць пяць гадоў пражылі да гэтага ў Какчатаўскай вобласці. Паехаўшы ў маладосці асвойваць цаліну — Галіна Рыгораўна з Беларусі, а Мікалай Аляксеевіч з Украіны — знайшлі там адзін аднаго, стварылі вялікую, дружную сям'ю, выхавалі сабе на радасць пяцярых моцных, прыгожых сыноў. Старэйшыя — Віктар, Канстанцін, Мікалай — маюць ужо свае сем'і, жывуць па суседству з бацькоўскім домам. Адслужыўшы армію, вярнуліся пад родны дах і двое малодшых — Аляксей і Анатоль.

— Як удалося бацьку і маці выхаваць ва ўсіх нас гэта пачуццё непадзельнасці, немагчымасці жыць удалечыні адзін ад другога, мы не ведаем, — гаворыць малодшы Анатоль. — Але для таго, каб адчуваць сябе шчаслівымі, мы павінны быць разам. Каб часцей бачыць добрыя вочы маці, прыслухоўвацца да парад, а часам і строгіх наказаў бацькі. Бо і жыць, і працаваць сумленна навучылі нас яны — нашы бацькі. Цяпер гэтаму нам вучыць іх унукаў.

Вось такім простым і мудрым законам жыве гэта дружная вясковая сям'я, дзе ведаюць смак хлеба і пах поту, цану мужчынскаму слову, дзе ўмеюць шкадаваць і любіць адзін аднаго.

**С. СІМАНАВА,**
**кар. БЕЛТА.**

НА ЗДЫМКУ: мужчынская нарада. У цэнтры — гаспадар сям'і Мікалай Аляксеевіч СМАЛЬ. Злева направа — Анатоль, Віктар, Аляксей, Мікалай і Канстанцін.

Фота А. НІКАЛАЕВА, (БЕЛТА).



# Атрад пачынае дзейнічаць

**У хуткім часе на паліцах кнігарань з'явіцца другое выданне маёй кнігі «Застаюся жыць». Прапаную чытачам пазнаёміцца з яе новымі старонкамі, якія расказваюць аб зараджэнні партызанскага руху на Беларусі.**

**Пасля першага выдання кнігі многія таварышы па партызанскай барацьбе падзяліліся ўспамінамі. Гэта Міхаіл Ананьін, Сямён Баркан, Яфім Гіро, Аляксандра Гаркова, Вольга Міцкевіч (Простак), Анатоль Алейнік, Мікалай Страх, Леанід Сырцоў і іншыя. Я ім усім вельмі ўдзячны.**

**Немалую дапамогу ў падрыхтоўцы другога выдання да друку аказалі работнікі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, якія правялі старанныя зверкі дакументаў, прозвішчаў, дат, іншага фактычнага матэрыялу, выкарыстанага ў кнізе. Ім мая ўдзячнасць.**

**Асаблівае слова ўдзячнасці выказваю пісьменніку Уладзіміру Паўлаву, які шмат зрабіў для стварэння кнігі.**

**АЎТАР.**

За вайну мне давялося быць і сувязным з Мінскім падполлем, і падрыўніком, і камандзірам дыверсійнай групы. Сустракаўся з многімі цікавымі людзьмі. З Міколам Шкорам, Лёнем Бельскім, Васілём Баркуном, Зінай Шкор разам раслі. Яны з'яўляліся членамі падпольнай групы ў нашай вёсцы Бардзілаўка, якой кіраваў мой бацька Афанасій Іванавіч Бачыла. Ён кіраваў таксама ўсім падполлем у Кайкаўскім сельсавеце. На станцыі Міханавічы—яна ўваходзіла ў сельсавет — дзейнічала падпольная група, у якой былі Лявон Бачыла — былы сакратар сельсавета, Струпавец, што працаваў да вайны начальнікам пошты, доктар Казей. Лёс іх трагічны. Яны загінулі ў канцы зімы 1942 года. Нашы бардзілаўскія рабяты, і я ўслед за імі, калі ўжо стала небяспечна заставацца ў вёсцы, пайшлі ў партызаны. Большасць з нас трапіла ў атрад імя К. Я. Варашылава, у якім ваявалі партызаны атрада «Перамога»— з імі мы падтрымлівалі сувязь раней.

Будзе справядліва больш падрабязна расказаць пра першыя крокі партызанскага руху ў нашых месцах, асабліва што тычыцца атрада «Перамога».

У ноч з 12 на 13 сакавіка 1942 года на транспартным самалёце Лі-2 група дэсантнікаў пераляцела лінію фронта. Самалёт трымаў курс на Рудзенскі раён Мінскай вобласці. Месца дэсантавання — урочышча Воўчы востраў. Але лётчыкі крыху не разлічылі. Яны выкінулі дэсант над лесам ля вёскі Русакова.

У начным небе самалёт зрабіў два кругі. З першага заходу дэсантнікі — па шэсць чалавек з кожнага борта — выскачылі на парашутах самі. У складзе групы было 12 чалавек, у іх ліку два радысты. Камандзір групы — старшы лейтэнант Валодзя Марэеў. З другога заходу з задняга грузавога адсека выкінулі груз — 15 мяшкоў з узрыўчаткай, боепрыпасамі, батарэямі для радыёстанцыі, прадуктамі харчавання.

Прызямліліся дзвюма групамі на адлегласці прыкладна трох — чатырох кіламетраў адзін ад аднаго. З Косцем Рошчыным здарылася няўдача. Купалам парашута ён зачапіўся за вяршаліны дзвюх хвой і павіс паміж імі. Сямён Баркан і Антон Дачылёў прыйшлі яму на дапамогу. Дапамаглі Косцю сцягнуць цяжкі рэчавы мяшок, які аказаўся ў яго на грудзях, вызвалілі таварыша ад лямак парашута. Пакуль яны ўсё гэта рабілі, падышлі яшчэ тры дэсантнікі. Усе шасцёра ледзь сцягнулі парашут з вяршалін хвой. Прывялі сябе ў парадак па-баявому: надзелі цяжкія рэчавыя мяшкі, сумкі з парашутамі, зброю паставілі на баявы ўзвод. Сталі на лыжы і накіраваліся на пошук астатніх. Усе 12 чалавек ва ўмоўлены час сабраліся на Воўчым востраве.

Нягледзячы на тое, што яны аказаліся ў тыле ворага і абстаноўка заставался невядомай, настрой у дэсантнікаў быў баявы, бадзёры. Пасля невялікага адпачынку дзесяць чалавек, у тым ліку і Валодзя Марэеў накіраваліся на пошук грузу. Па разліках мяшкі павінны былі зваліцца дзесьці ля вёскі Арэхаўкі. Арыентуючыся па компасу і на мясцовасці, Валодзя Марэеў вывеў таварышаў да вёскі. Ішлі на лыжах па заснежанай цаліне ўздоўж ляснога масіву. У канцы лесу знайшлі грузавыя мяшкі, якія ляжалі недалёка адзін ад аднаго. Іх сабралі і даставілі на Воўчы востраў.

Так прайшоў першы дзень 13 сакавіка 1942 года ў тыле ворага.

У хуткім часе камандзір паставіў Сямёну Баркану, Антону Дачылёву і Косцю Рошчыну задачу наведаць вёску Распуцце і паспрабаваць знайсці чалавека, які б згадзіўся быць сувязным.

Калі пачало змяркацца, утраіх яны выйшлі з лесу і накіраваліся да вёскі. З агародаў увайшлі ў двор невялікай прысадзістай хаткі. Пагрукалі ў акно. У хаце заміргаў агеньчык, а затым з-за дзвярэй пачуўся трывожны голас гаспадара. Ён пытаўся: хто там, што трэба? Сеня Баркан папрасіў пусціць іх у хату.

Гаспадары, муж і жонка, аказаліся людзьмі сярэдніх гадоў. Аднак выглядалі старэйшымі, таму што былі вельмі ўстрывожаны. Кожную мінуту яны чакалі нечага, глядзелі з недаверам і здзіўленнем. Справа ў тым, што прышэльцы былі ў адзенні дэсантнікаў, а на шапках ззялі чырвоныя зорачкі. Дэсантнікі заўважылі, што гаспадар перш за ўсё звярнуў увагу на зорачкі. Аднак на пытанні і муж і жонка адказвалі неахвотна. У размове госці далі зразумець, што яны — свае, іх баяцца няма чаго. Але шчырай гутаркі не атрымалася. На развітанне дэсантнікі пакінулі нумар газеты «Правда» і пачак цыгарэт «Беламорканал».

І ўсё ж нягледзячы на тое, што кантакту пакуль не атрымалася, людзі ім спадабаліся. Адчувалася, што ў рэшце рэшт яны знойдуць агульную мову.



Так яно і атрымалася. Але перш давялося тройчы пабываць у Ігната Шушкета (так звалі гаспадара), пакуль ён паверыў, пераканаўся, што гэта — савецкія дэсантнікі. Ён даў згоду быць сувязным і выконваць іх даручэнні.

Праз Ігната Шушкета ўдалося далучыць да работы патрыётаў з Арэхаўкі, Дудзічаў, Калодзіна, Узлян, Сяргеевічаў, нашай Бардзілаўкі і іншых вёсак. Па рэкамендацыі сувязных пачало прыбываць папаўненне з акружэнцаў, а таксама з мясцовых жыхароў. У групе, напрыклад, ужо ваяваў наш аднавясковец Мікалай Шкор. Усе прыйшоўшыя адразу ж уключыліся ў баявую работу. А пастаянныя дзелавыя зносіны Сямёна Баркана з Ігнатам Шушкетам перараслі ў моцную дружбу. Ён пастаянна дастаўляў Сеню боепрыпасы, зрабіў новы прыклад яго ППД.

Вясной 1942 года фашысты ўзмоцнена перакідвалі свае войскі ў паўднёвым напрамку. З атрыманых разведданых і назіранняў стала вядома, што менавіта на паўднёвым напрамку немцы рыхтуюць буйное наступленне. Пра ўсё гэта Валодзя Марэеў паведаміў камандаванню. У адказ «Цэнтр» падзякаваў за каштоўныя звесткі і прасіў узмацніць разведку і баявыя дзеянні.

У другой палове сакавіка на чыгунцы Мінск —Асіповічы — Слуцк група Марэева ўчыніла шэраг дыверсій. Было ўзарвана і пушчана пад адхон пяць фашысцкіх эшалонаў з жывой сілай і ваеннай тэхнікай. Рух цягнікоў спыніўся на некалькі сутак.

У пачатку красавіка група пад камандаваннем Валодзі Марэева на перагоне Мінск —Седча правяла буйную дыверсію. Пасля пільнага назірання ўдалося непрыкметна прыблізіцца да чыгуначнага моста. Пад яго заклалі магутны (да 300 кілаграмаў толу) зарад. Зарад злучылі з дзвюма кантактнымі мінамі, якія паклалі з боку рэйкі, старанна замаскіравалі. У гэты час над дэсантнікамі па мосце ў бок станцыі Седча прайшлі патрулі. Пад мостам падрыхтаваліся да бою, але, на шчасце, патруль нічога падазронага не заўважыў. Фашысты схаваліся ў начы. Дэсантнікі адышлі да лесу, за дрэвамі залеглі ў засаду.

Праз паўгадзіны пачулі гул цягніка. Ён імкліва набліжаўся. Цягнік спяшаўся на ўсход, падыходзячы да замініраванага моста...

Спачатку ў начным небе ярка ўспыхнула зарыва, затым усё навокал скалануў моцны выбух. Мост рухнуў уніз, а разам з мостам быў узарваны і бранепоезд, ён на ўсіх парах спяшаўся на ўсход. Пераканаўшыся, што заданне выканана, група адышла. Амаль усю ноч з бліжэйшых гарнізонаў і камендатур фашысты вялі стральбу.

Ігнат Шушкет і іншыя сувязныя днём пабывалі на месцы дыверсіі. Яны паведамілі, што мост узарваны фактычна поўнасцю, а таксама і бранепоезд. Усё рухнула, разбурана і ляжыць у адхоне. Рух на гэтым участку быў спынены больш чым на восем сутак.

Актыўныя баявыя дзеянні групы раз'ютавалі фашыстаў. Карнікі імкнуліся акружыць яе і знішчыць. Яны наладжвалі засады, мініравалі падыходы да чыгункі, пасылалі ў лес агентаў, спрабавалі пеленгаваць работу радыёстанцыі. Камандзір далажыў у «Цэнтр» абстаноўку і прасіў дазволу перабрацца ў іншы раён. Вялікая зямля дала згоду. Баявыя дзеянні перанеслі ў напрамку Мінск — Брэст. У першай палове красавіка група ўчыніла шэраг дыверсій у раёнах станцый Негарэлае, Стоўбцы, Баранавічы. Там яна ўзарвала чатыры фашысцкія эшалоны з жывой сілай і тэхнікай. Узарвала і мост цераз раку Нёман. Рух быў спынены на 10 сутак. На аўтамагістралі Мінск — Брэст на мінах падарвалася некалькі аўтамашын і бронетранспарцёраў.



У сувязі з пагаршэннем абстаноўкі група была вымушана зноў вярнуцца ў зону першапачатковых дзеянняў. Перш чым прыступіць да баявой работы, трэба было абследаваць усё наваколле. Валодзя Марэеў паслаў у разведку ўжо знаёмых нам сяброў.

Антон Дачылёў, Косця Рошчын і Сямён Баркан выйшлі яшчэ зацемна ў напрамку станцыі Міханавічы. Ішлі па гразкай дарозе. Паміж сабой размаўлялі ціха, былі ўважлівыя, зброю трымалі напагатове. Набліжаліся да вёскі Бардзілаўка. Вырашылі абысці яе бокам. Прайшлі яшчэ крыху і нечакана з-за павароту ім насустрач выйшлі два хлопцы. Не даўшы ім ачомацца, затрымалі. Адзін з іх быў у скураной куртцы і ботах, а другі, меншы, у старым паліто і шапцы. Сеня Баркан спытаў, хто яны такія і куды ідуць. Хлопцы разгубіліся, але адказалі, стараючыся здавацца спакойнымі, што яны тутэйшыя, а ідуць у вёску Пяскі. Дэсантнік ім не паверыў, тым больш, што хлопец у скураной куртцы паказаўся падазроным. Сямён абшукаў яго. З унутранай кішэні курткі дастаў пісталет «ТТ», а Антон Дачылёў у другога хлопца з кішэні паліто дастаў наган. Дэсантнікі патрабавалі ад іх прызнання: хто яны на самай справе? Аднак хлопцы гаварылі, што тутэйшыя, з Пяскоў. Спачатку іх хацелі даставіць у лагер, але тады зрывалася разведка. Як лепш зрабіць у такой абстаноўцы? Сямён вырашыў, што трэба яшчэ больш уважліва абшукаць у хлопцаў кішэні. Магчыма знойдуць нейкія дакументы. У хлопца, які быў крыху меншы, паліто было расшпіленае. З кішэні яго пінжака Сямён выцягнуў запісную кніжку. Уключыў ліхтарык і стаў уважліва чытаць. Там быў верш, у якім гаварылася аб зверствах фашыстаў над мірнымі людзьмі, аб барацьбе партызан, аб цяжкасцях партызанскага жыцця. Прачытаўшы верш, дэсантнік узрадаваўся і зразумеў, што яны затрымалі партызан. Ім вярнулі зброю і блакнот. Як толькі вярнулі зброю, рабяты прызналіся, што яны сапраўды партызаны. Іх група знаходзіцца зараз недалёка ў ляску на прывале. Дэсантнікі папрасілі звесці іх з камандзірам.

Праз паўгадзіны пазнаёміліся. Дэсантнікі ўпершыню сустрэлі тутэйшых партызан. Старшым групы быў камісар Клім Ляшчынскі. Усіх сустрэча вельмі ўсхвалявала. Дамовіліся аб часе і месцы новай сустрэчы. Па-сяброўску развіталіся і працягвалі кожны свой шлях.

Выканаўшы заданне, дэсантнікі вярнуліся ў лагер. Аб усім далажылі камандзіру. Валодзя Марэеў адобрыў іх дзеянні.

Другая сустрэча адбылася ў другой палове красавіка ў каладзінскім лесе. Дэсантнікі і партызаны вырашылі аб'яднацца ў адзіны партызанскі атрад. Збор прызначылі на 1 мая на Воўчым востраве.

А баявое жыццё ішло сваёй чаргой. Дэсантнікі мініравалі чыгунку, пускалі пад адхон варожыя эшалоны, узрывалі масты. Часта выходзілі на аўтамагістраль Мінск—Слуцк.

1 мая на Воўчым востраве адбылося аб'яднанне групы Марэева з групай Ляшчынскага. Новы атрад атрымаў назву «Перамога».

**Ф. БАЧЫЛА.**

НА ЗДЫМКАХ: сустрэча на месцы былых баёў (другі справа—аўтар успамінаў **Ф. БАЧЫЛА**); партызаны **М. ШКОР** і **Л. БЕЛЬСКІ**.



Пісьменнік Анатоль КУДРАВЕЦ з унучкай Анютай.
Фота Анатоля КАЛЯДЫ.



Сяргей ВЕРАЦІЛА

***

Я хацеў бы ўбачыць горад,
дзе няма ніводнай
геаметрычнай фігуры,
бо кожны сімвал сцякае
крывёю.
Я хацеў бы ўбачыць горад
без калючага дроту, зорак і
крыжоў.
Што 5, што 6, што 8 —
кожная аднолькава балючая.
Я хацеў бы ўбачыць горад,
дзе самая правільная лінія, —
гэта ўсмешка дзіцяці,
якое не гуляе ў забойствы.
Я хацеў бы ўбачыць горад,
збудаваны з самага
незвычайнага матэрыялу:
горад з кахання.
Што маё жыццё?
Было і пойдзе. Сем цудаў
свету?
Толькі для тых, хто жыве
без святла.
А святасць імкнецца,
імкнецца да святла.
Будаваць храм?
Толькі хто ў ім зможа жыць?
А я хацеў бы,
хацеў бы,
хацеў бы
убачыць,
убачыць,
убачыць
горад, збудаваны для кахання.

***

Ссівелы, худы музыка
выпілоўваў на скрыпцы
чыйсьці капрыз.
І ноты сухімі апілкамі
падалі пад ногі.
«Дзінь, дзінь...»
Няўжо не абрыдла скрыпцы
вось гэтак штодня
распілоўваць працягласць гука
на часткі,
няхай і дзеля
чыйгосьці капрызу?
Пакутніца скрыпка!
Калісьці была дрэвам,
потым — спявала пад пілою:
«Дзінь, дзінь...»
І не канчаецца песня,
якую сярод галінак
на самай вяршыні
забыў вецер...
«Дзінь, дзінь...»

## Калыханка

Месячык рагаты — калыскаю
ў небе.
А ў калысцы той дзіця не
спіць.

Ноч калыску люляла,
калыханку пяяла
цэлую ноч, цэлую ноч —
бы не плакала дзіця:
«Спі, маленькі, баю-бай,
хай хутчэй прыходзіць Бай
у чырвоным каптане,
з велькай торбай на спіне.
Будзе файным гэты сон.
Чуеш, зорачкі — дзінь-бом.
Чуеш, зорачкі звіняць
і жадаюць добра спаць».

Ноч пяяла калыханку
ды люляла ноч калыску
цэлую ноч, цэлую ноч —
бы не плакала дзіця.

***

Пад курганамі спіць сівая
даўніна.
У небе вецер нетаропка
пасвіць хмары.
І чорны лес над полем, як
сцяна,
Ратуе палахліўку —
птушку-мару.

Сплывае рэчка ціхаю вадой,
І плынь віроў хавае небяспеку.
Гады плывуць павольнай
чарадой
І век кароткі зычаць чалавеку.

Тут цішыня апанавала краявід.
Тут быццам сам сябе спакой
пільнуе.
Цягнік прамчыць і знікне, бы
прывід,
Тут зрэдку пад касой аер
сумуе.

А там, за небакраем у
далечыні,
Шукае цуда, прагне цуда вока,
Душа за коршакам лунае ў
вышыні
І хоча бачыць блізкае далёка.

І просіцца душа туды, за
небакрай.
А ля ракі мудрэц і сузіральнік
— бусел.
Ён ведае, што вырай, Бог і
рай —
Усё месціцца на родным лузе.

І ты, душа, як ён, імкніся
сузіраць:
І глыбіню, і час, і волю, і
прастору,
Што ў рацэ жыцця плывуць,
пад курганамі спяць.
І гэты краявід прымі, як лёс,
як долю.

*Рок-паэзія*



Віктар ВАБІШЧЭВІЧ

***

Ты, што здрадзіў зямлі і
Радзіме
і выракся мовы,
не смейся, не смейся...
Ці задумваўся, дзе тваё месца?
Ці ўсё лічыш, што ты нейкі
новы?
Не заві мяне дзіўным,
бо сам ты заморскі экзот.
Ты — без краю, без мовы
сваёй.
На чыёсьці глядзіш.
На чыё?..
Можа, мецъ ты не будзеш
згрызот?
Топчаш нашу зямлю, як
чужую.
Ведай: помста цябе не міне,
і нашчадак твой прах
пракляне.
Хто аб гэтым калі пашкадуе?
Зарыдае курган, і прачнецца
зямля,
і прытулку не дасць для
спачыну
тым, хто мову і маці пакінуў,
тым, чыя занядбана ралля.



Віталь КУНАШКА

***

Я запомніў толькі вочы,
не магу прыпомніць твар...
Толькі вочы зімняй ноччу —
трапяткога сэрца жар.
Я запомніў толькі вочы,
не магу прыпомніць смех...
Толькі вочы — міг той ночы
і бялютка-белы снег.

***

Белы сад. Зялёны гай.
Пошчак салаўіны.
Фарбы льюцца цераз край
з сініх воч дзяўчыны.
Захмялелі мы з табой
водарам маёвым...
Сэрцы поўняцца вясной
на шляху жыццёвым.



Вітаўт МАРТЫНЕНКА

## Раптоўны выбух

Ты помніш час,
Калі краіну хутаў змрок
І чад?
Як стрыглі нас —
Адзін фасон І што ні крок —
Назад...

Скрозь шэрасць сноў
І жахі страт, напругу дум
І сіл
Народ прайшоў,
А што далей? Забыць як тлум
Магіл?

Раптоўны выбух,
Раптоўны выбух,
Раптоўны выбух
Выведзе нас!

Яшчэ ўсё тут
Той невідочны вораг наш
І ваш.
І свой статут
Шчыруе ён, каб сеяць страх.
Заўваж!

Пад шэпт папер —
Маўчанне спраў. Скаваў мазгі
Ланцуг.
Але наверх
Імкнецца дух. Таму ты згінь,
Пацук!

## Духоўны рэнесанс

Не груган я, ні чорны, ні
белы,
З вас я выйшаў, да вас
прыйшоў.
А па жылах маіх белых-белых
Цячэ чырвоная кроў.
Сам я бела-чырвона-белы.
Духам бела-чырвона-белы.
Колер бела-чырвона-белы —
Мой сцяг, мая сутнасць, мая
любоў.

Распасцёр свае крылы бусел,
Раптам куля ўзрывае бель.
Гэтаксама на Беларусі
Тыранія трымала рэй.
А я бела-чырвона-белы,
Я застаўся ўсё той жа веры,
Колер бела-чырвона-белы —
Мой сцяг, мая сутнасць. мая
любоў.

Адраджэнне ужо не мроя —
Стане явай з сягодніх мар.
І чакае сваіх герояў
Беларусь, імкнучы з-пад хмар.
Хто застаўся яшчэ без веры,
Хто забыў на свой род
згвалцелы,
Заклікаю падняцца смела —
Вярнуць сабе мову, радзіму
зноў.

## Сон

Кроў
На жалезных зубах...
На зубах,
На зубах.

Стогн —
Халадзее душа —
У вушах,
У вушах.

Вытрымаць здзек
Над душой мастака?
Ты ж чалавек!
Лепш забі хамака.

Гэты стогн у вушах...
Халадзее душа...
Гэта кроў на зубах
Пры закрытых вачах...
О дзіўны сон,
Гэтых жахаў палон,
Што прыходзяць з жыцця
У спакой небыцця!

## Леаніды

*Памяці У. КАРАТКЕВІЧА*

Леаніды не вярнуцца да зямлі.
Уздымае дым сівых балокаў
хвалі.
Як прайшлі гады, дык не
вярнуцца ім,
Мы ж з табою на тым свеце
не бывалі.

Трыццаць тры ды трыццаць
тры і трыццаць тры...
Год да году ім чакаць радзімы
казкі.
Леаніды не вярнуцца да зямлі,
Покуль плён іх жыццяў
марнай будзе згадкай.

На алтар кладзецца новы стос
ахвяр,
Не згасаюць пра свабоду
думкі-крозы.
Ну а ты, сучаснік, сам сабе
спадар?
Дык чаму не скінеш з плеч
пакорнай позы?

Хутка пройдуць зноўку
трыццаць тры гады,
Леаніды ў небе зоркамі
паўстануць.
І нарэшце продкаў цені, вер
заўжды,
Больш не знікнуць,
распыліўшыся ў тумане.





Наталля КУЧМЕЛЬ

***

Мяне не слухаюцца рыфмы,
і верш — той нудны гук,
калі
тужліва ўслед сапраўдным
рыпнуць
калодзежныя жураўлі.

Паперы — мо на трыццаць
столак.
ды аднаго няма на ёй:
як вылузнуўся з ночы золак
і раскрываецца зарой.

***

Неба ў бляску сляпучым
стыгне.
жоўтым вокны шкліць.
Без цябе, пражыўшы тры
тыдні,
так і звыкну жыць.
Але ў вечар, ветрам напяты
над ламаным грэбнем дамоў,
тонкі твар, бы з іконы
зняты,
узгадаю зноў.
Што ты? Дзе ты? Месяц
замглёны
крэпне між аблок.
У завулку блукальнік сонны
прыцішае крок.

***

Жыццё. І ў ім —
хрупасткасць і надрыў,
бо кожная сустрэча стаць
магла
апошняю; будынак чорны
брыў,
як п'яны па дажджы; вада
цякла
з яго; і дзіўным позірку
было
слабое далікатнае святло
шчылінаў ставень — як
шчылінаў вей:
дык, значыць, дом населены
людзьмі?
І гаспадар — сухі стары
яўрэй
з вялізнымі дзяцінымі
вачмі —
свой смешны цень пасоўваў
па сцяне...
Здаецца, гэты дом любіў
мяне.

Глыбей у шторы шылася
акно,
і воды ў трубах наўзварот
цяклі —
калі абняўшы аднаго адно
мы з бездані дэпрэсіі цяглі.
Успыхваючы, падаў край-
крыло
зямлі, дзе нам так добра
быць магло,
слабы і белы, як твая рука
у поўнай цьме, на гузіку
замка.

# КРЫНІЦЫ

Кацярына МЯШКОВА



## Горад без твару

Горад абрабавалі,
пакрыўдзілі як нябогу.
Назолы статус няўдалы
храмам надалі лёгка.
Бо філіграным тварам
ён замінаў уродам,
якія не даравалі
сярэднявечча дотык.
А незнаёмцы, уночы,
зорныя людзі ці продкі,
упарта з дамамі крочылі,
хавалі ад страшнай паводкі.
Горад абрабаваны,
без храмаў з галаснікамі.
У веры твар захаваны
трызнячымі царквамі.

***

Пячатка з гербам вясны
прыціснула сэрца да неба.
Кожны каханне насніў,
гарачае, быццам глеба.

Павольны сардэчны ўзлёт
і сонца — маршалак патолі...
Глебы каханы скрылёк
сытай вясна натоліць.

## Фарбы

У фарбах захавана адзінота
і ненароджаныя думкі
мастакоўскія,
няўмольная самотная згрызота
і чысціня натхнення
вераснёўская.

Узлёту прысмак фарбай
праспяваны,
І прага паспытаць сваё
сумленне:
прастуджанай сучаснасці
парканы
ў фарбах закрычаць ад
спапялення.

Прыязныя да талентаў
прачулых,
на палатно ўзыходзяць
з барацьбою
І фарбы тумановыя, нячутныя,
і фарбы з бліскавічнай
жаўцізною.

***

Паветра зарыфмована
вясною —
радкамі, закаханым
неабходнымі.
І хвалі вершаванага настрою
чысцейшыя на сонцы перад
воднымі.
Правіднай вершаванай
глыбінёю
набралі светласць сонечную
думкі.
І лірыкай ажыўленая мроя,
каханню дасылае пацалункі.

***

Іней свет уваскрэсіў,
а можа, усё па-другому:
свет ад пакуты трэснуў
дрэвамі каля дому.
Космас глядзіць праз дрэвы,
чорнае поўня гасіць.
І свет пачынае верыць
у зорную галінастасць.

А зорную рэчаіснасць
удыхваюць нашы сэрцы.
А можа, людзі ўсе трызняць
ад казачнага бяссмерця!

***

З марозным тварам зайшоў
чалавек,
спыніў ля мяне кажушковы
водар,
а на касматым каўнеры снег
змяніў дзядоўнік употай.
Зялёны, быццам летні мурог,
пакінуты сённяшнім ранкам
знячэўку,
і ганарлівы, што вугалёк,
які агеньчыкі чэрпае.
Бы вожык, калючая да зімы,
забытая шышка цяпла не
змарнела.
Я гэты пратэст жартаўліва-
нямы
вітаю на зімніку белым.

## Мяжа

Мяжа, якая аддзяляе
зіму ад галасоў прадвесні,
гарачая і ледзяная,
салодкая, што сок бярэзін.

За ёю апынуцца цяжка:
вяртанне маразоў, прагалы.
Мяжы прачуленая важкасць
штогод мяне ўздымала.

Яе на досвітку сіберным,
дапокі поўдзень не вясновы,
знайдзі і набрыняюць нервы
вясны прамовай.

## Вершы

Каб легчы на аркуш, вершы
чакаюць промняў натхнення.
Аслепяць яны — і першы

(Заканчэнне на 15-й стар.).

Уладзімір КЛІМОВІЧ

## Муха

Я сеў за стол і разгарнуў тоўсты сшытак, які не разгортваў больш за тры месяцы. Увесь гэты час мне нічога не пісалася. Трашчала галава ад бясконцых пошукаў тэмы, сюжэта, вобразаў... Урэшце, калі я спрабаваў думаць пра новае апавяданне, у маёй свядомасці круціліся нейкія рваныя фразы з даўно прачытаных кніг і часопісаў, «таўкліся», быццам камары, асобныя словы... А калі я, ні на што не зважаючы, усё ж такі імкнуўся нешта з сябе выціснуць, у галаве хтосьці пачынаў рагатаць. Тады рэха гэтага вар'яцкага рогату даймала мяне цэлы дзень. Аднак я не баяўся з'ехаць з глузду, бо ведаў, што рана ці позна ў кожнага чалавека можа настаць такі перыяд. Колькі дзён прымушаў сябе чытаць лёгкія дэтэктыўныя аповесці, глядзець тэлевізар і складаць красворды, а пасля, нарэшце, дастаў з паліцы сшытак і сеў за стол. Я цвёрда вырашыў напісаць за сённяшні дзень апавяданне. Я засяродзіўся, аблёгся на спінку крэсла і заплюшчыў вочы. Я сказаў сабе: «Касабокі Вітаўт!» І ў дрыготкім тумане маёй фантазіі, праз малочнае мроіва, паступова пачалі акрэслівацца няправільныя рысы і контуры Вітаўта; чарнявая чупрына з першай сівізной, нахабная ўсмешка... Мой новы герой быў яшчэ недасканалы і чакаў сур'ёзнай дапрацоўкі.

І тут на падваконне аднекуль выпаўзла і нудна заскуголіла на ўвесь пакой адагрэтая сонцам муха. Вобраз Вітаўта мякка скалыхнуўся і пачаў паступова знікаць. Я рэзка нахіліўся над сшыткам і паспрабаваў запісаць тое, што адбілася ў маёй памяці: «Касабокі Вітаўт трымаў млын, які застаўся яму ў спадчыну ад бацькі...» Муха счакала хвіліну, быццам толькі дзеля таго, каб я запісаў у сшытку першы сказ, і застагнала зноў. Вітаўт, у зацярушанай мукой адзежыне, зноў варухнуўся з боку ўбок і ціха прапаў з маіх вачэй. Муха, скуголячы, як галодны сабака, перайшла з ніжэйшай ноты на вышэйшую і раптам змоўкла. У пакоі, дзе я працую, заўсёды ціха. Я аблюбаваў яго таму, што тут не чутно вуліцы, і пакой шырока прасечанымі аконнымі вачніцамі ўглядаецца на сад. Я пачуў, як муха, вяла перабіраючы яшчэ непаслухмянымі лапамі, палезла на шыбіну.

Крыху супакоены, я стоена прыслухаўся да сябе і асцярожна паклікаў: «Гэй, касабокі Вітаўт?..» Млынар з'явіўся не адразу. Толькі праз колькі хвілін я заўважыў, што ён сядзіць каля сваёй хаціны на вялікім камяні, не дастаючы нагамі зямлі і таму здаецца вельмі малым. Увогуле, ён і быў падобны да карліка: сухое пакрыўленае тулава, жылістыя ногі і рукі, вялікая галава. Вітаўт набіваў самасадам люльку, рукі яго трэсліся, і пахучы тытунь сыпаўся на прыпол, гнаўся ветрам. Мой герой быў даўно не голены і нейкі змучаны. Толькі нахабная ўсмешка ўсё яшчэ зрэдку кранала шчаціністы твар. Тады яго слінявыя вусны крывіліся і ніжняя пашчэнка са з'едзенымі зубамі крыху выдавала наперад. Вітаўт напоўніў люльку, прыкурыў і саскочыў з каменя, глыбока прысеўшы на зямлі. Кульгаючы, ён пацёгся да ветрака, які з рыпеннем, зацята круціў магутнымі крыламі. Я ўзяў асадку і запісаў далей у сшытку: «Млын прыносіў неблагі прыбытак, але такая праца пачала надакучаць Вітаўту...» Муха звалілася з шыбіны — як мне здалося, гэтак грукнулася, што аж затрэслася падваконне, і нема зараўла. Я спалохана паглядзеў на Вітаўта, але ні яго, ні ветрака ўжо не было відаць. Муха прадаўжала лямантаваць. Я ўстаў, падышоў да акна і рэзка адцягнуў убок фіранку. Мая шэльма з візгатам круцілася на спіне, перабіраючы ў паветры тонкімі лапамі. Я прыцэліўся і даў ёй добры шчаўбан. Муха праляцела цераз стол, стукнулася аб сцяну, і, адскочыўшы, засталася ляжаць нерухома на падлозе. Нарэшце ў пакоі настала поўная цішыня.



Я зноў падсеў да сшытка і ледзь чутна прашаптаў: «Вітаўт...» Ён стаяў у новай кашулі каля жорнаў і ўдумліва сыпаў з мяха збожжа. Зерне тоненькім цурком ляцела на камяні. Мех апусцеў, а млынар усё гэтак жа скасабочана стаяў над жорнамі і задуменна глядзеў у адну кропку.

«І вось Вітаўт узненавідзеў вятрак, а вятрак узненавідзеў Вітаўта», — пачаў я, але, злавіўшы слыхам нейкі шум, ускочыў з-за стала. Я ведаў, куды трэба ісці, — я падышоў да мухі. Яна перавярнулася на жывот і спрабавала рухацца. Крылы яе, паламаныя і ненатуральна выкручаныя, з шоргатам цягнуліся па габляванай дошцы. Муха паўзла крыху бокам і раз-пораз «дзяўбла» галавой. Тады яе заднія лапы не даставалі падлогі. Яна нагадвала штосьці варожае і агрэсіўнае — раптам спынілася, быццам гарбаносы самалёт-знішчальнік перад стартам на ўзлётнай паласе. Мне здалося, што зараз гэтае стварэнне, поўнае нянавісці да мяне, можа ўзляцець і ўпіцца ў твар. Я апусціў на муху абцас...

Уладкаваўшыся за сталом, з палёгкай, упэўнена гукнуў: «Вітаўт!.. Касабокі Вітаўт!? «Вятрак натужна круціў сваімі крыламі. Млынара побач не было. Камень каля дома таксама пуставаў. Я падышоў да ветрака і папхнуў дзверы. Яны з доўгім рыпеннем папаўзлі да вушака, ляснуліся аб яго і змоўклі. Я ступіў колькі крокаў у мучны туман і адразу ўбачыў Вітаўта: ён круціўся ў жорнах. Цяжкія камяні прагна ўсмоктвалі ў ненасытныя вантробы хілае цела. Урэшце наверсе засталася толькі галава, якая па сваіх памерах не магла праваліцца ў жорны. Галава з шырока расплюшчанымі вачыма круцілася разам з камянямі, быццам дзівілася з моцных сценаў ветрака, якія за шматлікія гады апрануліся ў белае сутонне. Пасінелыя вусны былі расцягнуты ў крывую нахабную ўсмешку.

## Дрэва, Душ і Пёрка

Гэта быў стары Душ. Ён жыў у такім жа даўнім, з аблезлымі сценамі, будынку. Душу было маркотна. Усё жыццё ён стаяў у абкладзеным пліткай пакоі адзін. Самотная адзінота прымушала цягнуць і без таго доўгую бляшаную шыю да высокага акенца, якое хтосьці напалову тлуста завэдзгаў фарбай. Яму так і не ўдавалася зазірнуць у акно. Усё, што ён бачыў, акрэслівалася невялічкім кавалкам неба. Здаралася, Душ лавіў позіркам імклівыя цені птушак—яны праляталі побач, і тады весялеў, хоць гэта адбывалася рэдка. Але Душ ведаў, што там, з Таго Боку Сцяны, расце Дрэва. Летам ён стоена прыслухоўваўся да яго таямнічага шэпту, спрабаваў разабраць, пра што гаворыць лістота. І хваляваўся, перажываў, калі з-за рыку блізкай вуліцы было цяжка разабраць гэтую гаворку.

Затое восенню, як толькі пачыналася пара дажджоў, Дрэва дасылала яму свае лісты. Жоўта-чырвоныя, з нясмелай выявай тонкіх жылак, яны прыліпалі да мокрай шыбіны і ён чытаў... Божа мой, якія гэта былі лісты! Дрэва пісала пра ўсё, здаецца, яно не магло выгаварыцца: і пра тое, што панна Птушка сёлета звіла ў пышнай кроне гняздо, і маленькія дзеткі спачатку пужаліся вышыні, а пасля пырхалі-скакалі сярод голля; і пра тое, што побач паднімаецца малады Каштан і яно, Дрэва, усё адхіляе свае галінкі ўбок, каб не засціць сонца; і пра... Ах, пра што яно толькі не пісала!

Але болей за ўсё ўсхваляваў і крануў яго сэрца той сарамлівы лісток, які правісеў на шыбінцы толькі некалькі хвілін і быў знячэўку забраны Ветрам.

(Заканчэнне на 15-й стар.).

НОТНЫ АРКУШ

Музычны выпуск «Нотны аркуш» вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка.
Тэл. 32-13-04.

№ 9 (180)

*Скарбонка*

# Жывыя фарбы фальклору

**...— Хто жадае паехаць у Канаду? — не паспеў маёр Раманенка дагаварыць, як лес рук узняўся над галовамі курсантаў. А ў наступную секунду казарму напоўніў грукат адсоўваемых крэслаў, тупат ботаў. Не прайшло і хвіліны, як паўсотні другакурснікаў запаланілі клуб вучылішча і, стаіўшы дыханне, лавілі кожнае слова начальніка клуба маёра Юрыя Сямёнавіча Раманенкі.**

— Патрапіць у Канаду можна дзвюма сцежкамі-дарожкамі. Першая — з'ездзіць на сустрэчу з зоркамі НХЛ. Другая — паехаць туды з канцэртам беларускай народнай музыкі, якая папулярная зараз там не менш, чым «спорт сапраўдных мужчын». Для вялікага хакея мы з вамі, мяркую, крыху стараватыя, а вось для фальклору, здаецца, якраз узрост што трэба.

У адказ — мёртвая сцэна накшталт гогалеўскага «Рэвізора» ў момант кульмінацыі.

Пасля курсанты пачалі разыходзіцца. І ўсё ж пайшлі далёка не ўсе — больш за дзесяць засталося. Яны і склалі касцяк будучага ансамбля курсантаў.

Народная музыка — заўсёды сустрэча з прыгажосцю. Наўрад ці хлопцаў трэба было запэўніваць у гэтым. Але калі на сцэну паднялася прыемная дзяўчына, назвалася Жаннай, аб'явіла, што заняткі з ансамблем будзе весці яна, тут ужо, пагадзіцеся, самае бессардэчнае да музыкі мужчынскае сэрца заспявала. Такім чынам, кола замкнулася: жаданне спяваць—ёсць, жадаючыя спяваць — курсанты. Ёсць і прафесіянал, чуйны да народнай песні.

І яшчэ ўчора далёкія ад усялякіх там актаў, танальнасцей і «до-мажораў» курсанты разам з інструктарам Жаннай Півараравай пачалі асвойваць азы вялікай таямніцы, назва якой — народная песня.

Пакуль яны яшчэ толькі на паперы — у словах і нотных знаках — ці на старэнькай магнітафоннай касеце, ці проста ў памяці Жанны, яшчэ ў дзяцінстве ўвабраўшай безліч мелодый роднага краю. Спачатку яна «дэманструе» песню: раскладвае яе на галасы, па некалькі разоў тлумачыць найбольш складаныя для выканання месцы. Пачынаюць спрабаваць. Раз, другі, трэці... дзесяты...

— Зразумейце, у кожнай песні — свая душа, свой характар, — не стамляецца паўтараць Жанна. — Мы павінны злавіць, адчуць яго і паспрабаваць данесці да слухача інтанацыю, адценні песні. Таму гэтак важна зразумець, які настрой у песні.

Так і рухаліся яны да спасціжэння песні. Забягалі наперад і вярталіся. Ішлі прама і збочвалі, супыняліся і азіраліся. Тупалі на месцы і ў той жа час спяшаліся, стараючыся ў кожную рэпетыцыю ўмясціць як мага больш. І прасоўваліся наперад паціху, спакваля. Інакш, відаць, і быць не магло. Калі, зразумела, да творчасці адносіцца сур'ёзна — так, як Жанна, як усе ўдзельнікі ансамбля.

Яны зараз не проста шчырыя, добрыя сябры. Не толькі захопленыя агульнай справай самадзейныя артысты. Яны — аднадумцы. Алег Курматаў і Алег Ванер, Даўлет Картэкаў і Сяргей Цымбалюк, Вячаслаў Брынза і Віктар Башылаў. Рускі і эстонец, казах і ўкраінец, малдаванін і беларус. І што важна, яны аднадумцы ў адносінах да беларускага фальклору. Яны зараз — сапраўдныя знаўцы народнай творчасці, чуйныя і ўважлівыя.

За плячыма ў ансамбля — болей чым год працы. Восенню 1989 г. яны ўпершыню выйшлі на сцэну і пад скляпеннямі клуба Мінскага вышэйшага ваенна-палітычнага агульнавайсковага вучылішча прагучала: «Выступае курсанцкі фальклорны ансамбль «Беларускае свята». І не паспела зала разгледзець, што за адмысловыя інструменты ў руках курсантаў, як са сцэны палілася беларуская песня. І такімі задорнымі сюжэтамі з дзеяй атрымаліся асобныя куплеты, такім арганічным здалося адзінства, спалучэнне музыкі і слоў, так удала ўвайшлі курсанты ў вобразы хлопцаў-зухаў з беларускай вёскі, што і наўрад ці хто з гледачоў мог здагадацца пра тое, што большасць удзельнікаў ансамбля з беларускай мовай паспелі азнаёміцца толькі ў вучылішчы. Па-добраму нават жартавалі напачатку: «Тут Даўлету Картэкаву без двайнога перакладу не абысціся. Спачатку з беларускай на рускую, пасля — яшчэ на казахскую...»

Кожная рэпетыцыя — не толькі радаснае спасціжэнне новага, але і вялікая праца, цяжкая... Так, усё правільна, увагі вартая толькі тая работа, што паддаецца з няпростымі, цяжкімі намаганнямі.

Гэтае разуменне прыйшло ўжо на першым канцэрце. Ды і хіба ж можна забыцца на тую атмасферу сапраўднага свята, на нейкія па-дзіцячаму шчаслівыя твары сівых герояў, іх апладысменты і словы ўдзячнасці, каторым, здавалася, і канца не будзе. У той вечар яны ўсе і прызначэнне сваё па-сапраўднаму зразумелі — дарыць людзям свята.

А колькі выступленняў, гастрольных паездак змясціў у сабе амаль што двухгадовы перыяд! Эстрадныя пляцоўкі ў парках, заводскія і фабрычныя цэхі, маленькія вясковыя клубы, гарадскія палацы культуры, школы і кінатэатры... І кожны канцэрт для гледачоў— незабыўнае свята. Былі, зразумела, і самыя памятныя. Да прыкладу, выступленне на гадзіннікавым заводзе «Прамень» — у абедзенны перапынак, непасрэдна ў цэху, дзе літаральна ля сваіх рабочых месцаў знаходзіліся рабочыя. Ці канцэрт тым днём, калі першакурснікі прымалі прысягу. На сцэне поплеч стаялі тыя, хто памятае вытокі ансамбля — цяпер ужо трэцякурснікі, і зусім яшчэ «зялёныя» ўчарашнія выпускнікі школ, толькі што патрапіўшыя і ў вучылішча, і ў ансамбль. Чым не пераемнасць пакаленняў! На вачах бацькоў, каторыя былі самымі дарагімі гледачамі, — слёзы...

А хіба можна забыць выступленне перад воінамі-інтэрнацыяналістамі ў акруговым шпіталі ці шчымлівую сустрэчу ў гарадскім таварыстве сляпых, ці канцэрт у Старобіне на святкаванні дня вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў? Тады «Беларускае свята» патрапіла ў поле зроку тэлевізійнага аператара. Рэжысёр справядліва вырашыў, што фрагмента недастаткова. І пра ансамбль знялі цэлы тэлесюжэт. Атрымалася і сапраўды: на раніцу прачнуліся вядомымі.

Цікавы факт. Летам мінулага года ансамбль удзельнічаў у агітпаходзе ЦК ЛКСМБ і Мінскага ВВПАВ па гарадах і вёсках Міншчыны і Гродзеншчыны. І вось у дзень прыезду ўдзельнікаў агітпаходу ў адну з вёсак у Ашмянскім раёне сустрэліся курсанты з аб'явай: «Таварыства польскай культуры праводзіць свой вечар». А час правядзення, падказаны ў аб'яве,— той жа, што і канцэрты курсантаў. Зразумела, што гэта супадзенне. А на справе ж атрымліваецца як быццам супрацьпастаўленне. Хоць не гэта галоўнае... Галоўнае, што людзі прыйшлі на канцэрт «Беларускага свята». І курсанты пастараліся. Канцэрт прайшоў на «ура!» А пасля доўгі час працягвалася шчырая размова курсантаў з вяскоўцамі. І пра вайсковыя праблемы — таксама. Простыя вясковыя працаўнікі — беларусы і літоўцы, рускія і палякі —не хавалі сваёй радасці: такія хлопцы —малайцаватыя, ладна скроеныя, галасістыя — не частыя ў вёсцы госці. І такую шчырую, непадробную любоў да народнай песні, беражлівыя адносіны да яе таксама не часта сустрэнеш. А хіба ж не любоў да песні — зыходны пункт, з якога пачынаецца глыбокая зацікаўленасць да народных традыцый, да гісторыі, культуры.

— Бачылі б вы, з якім захапленнем сустракалі песню «Каля рэчкі, каля броду» на той жа Гродзеншчыне! Авацыі! І справа тут не толькі ў нашым майстэрскім выкананні. Гэтая песня, кажуць, нарадзілася якраз у гэтых мясцінах. Можаце сабе ўявіць, якія пачуцці адпаведна ўзнікаюць у душах вяскоўцаў, — гаворыць Жанна Піваварава. — Народ помніць, ведае свае песні, любіць іх. У вёсачках, мястэчках яшчэ жывуць дзядулі ды бабулі, што свята берагуць народныя мелодыі.

Так, і калі надараецца ў Жанны вольная хвілінка, дык думае дзяўчына пра тое, што след ужо «Беларускаму святу» і ў экспедыцыю пошукавую скіроўвацца. Ахвота ж людзей уразіць, здзівіць новай мелодыяй, такой, каб сапраўдным адкрыццём стала.

Але ж не такое ўжо бязвоблачнае жыццё ў ансамбля. Па-першае, не след забываць: у «Беларускім свяце» — людзі вайсковыя. Над кожным з курсантаў ёсць суддзя: камандзір-начальнік. А не кожнаму з ліку апошняй катэгорыі даспадобы рэпетыцыі, канцэрты (а прасцей кажучы, адрыў людзей ад казармы).

Спрабавала Жанна і сваімі сіламі вырашыць пытанне з беларускімі народнымі касцюмамі, але ж дзе ёй адной гэты клопат пацягнуць. Вось і выступаюць курсанты ў вайсковай форме. Ды і сіламі вучылішча аднаго касцюмы не набудзеш. Патрэбна дапамога вайсковай акругі. А мо знойдзецца які спонсар... Канцэрты ж курсанты даюць бясплатна.

Як паветра, патрэбны народныя інструменты. Дапамог бацька Жанны: сваімі рукамі зрабіў румбу, трашчотку, рубель, вілкі са званочкамі. Яшчэ б гармонік ды сапілку — іншая была б справа... Патрэбна і скрыпка. Шмат у маладога калектыву і іншых клопатаў.

...Што ж, мо здарыцца некалі «Беларускаму святу» выступаць і сапраўды ў Атаве ці Таронта. А пакуль будучыя афіцэры правялі дзесяткі канцэртаў на Беларусі. І, здаецца, ніякі рынак не палохае ўдзельнікаў ансамбля. А, наадварот, «Беларускае свята» нясе людзям радасць, шчаслівую ўсмешку, вучыць павазе да народнай мелодыі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**Валерый МАНЮЦІН.**

Фота І. Макаловіча і В. Касменкі.

*Спяваем па-беларуску*

# Беларусь

**Музыка Алега ПАЎЛЁНКА.** **Словы Уладзіміра ЖЫЛКІ.**

Павольна

1. Бе-ла-русь, Беларусь — гэты зык паліць ду-шу маю, як аг-нём.
Я не ведаю, чым ён вя-лік, але думак не змог я аб ём.
Як па-чу-ю я-го, задрыжыць маё сэрца, за-ны-е ў гру-дзях,
і ба-лю-ча так робіцца жыць, і шу-ка-еш ча-го-сьці ў лю-дзях.
R: Бе-ла-русь, Бе-ла-русь... о-о о-о
Бе-ла-русь, Бе-ла-русь... О-о...
М– м.....

Беларусь, Беларусь —гэты зык
Паліць душу маю, як агнём.
Я не ведаю, чым ён вялік,
Але думак не змог я аб ём.
Як пачую яго, задрыжыць
Маё сэрца заные ў грудзях,
І балюча так робіцца жыць,
І шукаеш чагосьці ў людзях.

РЭФРЭН: Беларусь, Беларусь... О-о-о...

Беларусь, Беларусь... гэтых слоў
Пойме музыку, хто ўсёй душой
І магутны, тужлівы іх зоў
Зловіць думкай сваёю жывой,—
Затрапеча, бы ранены ён,
Задрыжыць пад навалаю дум:
Гэткі страшна-пакутны іх стогн
І аб волі бязмерны іх сум.

РЭФРЭН.

Беларусь, Беларусь —гэта дзей
І разумных, і слаўных прыклад;
Край вялікіх і дум, і людзей,
І бяздольна схіліўшыхся хат,
Дзе нядоля і гора спрадвек
І беднота сярмяжных жывуць,
Крыўда дзе, паняверка ґ здзек
Краскай макавай ярка цвітуць.

РЭФРЭН.

Беларусь, Беларусь —
Край замчышч, курганоў,
Дзе таяцца страхоцці і звод,
Дзе русалкі выходзяць з віроў,
І начніцы вядуць карагод,
Дзе пад шум каласоў ведзьмары
На палетках заломы кладуць,
І ў Купальскую ноч у бары
Забабоны ў пацёмках снуюць.



Амерыканскі спявак, гітарыст і кампазітар Брус Спрынгстын нарадзіўся 23 верасня 1949 года ў горадзе Фрыхолд (штат Нью-Джэрсі). Ягоная музычная творчасць пачалася ўжо з 1963 года, калі хлопчыку было 14 гадоў.

Дыскаграфія выканаўцы прымусіла аматараў рока чакаць сябе яшчэ дзесяць гадоў, затое цяпер складае калекцыю з дзевяці альбомаў, куды ўваходзяць 14 доўгайграючых кружэлак.

Два з тых альбомаў рэцэнзаваліся ў «Нотным аркушы»: «Народжаны ў ЗША», 1984 у «ЧЗ» № 221 ад 19 лістапада 1990 года, «Тунель кахання», 1987 у «ЧЗ» № 245—246 ад 23 снежня 1989 года.

●

Фотаплакаты «Чырвонай змены», як сведчыць пошта, карыстаюцца нязменнай папулярнасцю сярод чытачоў.

Газета можа прадставіць гэтую плошчу для рэкламы прафесіянальных калектываў. Для гэтага трэба даслаць на адрас рэдакцыі фотаздымак, узор лагатыпу (калі такі ёсць), тэкст песні, анатацыю на калектыў і квіток аб уплаце абумоўленай сумы на рахунак «Чырвонай змены» № 345480 (код 811) у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку ў Мінску, а за межамі рэспублікі — № 811161700 у Гарупраўленні Дзяржбанка г. Мінска МФО 400417.

Тэлефон для даведак 32-13-04.

# Народжаны ў ЗША

Музыка і словы Бруса Спрынгстына
Пераклад з англійскай Вітаўта МАРТЫНЕНКІ

Свой крок першы па зямлі
Я зрабіў у горадзе, што кішэў
людзьмі.
І тваё жыццё, як у сабак у тых:
Як бы голаў схаваць ад
памкненняў злых.
Роджаны ў ЗША.
Я народжаны ў ЗША.
Я народжаны ў ЗША.
Роджаны ў ЗША.
Увайшоў у гэты дом мурашоў,
каб толькі стрэльбу мне далі.
Ды паслалі да краіны чужой:
страляй па жоўтых — многа іх.
Роджаны ў ЗША.
Я народжаны ў ЗША.
Я народжаны ў ЗША.
Я народжаны ў ЗША.
Роджаны ў ЗША.
Час мінуў, я прыйшоў дахаты,
Гаспадар на працы кажа:
«Братка, што ж...»
Па плячы мне ляпнуў «Вы,
салдаты,
Шмат чаго не зразумееце ўжо».
Брат ягоны ў Кхе-Саню ваяваў
за В'ет Конг —
Назаўсёды застаўся там.
Кахаў жанчыну, любіў ён
Сайгон,
Даслаў тады здымак шчаслівай
пары ён.
Пасля гадоў гэтак дзесяць я
каціўся
Ад таго спаленага майго
завода
Уніз да чорных ценяў той
турмы.
Нічога не бачыў цалкам,
нікога не чуў.
Роджаны ў ЗША.
Я народжаны ў ЗША.
Роджаны ў ЗША.
Ёсць каханы ў мяне татка ў
ЗША.

Роджаны ў ЗША.
Роджаны ў ЗША.
Роджаны ў ЗША.
Татку ў качалцы добра ў ЗША.

# BRUCE SPRINGSTEEN

*Ускраіна*

## Рок-Полаччына

Калі маляваць мапу беларускага рок-руху, дык ладны сцяжок павінен быць над гарадамі Полацк і Наваполацк. Мяркуйце самі: полацкі рок-гурт «Мясцовы час» трывала замацаваўся ў вышэйшай лізе беларускага рока (асабліва пасля запісу новага — трэцяга — альбома «Ускраіна», які павінен выйсці кружэлкай на «Мелодыі». Ведаюць у рэспубліцы «Дзіду», «Кадэцкі корпус», «Ален»; рыхтуюцца да штурму музычнага Алімпа шэраг новых тутэйшых каманд. Не кожная «ўскраіна» можа выставіць гэтакую рок-харугву.

Развіццю і пашырэнню руху спрыяе штогадовае наладжванне рэгіянальнага рок фестывалю «Рока-кола». Адкрыццё мясцовых зорак адбываецца спачатку на ім. Ён з'яўляецца крыніцай, якая сілкуе творчыя памкненні рок-гуртоў Полаччыны. І адначасова — справаздачай за мінулы год. Звычайна на фестывалі гурты выконваюць кампазіцыі толькі з новых праграм.

Сёлета ў маі на чарговым «Коле» дасталі з похваў гітары больш за тузін мясцовых каманд. Запрошаны былі і госці — гурты з Ленінграда, Віцебска.

— Сёлетні фестываль, — сказаў у інтэрв'ю мясцовай газеце старшыня арганізацыйнага камітэта «Рока-кола-91» Сяргей Анішчанка, — мы вырашылі прысвяціць памяці таленавітага наваполацкага рок-музыканта Аляксандра Жалдакова; акурат у канцы мая яму павінна было споўніцца 30 гадоў.

**Алесь АРКУШ.**

**На здымках: «Мясцовы час»** — полацкая зорка.

Фота **І. Супранёнка.**



*Наш агляд*

## Гучыць на хвалях...

Маем на ўвазе музыку на радыё і тэлехвалях. Вось, напрыклад, тэлемузыка — гэта не толькі папулярныя відэакліпы і тэлеканцэрты. Тэлемузыка, прынамсі, на нашым Беларускім тэлебачанні пачынае адгаліноўвацца ў своеасаблівую мастацкую плынь. Апошнім часам свядомага аматара беларускай музыкі не адцягнуць ад экрана. Ну і нядзіўна!

Вось, напрыклад, стваральнікі відэафільма **«Музы палацаў і замкаў старажытных»** (аўтар сцэнарыя і вядучы — мастацтвазнаўца Г. Барышаў) паспрабавалі візуальна рэканструяваць старонкі беларускага музычнага жыцця XVII—XVIII стагоддзяў.

Атрымалася своеасаблівае музычнае падарожжа ў часе. Гледачы даведаліся пра тэатральнае жыццё Нясвіжа, Слоніма, Шклова. Праслухалі ўрыўкі з твораў сусветна вядомых кампазітараў, якія ў той час гучалі на Беларусі. На заканчэнне былі прадстаўлены ўрыўкі з опернага спектакля «Апалон-заканадаўца, альбо Рэфармаваны Парнас» кампазітара Вардоцкага на беларускай мове.

Але пачуццё гонару «залатым векам» беларускай музычнай культуры свядома разбуралася **пачуццём сораму** за знявечаныя помнікі таго ж Слоніма, за занядбаныя муры Ружанскага палацавага комплексу, за ператварэнне нацыянальнага скарбу Беларусі— Нясвіжскага палаца — у банальны дом адпачынку. Спадзяюся, гэта заўважылі гледачы.

І таму хочацца падзякаваць аўтарам стужкі за тое, што яны яшчэ раз нагадалі вытокі нашага бяспамяцтва і нашай, пакуль не разбуджанай, інтэлектуальнай сілы.

Новае аблічча вядомага беларускага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» — справа ўжо звыклая. Спачатку даведаліся пра пастаноўку кампазіцыі «Па старонках «Полацкага сшытка», а зараз — пра стварэнне музычна-харэаграфічнай стужкі **«Тураўская легенда»**.

Заглыбленне ў тыя культурныя пласты, з якіх пачыналася фарміраванне беларускага этнасу — відавочная задача пастаноўшчыцы В. Гаявой, балетмайстра Л. Гедравічуса. Для гэтага мовай музыкі і танца ўваскрашаліся многія з паганскіх традыцый: ад Купалля да свята татэмічнай жывёліны — Тура. Як праграма «Па старонках «Полацкага сшытка», так і музыка да відэафільма «Тураўская легенда» напісаны кампазітарам С. Хвашчынскім.

Нягледзячы на відавочную мэту названых фільмаў — больш шчыльна інтэграваць для гледачоў беларускую культуру як з заходняй, так і з славянскімі плынямі, застаецца незадаволенасць адхіленнямі на шляху да гэтай мэты. Глядзіце, нават каментарыі і цітры фільма зроблены па-расейску. Значыць, нестае асноўнага— глыбіннай нацыянальнай свядомасці, нармальнага гонару за сваю культуру і мову. А як жа без іх?

З гэтага пункту гледжання новая музычная стужка **«Вяртанне Міхася Забэйды»** поўнасцю адпавядае патрабаванням да такой працы. Такое, зразумела, бывала: пасля жыцця і смерці чалавека не засталося хранікальных кадраў. Так здарылася і з М. Забэйдам-Суміцкім. І тым больш глыбокім і ўдумлівым падыходам павінна была адрозніваецца праца аўтарскага калектыву кінааб'яднання «Летапіс».

Уражанне прысутнасці шматграннай постаці Міхася Іванавіча не пакідала пад час прагляду ўсёй стужкі. Успаміны пра спевака В. Жыдліцкага, Н. Кастэнкі, С. Грахоўскага, Н. Гілевіча стваралі дынаміку вобраза, якой не хапала ў відэарадзе. Ну а голас Міхася Іванавіча проста зачароўваў, ішоў да слухачоў з нейкіх Боскіх вышынь... За гэта трэба быць удзячным канадскім, чэшскім і польскім фірмам грамзапісу, якія зберагл і на сваіх кружэлках легендарны голас беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

А вось музычны канал БТ «5+» прэзентаваў стужку з роднай слыху назвай **«Данчык»**. Пасля хвалюючых слоў Г. Таўлай многія аматары музыкі зноў перажылі хвіліны сустрэч з любімым беларускім спеваком з Амерыкі.

Рэжысёр фільма «Данчык» А. Канеўскі карыстаўся рознымі выяўленчымі сродкамі: канцэртнымі здымкамі, інтэрв'ю з аматарамі творчасці Данчыка, здымкамі «на натуры» ў Амерыцы і ў Беларусі.

Сваімі ўражаннямі ад песень амерыканскага беларуса дзеляцца С. Станюта, Р. Барадулін, С. Сокалаў-Воюш. Стужка надоўга захавала для нас шчырыя песні, словы і самога Данчыка, і ягонай маці — спадарыні Юлі Андрусышынай, якіх добра ведаюць у Беларусі.

Застаецца пашкадаваць, што не ўсё цікавае, што адбылося з Данчыкам у Беларусі, увайшло ў гэты фільм. Неяк сарамліва абышлі стваральнікі стужкі даволі значную дыскаграфію спевака. Напэўна, каб не бударажыць беларускіх слухачоў, якім таксама ўжо хочацца мець кружэлку Данчыка...

Наш агляд будзе не зусім поўным, калі мы не звернемся і да беларускай радыёмузыкі. Не будзем асабліва канцэнтраваць сваю ўвагу на перадачах кшталту «Новая волна в белорусской поп-музыке» Ю. Рашэтнікава з-за іхняй поўнай суб'ектыўнасці і нерэпрэзентатыўнасці. Не будзем «бічаваць» «Радыё-факт» ды «Радыёкантакт» з-за амаль поўнай адсутнасці музычнага патрыятызму. Цвёрда засвоіўшы кананічнае: «Пра густы не спрачаюцца», зыходзячы са сваіх густаў, кожную раніцу «паліваюць» яны слухачоў «маскоўска-саўдэпаўскай папсой» у выглядзе «Любэ» і Глызіна.

Процістаяць ім у «моры эфіру», прапагандуюць беларускую музыку толькі некаторыя рэдакцыі: **«Альбаросіка», «На рок-хвалі», «Музычныя прэм'еры»**. Аўтары апошняй выступілі з цікавай праграмай пра творчасць беларускага кампазітара-авангардыста В. Кузняцова.

Слухачам былі прапанаваны эксперыментальныя ягоныя творы: сімфанічная канструкцыя «Цэзій-137» і «Адажыо» для аргана і сімфанічнага аркестра.

Першы твор, пазначаны болем чарнобыльскай трагедыі, прынёс не толькі спрэчкі вакол ягоных выяўленчых сродкаў, але і адчуванне свежасці музычнага мыслення кампазітара. Як адзначаў сам Вячаслаў Кузняцоў, ён звяртаецца да эмацыянальнай музыкі без нейкіх абмежаванняў, падмуркаў, праграм. І назваў усё гэта «музыкай падсвядомасці».

У якасці прыкладу ў перадачы прапанаваў «Адажыо». Асабіста мяне твор уразіў сваёй «незапраграміраванасцю» настолькі, што захацелася пажадаць кампазітару як мага хутчэй раскрыць не толькі сваё разуменне «Эга» як вытворнай ад чалавечай натуры, але і сінтэзаваць у творчасці архітыпы, якія заўсёды прысутнічаюць у прадстаўніка свайго народа: архітыпы Маці, Мовы, Роднай Зямлі, той, адкуль прыйшлі і куды вернемся...

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**



*Фанатэка*



**«ДЗІДА»**
**«ТЫЯ З ВАС, ХТО ЗАСТАНЕЦЦА ЖЫВЫ, БУДЗЕ ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ МЕРТВЫМ»**
**Максім, 1990**

Пра гэты полацкі гурт галасная чутка разнеслася пасля ягонага паспяховага выступлення на фестывалі «Рока-кола-90», які з мінулага года пачаў рэгулярна праводзіць у Наваполацку мясцовы рок-клуб. Былі ўжо і рэцэнзіі ў рэспубліканскім друку, і шырокі радыёэфір. Да канца мінулага года калектыў узброіўся студыйнай гуказапісваючай тэхнікай і падрыхтаваў для прыхільнікаў блэк-металу свой першы альбом на дэма-касеце.

Не палохайцеся надта змрочнай назвы — «Тыя з вас, хто застанецца жывым, будзе зайздросціць мёртвым». Гэта ў традыцыях блэк-метала. Але ў каманды «Дзіда», трэба заўважыць, назва альбома адлюстроўвае не толькі даніну модзе. Стылістычныя фарбы хлопцы імкнуцца выкарыстаць дзеля стварэння трапных, жыццёвых вобразаў.

Усе песні практычна прысвечаны адной тэме — тэме барацьбы дабра са злом. Аднак гэтыя паняцці сімвалізуе даволі разнастайны каскад вобразаў. Дабро і зло — гэта дзень і ноч (у песні «Свет-сон»), розум і вар'яцтва (у «Стрэса-тэрапіі»), рукі і ланцугі (у «Крыжаках») ды г. д.

Усяго першы дэма-альбом полацкага гурта «Дзіда» складаецца з шасці кампазіцый, зразумела, уласнага сачынення. Акрамя названых вышэй, гэта яшчэ такія творы, як «Чарнота», «Кніга мерцвякоў», «Трупы і пацукі».

Прыхільнікі бардаўскай песні, магчыма, не без здзіўлення пазнаюць тут некаторыя назвы.

Так, з гуртам плённа супрацоўнічала спявачка Лера Сом. Ейнаму пяру належаць тэксты песень «Чарнота» (ва ўласным выкананні яна мае назву «Чырвона ў свеце»), «Свет-сон». Астатнія тэксты гэтай праграмы пісаў гітарыст гурта «Дзіда» Валеры Воліс.

Увогуле, склад гурта вызначыўся пэўнай нестабільнасцю, таму мы называем тут толькі тых, хто працаваў над анатуемай праграмай. Акрамя Воліса, які з'яўляецца таксама лідэрам і генератарам ідэй гурта, у «Дзіду» тады ўваходзілі бубнач Уладзя Дзёмін, вакаліст Мікола Балбас, басіст Уладзя Крусанаў і сола-гітарыст Алесь Цярэшка.

**Стыне матыў на высокай хвалі,**
**Толькі клякоча ў медных забоях!**
**Сумленнай крывёй палілася зара —**
**Належала ўсім, ды была нічыя!**

Слухайце магію беларускага блэк-метала. Гэта «Дзіда» праводзіць сваю стрэса-тэрапію, каб у выніку барацьбы праціглегласцяў жывыя не зайздросцілі мёртвым. Хай перамагае дабро.




**«ТСА»**
**«ГЭВІ-МЕТАЛ-СВЕТ»**
**Польтон, 1984**

Уважлівы чытач, бадай, прыгадае, што больш як год таму, а менавіта 24 сакавіка 1990 года ў «Нотным аркушу» ўжо змяшчалася рэцэнзія на альбом з такой назвай. Вось толькі выява вокладкі была зусім іншай ды ў выхадных даных замест «Польтон, 1984» было пазначана «Маўзалеум, 1985».

Многія, відаць, паспелі здагадацца, што гаворка ідзе пра дзве версіі аднаго альбома польскай рок-групы: для ўнутранага рынку і для заходняга. Але варта зазначыць, што ў дадзеным выпадку гэтыя дзве версіі адрозніваюцца вельмі істотна. Бо толькі чатыры кампазіцыі з III альбома «ТСА» («Марафонец», «Цяжкі металічны свет», «Кошка» і «Белая смерць») трапілі ў тую англамоўную версію і падарылі ёй назву. Між тым, арыгінал альбома «Гэві-метал-свет» у дыскаграфіі «ТСА» займае не апошняе месца.

Вось, напрыклад, кампазіцыя «ТСА пад Татрамі». Бадай, ёй маглі б зацікавіцца нават нашыя дзеячы яцвяжскага адраджэння. Бо польскія металісты ў гэтым сваім творы не толькі звяртаюцца да традыцый палескіх песень, але і ўжываюць у мове тэксту элементы аднаго з паляшуцкіх дыялектаў.

А фанаў гэві-рока і асабіста гурта «ТСА» не можа не зацікавіць гітарнае сола Анджэя Новака ў ягоных уласных кампазіцыях «Аліен», «Кошка» і г. д. Як вядома, пазней гэты ветэран «ТСА» адышоў ад калектыву.

Між іншым, дуэт двух класных гітарыстаў — Новака і Махеля — прываблівае ўвагу слухача і ў кампазіцыях «Ты-ён-я», «Кашмарны сон».

Увогуле, альбом «Гэві-метал-свет» (менавіта польская ягоная версія) запісаны ці не найлепшым складам «ТСА»: Марэк Каплан за бубнамі; гітарнае сола, як мы ўжо сказалі, Стэфана Махеля і Анджэя Новака; на басе — Януш Некраш, а ўсё гэта цэментуе вакал Марэка Пякарчыка.

Дыск запісваўся ў Кракаве, у студыі тэатра «СТУ», ад верасня да кастрычніка 1983 года. Над мастацкай аздобай вокладкі і лагатыпам назвы гурта працаваў брат ягонага вакаліста Рышард Пякарчык.

Застаецца дадаць, што сённяшняя сустрэча з гуртом «ТСА» на старонках «Нотнага аркуша» не першая, але і не апошняя. Такім чынам, да новых сустрэч!




**«ПРОЎКЛ ГЭРУМ»**
**«ПРОЎКЛЗ НАЙНС»**
**Крысаліс, 1975**

Дзевятая кружэлка гурта «Проўкл гэрум» — аднаго з яркіх і самабытных калектываў у гісторыі брытанскай рок-музыкі — з'яўляецца працягам стылю, які развіваўся даволі інтэнсіўна з сярэдзіны 60-х гадоў. І акурат тады ўпершыню сустрэліся двое маладых таленавітых брытанцаў — піяніст і кампазітар Гары Брукер ды паэт Кэйт Рэйд. З іхніх размоў і нарадзілася канцэпцыя будучага рок-гурта: ён павінен быў выконваць музыку, якая грунтуецца на стылістычных і інструментальных здабытках сучаснага рока ды рытм-энд-блюза, а таксама сягае да традыцый класічнай музыкі, канкрэтна—барока. Ян Себасцьян Бах быў любімым кампазітарам Гары Брукера, таму нядзіўна адчуць рэха цудоўнай музыкі Баха ў творах «Проўкл гэрум». У такім духу былі вытрыманы першыя гіты ансамбля з 1967 года («Адбіваючы бледную цень», «Гомбардж»), гэты ж настрой характэрны і для наступных альбомаў. Найбольш цікавыя з іх: «Ззяць на фоне светлага» (1968), «Салёны сабака» (1969), «Дом» (1970). «Канцэрт з сімфанічным аркестрам у Эдмантане» (1972), «Гранд-атэль» (1973).

Склад гурта шмат разоў змяняўся, але гэта, здаецца, не надта паўплывала на ягоны стыль, таму што заўсёды граў у ім Гары Брукер, паслядоўна ўводзячы ў рок музыку барока.

Дзевяты альбом «Проўкл гэрум» запісваў у наступным складзе: Гары Брукер (клавішныя, вакал), Мік Грэбгэм (гітара), Алан Картрайт (бас-гітара), Б. Дж. Нільсан (бубны), Крыс Копінг (арган).

Кампазіцыі «Скрыначка Пандоры», «Падманнае золата», «Забраны час», «Неспакойная зона», «Апошні ўдар», «Без сумненняў», «Настрой курыльшчыка», «Пакуты пішучай машынкі» напісаны Гары Брукерам (музыка) і Кэйтам Рэйдам (тэксты).

Твор «Я захоўваю забыццё» належыць пяру Джэры Лэйсбера і Майка Столера, якія супрацоўнічалі з «Бітлз». Дый яшчэ адна песня—«Восем дзён тыдня» — паходзіць з рэпертуару «Бітлз».

Дарэчы, Джэры Лэйсбер і Майк Столер з'яўляюцца прадзюсерамі дзевятага альбома «Проўкл гэрум».

Дыскі гэтага цікавага гурта выдаваліся фірмамі грамзапісу «Крысаліс» (Вялікабрытанія), «Аміга» (пад час існавання ГДР), «Муза» (Польшча) ды шэрагам іншых. Шкада толькі, што родная маці савецкіх філафаністаў —фірма «Мелодыя»— так і не зрабіла ім такога падарунку.

(Заканчэнне.
Пачатак на 10-й стар.).

радок твой ужо струменіць.
А думка, што дбае заўсёды
пра верш незвычайны самы,
ажыўлена, быццам подых
ляснога птушынага гаму,
натхнёна радкі завіруе
ў моры папернага штылю...
І вершы, падобныя руні,
ўзыходзяць, здаецца, за
хвілю.

***

Каўнас чакаў вайну —
я нават не ведала...
Чурлёніс мяне не мінуў,
таемна спаведаваў.
Я ледзь трывала святло
сонца балючага.
Смутак палотны калоў
цемраю скручанай.
Фарба людской душы,
зусім нечаканая,
па тонкіх карцінах бяжыць
музычнаю гамаю.
Мелодыю тую насіць,
у колер схаваную,
буду як крыж душы,
як боль дараваны.
Дзікая песня вайны
знарок недапетая...
Твая, Чурлёніс, у тым
і наша трагедыя.

## Мая царква

Мая царква на беразе ракі,
на ўзвышшы, легкакрылае
барока,
мяне чакала, белячы шлякі
каменныя ў глыбіні аблокаў.
Я, чужаніца, да яе не йшла,
хай крыж і быў пра Бога
напамінам,
не мела нехрышчоная душа
той боскай мудрасці адзінай.
За талент Бога дзякавала я,
збіралася прыняць яго
хрышчэнне,
зямны анёл спыніў на мне
пагляд
і раніцай у храм павёў
свяшчэнны.
Ён так хацеў, каб боскае
святло
мяне адкрыла духу
паглыблення...
І свечачнаю зоркай узышло
на шыйным крыжыку маленне.

*Апавяданні*

(Заканчэнне. Пачатак
на 10-й стар.).

«Мілы мой сябра! — пісала Дрэва. — Я ведаю, што ты чытаеш мае лісты, хоць ні аднаго разочку не чула водгукаў на іх. Якраз менавіта гэтая акалічнасць і прымушае мяне даслаць наступны лісток. Можа, табе ён здасца дзіўным. Хоць я і асцерагаюся зрабіцца надакучлівым, але я адчувала б сябе вельмі кепска, каб не было да каго пісаць. Як і ты, я таксама жыву ў палоне. Мая свабода абмежаваная. Высокія дамы акружылі мяне і бессаромна ўталопіліся ўсімі сваімі вокнамі. Але я ўжо прывыкла не звяртаць на іх асаблівай увагі, бо думкі мае запоўнены чыстым, шчырым пачуццём да цябе, якое расце з дня ў дзень. Я хачу, каб ты ведаў пра яго, мой мілы сябра. І я ўжо не дакараю сябе, што рашылася на гэтакі нясціплы крок, і першае зрабіла прызнанне».

...Ноччу яны глядзелі на зорку. Яна, адзіная, выразна свяцілася праз незамаляваную частку акна. Дрэва ведала, што Душ можа ўгледзець са свайго покойчыка толькі вось гэтую далёкую і мігатлівую зорку і забылася на іншыя. Моўчкі яны глядзелі на сваю зорку і не заўважалі, што паміж імі вымуравана сцяна...

А назаўтра Душ заспяваў! Яго раптоўна звонкі голас пачула Дрэва і аж затрымцела галінкамі. Так яны і размаўлялі: Душ спяваў, а Дрэва дасылала яму лісты. Вецер, які блукаў па горадзе, здагадваўся пра тыя пачуцці, што нарадзіліся паміж імі і моцна не дзьмухаў на гэты двор, каб не зносіць убок жаданыя лісты. Неяк поначы, калі ўсе спалі, ён асцярожна пракраўся да будынка і ціхенька адбіў кавалак шыбіны ў акенцы... «Вось будзе ім падарунак, — думаў Вецер, уцякаючы з двара, — цяпер лісты змогуць залятаць аж у самы пакойчык, і Душ іх зможа перачытваць па некалькі разоў. А Дрэва будзе выразней чуць яго песні!»

Але наранку праз выбітую шыбіну ўляцела Пёрка і, намачыўшыся, капрызна войкнула. Упершыню за гэтулькі год у пакой завітаў госць. Пачуўшы незнаёмы голас, Душ прачнуўся і ад здзіўлення выцягнуў шыю яшчэ болей.

— Хто Вы? — ён міжволі загледзеўся на прыгожую апратку госці.

— Мяне згубіла панна Птушка, — плаксіва скрывілася Пёрка, — я завітала сюды, вымакла і цяпер не змагу лётаць. Давядзецца чакаць, пакуль высахну.

— Прабачце, але ў мяне заўсёды гэтак мокра, бо я размаўляю, — разгубіўся Душ, — а хочаце, я Вам паспяваю?

— Не-не-не! Мне ж трэба высахнуць, — запратэставала Пёрка. — Лепей памаўчыце. А каб не было Вам сумна, я раскажу, дзе мне давялося пабыць і што давялося пабачыць.

Душ прыслухаўся да Дрэва, але на вуліцы вуркаталі аўтамабілі, і ён нічога не пачуў. Душ уздыхнуў, апусціў галаву і змоўк. А Пёрка пачало расказваць пра дзівосы, якія бачыла, калі лётала з паннай Птушкай па свеце. І раптам Душу стала цікава. Ён захапіўся тымі гісторыямі, той свабодай, якую нехта спазнаў і пра якую сам мог толькі марыць, бо заўсёды стаяў на адным месцы. Дарэмна ўстрывожанае Дрэва дасылала новыя і новыя лісты. Ён не заўважаў іх. А Пёрка ўсё распавядала і распавядала. А Душ усё слухаў і слухаў, не заўважаючы, што паціху да яго падбіраецца ржа, што ў пакойчыку заводзіцца цвіль...

Пёрка скончыла свае аповеды, расправіла сухія пушынкі і незаўважна знікла ў акенцы. Усхваляваны Душ, які на ўсё забыўся, хацеў таксама вылецець у акно, але непрыемна ўразіўся, калі ўспомніў, што прыкуты да месца і што ён — вязень гэтага пакойчыка. Тады Душ паспрабаваў заспяваць, але голас пераела ржа і ад яго засталіся толькі сіплыя хрыпы.

Праз дзень Душ выкінулі на сметнік, а замест яго паставілі новы, які ўпэўнена і спраўна цадзіў ваду праз бліскучыя зубы. Дрэва моцна засумавала і ўвачавідкі пачало сохнуць. Панна Птушка больш не майстравала на яго галінках сваё гняздо. Урэшце, Дрэва спілавалі і кудысьці таксама зацягнулі.

І толькі добры дзядзька Вецер у роспачы круціў па двары апалае лісце, ці садзіўся на невысокі пянёк, сядзеў нейкі час, быццам скамянелы, а пасля задуменна кучаравіў лісткі маладому Каштану.



Таццяна ЗІМЕНКА

## Трыялет

Пачаліся дажджы. І надоўга,
здаецца.
І дарэмна я восень
выштурхваю прэч.
Ледзьве дыхае ўжо
прадчуванне сустрэч.
Пачаліся дажджы. І надоўга,
здаецца.
І такая самота па жылах
ліецца.
І каторы ўжо дзень, як не
паліцца печ.
Пачаліся дажджы. І надоўга,
здаецца.
І дарэмна я восень
выштурхваю прэч.

***

Сунімі мой боль
і закалышы.
Ах, якая золь
у маёй душы.
Гэта ўсё, што ты
мне на свеце даў...
І жыву я тым,
і прашу — пазбаў.

## Раманс

Што ж я так безнадзейна
Вам услед пазіраю
На парозе расстання
і нясходнай тугі?
Як вярнуць мне пачуцці
свае ў берагі?
Што ж я так безнадзейна
Вам услед пазіраю?
Быццам нешта знаходжу
і адразу губляю.
Нібы сэрца няўцямна
зарываю ў снягі.
Што ж я так безнадзейна
Вам услед пазіраю
На парозе расстання
і нясходнай тугі...

***

Няхай табе — заўсёды сонца,
а мне — вятры.
Няхай табе — не злое слоўца,
а мне — бяда з гары.
Я і тады не падзялюся
з табой нічым.
І белай птушкай прыгарнуся
да чорных аблачын.
Калі ж мяне ты запрыкмеціш,
дык не шкадуй...
Ах, любы мой, узняўся вецер—
сябе ратуй.



Тамара МАЗУР

## Зямля

Зямля не можа быць благою—
яна ўрадлівая альбо
перапаясана тугою
ці неўрадлівасці жальбой.
Зямля не можа быць
нялюбай —
яна чужая ці свая,
наноўадкрытая, ці згуба,
ці, як пылінка, нічыя.
Зямля не можа быць
варожай —
няхай там толькі камяні:
яна сама загінуць можа
ці то ў атруце, ці ў агні.
Зямля не дзеліцца багамі,
яе адзіны Бог — Сусвет.
Зямля пад нашымі нагамі —
заўсёды чалавечы след.

## Мадонна. 17 сакавіка

Не, вясну сустрэць спакоем
зноўку не прыдасца,
не той маеш ты характар,
не табе й жагнацца.
Не табе, мая мадонна,
манахінь адзенне,
не табе ў інтымным свеце
шукаць суцяшэння.
Там, за шыбінамі вокнаў,
лёс твайго народа,
там не ўсюды разуменне,
не заўсёды згода.
Побыт, дробныя нястачы
братоў калашмацяць,
пасівелі з бедаў скроні
у Радзімы-маці.
Рвуць яе на часткі межы,
дзеляць лес ды пашы,
не табе замкнуцца ў хаце —
ні нашым, ні вашым.
Бач, вясна ўступіла ў сілу
на бацькоў загонах,
мусіць час ісці ж у людзі
і табе, мадонна.
Прыміры братоў, сястрыца,
адвядзі ад здрады...
За разводдзем месца — лету,
за разладдзем — ладу.

## Замужжа

Так яго чытала думкі
па вачах і твары,
адбірала праўду ў клункі,
а на сметнік — чары.
Варажыла ў неспакоі,
як бабка — на двое:
— Быць, не быць мне
гарадскою,
быць, не быць з табою...
Дзе хамут, а дзе падкова,
дзе цапок, дзе цацка,
што абраць беспамылкова:
багацце ці ласку?
Што ляпей? — пытала ў
зоркі, —
слаўнай быць ці любай?..
Чырванела на пагорку
рабінанчка-згуба.
Правяла матуля-вёска
дзяўчо ад парога:
не ласкавай, дык хоць лёгкай
сцелецца дарога.

***

Неспадзеўку здараюцца толькі
грымоты,
неспадзеўку маланка —
прычынай пажару,
ды і тое пасля невыноснай
спякоты,
ды і тое з вятрыскам
нанесенай хмары.





Сяргей ПАЎЛОЎСКІ

## Прадвызначанасць

Галінкі дрэў
абцяжараны снегам —
малюнак графіка
пад цёмна-шэрым небам.
Адліга прыйдзе —
мяккі снег прайшоў —
на змену шчырасці
у маланкавай сустрэчы.
Ліхтарні з радасцю
прымаюць новы вечар,
патоне горад у карагодзе
сноў...
Паволі знікне разуменне слоў,
і ўбачу з радасцю я зноў
малюнак графіка
пад каляровым небам.

***

Ляцяць мае думкі
праз летнія ранкі
да любай жанчыны,
зусім не каханкі.
Ляцяць мае думкі
ў блакітныя высі,
дзе неба бязважкасць
з бязмежжам спляліся.
Ляцяць, а за імі —
хачу я падняцца.
На грэшнай зямельцы
пакутам застацца!
І мройлівым часам
нямога палёту,
забыўшы на тое,
што — зараз, што — потым...
Мне з высяў птушыных
жаўронкам упасці...
А нехта зазначыць:
ён марыў аб шчасці.

***

Ты не чуеш, як плача на
вуліцы снег?
Як вясна адгукаецца смехам,
не чуеш?
Ён на твой чымсь падобны
гарэзлівы смех,
і таму сон уранні табе я
дарую.

Асцярожна ступаю з цеплыні ў
шэры змрок
сакавіцкай, разбуджанай
сырасцю, ночы.
Недзе ў полі світанак нячутны
свой крок
прыбліжае паволі,
сарамліва-дзявоча.

І туды, дзе віднеецца неба,
пайду
у бурлівых пачуццях вясновым
палоне...
Я світанак знайду, я яго
правяду —
разбуджу цябе дотыкам
мокрых далоняў.

## Перад навальніцай

Калі хмараў цяжкіх цэлы рой
над змарчнелым гасцінцам
закружыць,
груганы на таполях затужаць
аб мінулым расстанні з табой.
Скрып сухі цішыню ашукае:
чорных птушак то плач ці то
смех?
Чорным птушкам смяяцца не
грэх
з майго смутку, што шляхам
блукае...

***

Я рады —
холадам зямлю скавала зноў
перад збіраннем у няблізкі
свет.
Прастор сцішэлых восеньскіх
палёў
з нямой палёгкай гляне мне
услед.
А потым падкрадзецца
шчырасць цемры
і дрогкіх знічак беспрабудны
сон.
І застанецца з лёгкасцю
паверыць
у адзіноту, як нямы праклён...
А асуджу сябе на адзіноту.
Далёкім шляхам згубяцца
сляды,
халодны вецер згоніць
пазалоту
з самотных дрэў і згіне ў
нікуды.



Аксана ДАНІЛЬЧЫК

***

І гэта маё жыццё?..
Нават не верыцца.
За вокнамі — ветру выццё,
чэрці на лесвіцы.
Заходзьце, мае сябры,
у сціплы дом. Аж да самай
світанкавае пары
прабудзеце тут гасцямі.
Чорт усміхаецца мне
з позіркам хітраватым,
бегаюць па сцяне
рыжыя чарцяняты.
Вы раскажыце, як злосць
круціць людзей да здранцвення.
А пачастунак вам ёсць —
хібы майго сумлення...
Раніцай пойдзе снег.
Страчана і пакорна
зноўку пачне свой бег
непазнаваемы горад.
Ціха над ім праляцяць
чэрці і чарцяняты.
І запяюць, зазвіняць
сняжынкі ў поўсці калматай.

***

Сёння мне прыснілася
жанчына —
я не бачыла яе ніколі.
А яна не ведае, магчыма,
што я нават існую на свеце.
Нечаканае яе з'яўленне
сярод свята, дзе і я спявала,
выклікала смутную трывогу
і адразу сцішыўся мой голас.
Ноч, пад вартай ліхтароў
нястомных,
у якой рабіны адцвіталі,
закрывала твар яе, а словы
засталіся паміж ёй і...
Госпадзі! Яна дзіця чакала,
і яно было павінна хутка
нарадзіцца.
Ад майго каханага
дзіця...
Я не ведаю,
што сон твой
значыць?

***

*Марыне*

Я раскажу табе казку
і праспяваю песню,
толькі заплюшчы вочы
і адгані трывогу.
Чуеш, яшчэ не згаслі
зоры пралесак весніх,
колы яшчэ грукочуць
і не знікае дарога.
Розныя людзі бываюць.
Могуць пакрыўдзіць, што
зробіш...
Хіба мы пішам так гладка,
каб дагадзіць усім?
Бог нас не пакарае,
не кіне, а дапаможа.
Спакойна, маё птушанятка,
мы яшчэ паляцім!

***

Звычайны снег над светам
незвычайным,
дзе птушку нам блакітную
лавіць,
дзе кожны дзень, як
ракавінка тая,
гатовы перламутрам адарыць,
дзе ўздыхі хваляў з голасам
сальюцца,
успыхне напамінам бэзу май.
Дзе нам было так лёгка
размінуцца,
калі б не шэпт выратавальны:
«Пачакай...»

Звычайны свет пад незвычайным
снегам,
які схаваў няёмкасці грахоў.
У галаве гучыць салодкім
рэхам:
«Ты вернешся ізноў, ты
вернешся ізноў?..»
Не будуць сёння флейты граць
бязладна.
Іду ракой зімовага цяпла
і ведаю, што пад маёй уладай
ствараць далей ці разбураць
палац.

***

Падхапілі вятры пяшчотныя
і прынеслі ў раніцу белую
На далоні празрыста-вільготныя
апусцілі душу збалелую.
Вызваленне і моц прарочылі,
калыханкай-малітвай
нягучнаю,
акуналі ў раку малочную,
забіралі слязінкі цягучыя.
Глыбіню паказалі глыбокую,
вучаніцай Хрыстоса клікалі...
І ў пасхальную ноч
срэбразвонкую
вярнулі душу трохлікую.

***

Скалелыя пальчыкі пішуць.
У коўдру захутаны аўтар.
Зацішша, зацішша, зацішша —
і ўчора, і сёння, і заўтра.
І сонца з'яўленне — як вынік
сляпога начэй чараўніцтва.
Пакінуць, пакінуць, пакінуць
і што?.. Ля каго прыпыніцца?
Над домам злавесным кажанам
імкліва лятала завея.
Дрыжалі, дрыжалі, дрыжалі
у дрэваў спалохана веі.
Асветлена полымя ззяннем
усё: ад падлогі — да столі.
Каханне, каханне, каханне...
Ні ўчора, ні заўтра — ніколі.



Вера БУЛАНДА

## Гэрцына

Я ноччу бацьку зноў сасніла:
Ён у раю — сярод багоў,
Даміна светлы — не магіла.

Я клікала яго дамоў.
Ці не пачуў, што і не глянуў,
Не разабраў, магчыма, слоў...

Прачнуцца страшна — толькі
ўстану,
Пачнецца дзень. Які праклён!
Як позна, позна і так рана...
Мой татка родны—толькі сон.

***

*Х. А.*

Прыадчыняцца дзверы,
Парушыўшы цішыню.
Я — у тваёй кватэры
Без дазволу і без агню.
Прайду ля цябе неўзаметкі
І ў крэсле тваім засну,
А ты ля ног маіх кветкі
І радасць, і ўсю вясну
Раскінеш. Святло запаліш
І... залюбуешся мной!
Такою, напэўна, крыштальнай,
Звычайнай і незямной.

## Без цябе не жыць

Мне не жыць без цябе.
Гэта стала так ясна,
як ратунку ў мальбе
не знаходзіць няшчасны.
Галашэнне — не гімн.
Плач — таксама не радасць,
колькі летаў і зім
стрэчы нашыя крадуць.
Пра цябе не спяваць?
Гэта хто ж забароніць?
Думкай мне цалаваць
твае вусны і скроні.
Сціхнуць песні ў журбе
за высокай гарою...
Мне не жыць без цябе,
як не жыць мне з табою.

***

Траўка шаўковая
да вуснаў хінецца.
Дзе ж той хлапчына,
што мне ўсміхнецца?
Шчыра бярозка
зверху чаруе.
Дзе ж тое сэрца,
што пашкадуе?
Дзе ж тыя вочы,
што разумеюць?
Дзе ж тыя ночы,
што й сёння грэюць?





Максім ШЧУР

***

Дрэваў шэры плач на
даляглядзе,

ранніх слоў абсечаныя крылы.
Слёзы хмар маўкліва далі
гладзяць,

змрочнай ночы рыючы магілу.
На кустах — сляды апаўшых
кветак,

на зямлі — пялёсткаў белых
кропкі.

Вочы, бы сівы і сумны ветах
пад брывямі хмараў
нетаропкіх.

Я пакрочу ў лесвіцаў
бясконцасць,
заблукаю ў шэрасці світання,
каб на сценах веж начных,
бяссонцавых,

маляваць санеты развітання
і чакаць, пакуль дажджы
закрэсляць

гэты надпіс зоркавым
праклящем,

патануўшы ў ціхім ночы
крэсле...
Толькі дачакаюся наўрад ці.

***

Я знямеў ад экрана сіні,
як загнаны ваўкамі вепр.
Перад смерцю хлусні баяцца,
а хлусня ў нас адвеку —
праўда.
Я жыву на крыжах з цвікамі
скрыжавана-стаптаных вер,
я шукаю іх раўналежнасць,
нібы шлях у абшары заўтра.
Не знаходжу... Цвікі смяюцца,
са слядоў маю кроў п'ючы.
Адыходзіць дарогай крыж мой
у далёкае чорных дзіраў,
я губляюся разам з імі
ў ненажэрна-цьмяной начы,
нібы зорам узнагарода
на яе залатым мундзіры.

***

На палатне мастакоў
недарэчных
я кляксу-сонца выцер.
Божа, навошта на дрэвах
мёртвых
ноч свае піша ўказы?
Сумнаю пугай на Шляху
Млечным
змрок маю спіну выцяў.
Проста на хмараў пабітых
мордах —
барадаўкі зорнай заразы.

***

На месіве брудным — пясок,
цень зліўся начны са
стандартамі.
Плачуць памятыя кветкі,
і холадна сонцу ў нябёсах
сініх.
У вокнах — вячэрні сцяг,
памечаны зорамі-датамі,
сіне-ружовая стужка
на чаем аблітай акна карціне.
Кідае ранча сноў сваіх
паранены ноччу каўбой.
Ціш сумна-пустога неба
ўзрываюць сабой матацыклы
рокераў.
І пустыя дамы між сабой
размаўляюць маімі крокамі.






Літаратурны выпуск «Крыніцы» вядзе пісьменнік Алесь Масарэнка. Тэл. 32-65-46.

# Урокі майго жыцця

УГЛЕДЗЬЦЕСЯ ў карту Белай Русі. Адшукайце самыя ўсходнія абрысы.

Сустракала даволі нямала людзей, нават сярод беларусаў, якія, калі пачынала ім расказваць пра «беларускую камчатку», цікавіліся: а дзе гэтае месца?

— Між тым, Хоцімшчына, скажам,— цудоўны куток нашай зямлі. Самабытны, непаўторны, спрадвечна беларускі. Тут я атрымала першыя ўрокі майго жыцця.

У трэцім класе нас, вучняў 1-й хоцімскай школы, павезлі ў калгас «Перамога» на бураковыя плантацыі.

Замільгацелі за вокнамі аўтобуса назвы вёсак: Іваноўка, Маліноўка, Васілеўка... Вось і поле з роўнымі радкамі раслін, якія трэба было прарэджваць. У літаральным сэнсе застылі мы з адкрытымі ратамі ад цудоўных краявідаў. Асабліва чаравалі бярозавыя гаі, што бачыліся і там, і сям. Дрэвы нагадвалі высокія зялёныя фантаны, што імкнулі ў блакіт. У наступныя прыезды сюды мы пачулі біяграфію бярозавых пералескаў.

У час вайны, пакуль палі не апрацоўваліся, яны там і сям абсеяліся лёгкім, як само паветра, насеннем бяроз. Пасля вайны, пакуль руплівыя рукі дабраліся да аддаленых палёў, там ужо быў даволі высакаваты падрост маладых дрэўцаў. Вядома, многія з іх з цягам часу ўсё ж саступілі месца палям, таму, напрыклад, дзе мы працавалі. А вось на самых узвышаных, пясчаных, былы старшыня калгаса Мікалай Максімавіч Мялешчанка забараніў пускаць у ход сякеры. Многім вяскоўцам такое рашэнне не спадабалася: вакол практычна няма месцаў для нарыхтоўкі драўніны, тых жа жэрдак. Але старшыня быў няўмольны. Надыдзе час, пераконваў ён людзей, і вашы ўнукі скажуць дзякуй.

Прарочымі аказаліся словы гэтага добрага чалавека, якога, на жаль, ужо няма ў жывых. Але дзякуючы яму сустрэча адбылася: бярозы спаткаліся з унукамі, тыя — з бярозамі.

КАВАЛЕРЫСТ, прыўзняўшыся ў страмёнах, сустракае строга і нечакана. Уражанне такое, што магутныя лясныя дрэвы спецыяльна збочылі з яго шляху, каб ён, нарэшце, паўстаў перад людзьмі. А да гэтага было больш як трыццаць год поўнага нябыту.

...1941 год. Спякотныя месяцы жніўня. Кровапралітныя баі. Нашы адступаюць ад Мінска, Магілёва, Крычава. Менавіта сюды, да мяжы Беларусі з Расіяй, і была кітута адна з дывізій 112 горнакавалерыйскага палка пад камандаваннем палітрука Івана Гарабца, каб затрымаць ворага.

Усю ноч байцы капалі на ўзлеску траншэі, устанаўлівалі кулямёты. А пад раніцу чорным-чорна стала навокал ад гітлераўскіх матацыклістаў. Шэсць гадзін цягнуўся бой, пакуль не прыбылі на падмогу фашыстам танкі...

Хавалі герояў усёй вёскай. Амаль усе загінуўшыя аказаліся па нацыянальнасці ўзбекамі. Вось толькі камандзір выдзяляўся сярод іх — русавалосы, волатаўскага целаскладу, з ордэнам Леніна на грудзях. З дакументаў, якія знайшлі ў кішэні яго гімнасцёркі, жыхары Горні даведаліся, што ён — украінец. У кішэні Гарабца быў і невялічкі фотаздымак маладой прыгожай жанчыны з дзвюма малымі дзяўчынкамі.

Ні дакументаў, ні фотаздымка захаваць, на жаль, не ўдалося. Яны згарэлі ў 43-м разам з хатай Праскоўі Громавай. Але прозвішча камандзіра вяскоўцы запомнілі. Дзякуючы гэтаму і ўдалося адшукаць жонку Івана Рыгоравіча і яго трох дачок.

Сын пяці рэспублік — так цяпер называюць Івана Гарабца на Хоцімшчыне. Нарадзіўся і вырас у вёсцы Пятроўка Адэскай вобласці, пасля заканчэння тэхнікума працаваў у адной з МТС Кіргізіі. Службу ў арміі і курсы палітрукоў праходзіў у Казахстане, а пасля дэмабілізацыі быў накіраваны ва Узбекістан. Менавіта тут, працуючы дырэктарам Нарынскай МТС, і атрымаў ордэн Леніна. За месяц да пачатку вайны быў зацверджаны намеснікам загадчыка сельгасаддзела Аргбюро ЦК КП(б) Узбекістана. Адсюль з атрадам узбекскіх коннікаў пайшоў ваяваць. Разам з імі загінуў у сваe 29 няпоўных год, абараняючы беларускую зямлю.

Безыменная брацкая магіла доўга жаўцела сваім жвірам сярод стромкіх соснаў на мяжы Расіі і Беларусі, пакуль напярэдадні 35-годдзя Перамогі скупыя звесткі не вывелі родных Гарабца на далёкую беларускую вёсачку Горня. Паролем сустрэчы людзей, якія ўпершыню ўбачылі адзін аднаго, стаў фотаздымак. Жонка Гарабца — Вера Аляксееўна, перад тым, як пачаць размову з вяскоўцамі, дастала з сумачкі дублікат фотакарткі, якую паклала ў кішэню гімнасцёркі мужа, выпраўляючы яго на фронт...

Адкуль я ведаю пра ўсё гэта? Шмат год жонка Івана Рыгоравіча разам з дзецьмі і ўнукамі прыязджала наведваць брацкую магілу, дзе пахаваны героі. Прысутнічала і на адкрыцці помніка, які ў памяць мужнасці кавалерыстаў быў узведзены ўдзячнымі хоцімцамі на месцы баёў.

Школа наша трымала над гэтым помнікам пастаяннае шэфства. Мы высаджвалі ля магілы кветкі, удзельнічалі ва ўсіх урачыстасцях. Цеплыню і пяшчоту рук Веры Аляксееўны ўсё яшчэ адчувае і мая галава.

...Вось такімі былі першыя ўрокі майго жыцця. Якімі будуць наступныя?

**Ганна КАПУСЦІНА,**
**вучаніца 11-га класа 177-й школы г. Мінска.**

**Фота А. КЛЕШЧУКА.**



*Чарнобыль — наш боль*

# Няўжо ўсё спачатку?

Я пазнаёмілася з Шарон у салоне выдатнай мастачкі Нінэль Счаснай. Шарон — ініцыятар і натхняльнік гала-канцэрта на стадыёне «Дынама», прысвечанага дзецям Чарнобыля. Веруючая. Муж — свяшчэннік. Трое дзяцей.

Ніколі яшчэ чарнобыльскі боль не быў такім блізкім мне. Ніколі яшчэ не праходзіла праз мяне гаручая сляза яе ахвяраў. Шарон Пальмер... Сустрэча з ёй перавярнула ўсё маё ўяўленне аб жыцці і смерці. Шарон смяялася і плакала. Яе выразныя рукі працягвалі аповед і тады, калі яна маўчала. Яна гаварыла пра Чарнобыль нам, беларусам, якія пра яго, аказваецца, нічога не ведалі. Гэта мужная амерыканка, прысвяціўшая сваё і без таго насычанае жыццё нашай бядзе. Гэта яна зняла 16-мінутны фільм пра Чарнобыль і дэманстравала яго на сваёй радзіме, пераязджаючы з штата ў штат. Амерыканскія жанчыны ў час прагляду фільма страчвалі прытомнасць. Шарон расказвала ім тое, што бачыла сама. Пра зону адчужэння і траву вышэй за чалавечы рост. Калі навокал не было ні душы і стаяў звон, які ледзяніў душу, аператар выйшаў з машыны і пачаў шукаць яго эпіцэнтр. І раптам ён адчуў, што заблудзіўся, што застаўся адзін на адзін з гэтым звонам у гіганцкай траве, адкуль няма выйсця. І толькі разлічваючы на высакароднасць іншаземцаў, зразумеў, што яго не кінулі. Гэтыя мясціны не наведвае ні адзін савецкі чыноўнік, нават той, каму трэба рабіць гэта за вялікую плату. Тут няма сведкаў. Тут толькі блукаюць душы памёршых людзей і іх верных сабак...

Вярнуўшыся з зоны, Шарон звярнулася ў нашу царкву з просьбай адслужыць малебен. Але атрымала адмову: яна ж пратэстантка. Рэлігій шмат, але вера ж адна! І стомленая Шарон робіць усё сама ў нумары гасцініцы.

Так, Шарон было што расказаць. Гэта яе 18-гадовы сын Пол быў уражаны прыгажосцю паміраючага анёла — Наташы Петуховай. Увесь іх нью-йоркскі асабняк быў сведкам яго замілавання. Наташыны вочы глядзелі адусюль. Яны адлюстроўваліся ў яго душы. Дзяўчына любіла танцаваць і Пол прывёз ёй у бальніцу апаратуру і мноства касет з любімымі запісамі, каб яна не сумавала. А калі Наташа ўжо смяротна хворая, хацела прыпадняцца з ложка, але не змагла, Пол адзеў ёй і сабе навушнікі і танцаваў за дваіх у бальнічнай палаце. Медсёстры гледзячы на гэта, ціхенька выцiралі слёзы...

Сям'я Пальмер прыняла вялікі ўдзел у лёсе смяротна хворай дзяўчынкі. Яна падрыхтавала ўсё на радзіме, каб забраць Наташу туды. Трэба верыць у цуд, каб так за яго змагацца! І Шарон паклялася маці дзяўчынкі, што яе дачка яшчэ будзе танцаваць...

Наташына смерць усхвалявала ўсіх. Яе вочы, вочы маленькага анёла прымусілі плакаць усіх, хто яе ведаў. Дапамога, на жаль, прыйшла позна. І Шарон, амаль страціўшы надзею, арганізуе новую паездку да хворых дзяцей. Яна вязе з сабой прадукты, падарункі і медыкаменты, каб парадаваць дзяцей з дзіцячага дома і разам адзначыць дзень Падзякі. Шарон сваімі рукамі прыгатавала казачны стол на сто чалавек і радавалася і смяялася разам з дзецьмі, каб потым у нумары чыста па-руску плакаць у падушку. Якое ж сэрца трэба было мець, каб за тысячы кіламетраў ад дома рабіць тое, што мясцовыя ўлады павінны былі рабіць яшчэ пяць гадоў таму.

Наташы не стала... І маці замест вясельнага ўбору змагла дастаць ёй толькі белыя туфлі на вельмі высокім абцасе. Прыгнечаную горам маці пачалі мучыць кашмары, быццам дачка скардзіцца, што не можа танцаваць на такіх абцасах. І тады маці, каб аблегчыць пакуты дзіцяці, прабіраецца таемна на магілку, раскопвае яе і кладзе туды басаножкі...

Гора чалавечае не ведае межаў. Шарон з сям'ёй па адзін бок, сям'я дзяўчынкі па другі аплакваюць адзін лёс. Наташа не дажыла 6 дзён да свайго 16-годдзя! А цяпер ад гэтай жа хваробы пакутуе і яе 7-гадовы брацік... Няўжо ўсё паўторыцца спачатку?!

**Т. ГУЛЕЗАВА.**

# Госця з Індыі

З Лакшмі Гапаласвамі я сустрэлася ў Мінску ў пачатку чэрвеня. Яна прыехала з індыйскага горада Бангалора, пароднелага з Мінскам, з высакароднай місіяй — выступіць з дабрачыннымі канцэртамі ў Фонд дапамогі дзецям, пацярпеўшым у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Лакшмі — пераможца маладзёжных конкурсаў індыйскага класічнага танца паўднёвых штатаў Індыі.

Паэзія рухаў захапляла і прыцягвала Лакшмі Гапаласвамі яшчэ з дзяцінства. Васьмігадовай дзяўчынкай яна пачала займацца танцам. За дзесяць год заняткаў і суровай дысцыпліны дзяўчына адкрыла цэлы свет танца, які вобразна адлюстроўваў месца ў жыцці і неабсяжную прастору для самаўдасканалення. Апошнія 4 гады Лакшмі атрымлівала стыпендыю ўрада Індыі для асабліва таленавітых дзяцей. Юная індыйская танцоўшчыца захапляецца чытаннем і, захоўваючы сувязь з культурнай спадчынай, вывучае класічную музыку пад кіраўніцтвам сваёй маці Умы Гапаласвамі, якая мае вышэйшую музычную адукацыю.

У сваім цяперашнім выглядзе «бхарат-нацьям» — танец, які выконвае маладая Лакшмі, склаўся каля двухсот гадоў назад. Гэты рытуальны танец разглядаецца ў Індыі як мастацтва свяшчэннае, якое адольвае абмежаванасць цела і прасвятляе дух. Лакшмі гаворыць: «Танец патрабуе вельмі строгай дысцыпліны, натхнення. Гэта — малітва». Калі глядзіш на Лакшмі ў танцы, ствараецца ўражанне, што танцоўшчыца як бы раствараецца ў рытмах і мелодыях, яе цела становіцца найтанчэйшым інструментам для выказвання патаемных рухаў душы.

Лакшмі Гапаласвамі выступіла з канцэртамі ў Мінску, Баранавічах, Нясвіжы, Пінску, Гомелі. І ўсюды канцэрты таленавітай выканаўцы індыйскага класічнага танца прайшлі з поспехам.

«Мне вельмі хацелася пазнаёміць жыхароў Беларусі з танцавальным мастацтвам Індыі — носьбітам вельмі старажытнай культуры. І асабліва прыемна, што і я ўдзельнічаю ў аказанні дапамогі вашаму народу ў пераадоленні такой страшнай бяды. Жадаю шчасця, дабрабыту добрым гасцінным людзям Беларусі», — сказала Лакшмі Гапаласвамі. А нам бы хацелася пажадаць таленавітай танцоўшчыцы новых поспехаў у ствараемым ёй царстве танца.

**Наташа НІКІШЫНА,**
**вучаніца 9 класа СШ № 4 г. Мінска.**

# Сон розуму?

**БОЖА, УРАТУЙ НАШ СВЕТ! АД БЯЗВЕР'Я, ПАДМАНУ, ЦЫНІЗМУ...**



Яшчэ ўчора шугала ў неба полымя вогнішчаў з ікон, званы, знятыя з цэркваў бязлітаснай рукой, адпраўляліся на пераплаўку. Што адлівалі з таго металу? Магчыма, рэйкі славутай чыгункі ў камунізм?! Борзда штурмаваліся нябёсы, і народу абяцалі паказаць «апошняга папа» ў 1980 годзе.

Цяпер жа грымнула новая рэвалюцыя, аб неабходнасці якой увесь час гаварылі дысідэнты. І растуць чэргі ля храмаў, якія ў былыя часы загружаліся бульбай або ў якіх размяшчаліся музеі атэізму. І крыжык на шыі зрабіўся модай, і ў парламенце засядаюць святары, і ў кіёсках прадаецца Біблія... Як жа быць нам, хто дрэнна ці не вывучаў зусім курс атэізму? Дзе штатныя бязбожнікі адпрацоўвалі свой атэістычны паёк байкамі пра опіум для народа і цемру інквізіцыі, не заўважаючы, што ствараюць новую рэлігію.

Можна верыць або не верыць у Бога, можна прыняць любую рэлігію, але ўсё роўна чалавеку патрэбна ведаць, дзе дабро, а дзе зло. Таму мудрасць чалавецтва, стагоддзямі накопленая і замацаваная ў Бібліі і Евангеллях, — вышэй за бязбожнасць замест атэізму, вышэй за прымхі замест веры. Бо ў аснове рэлігіі — маральны закон. І вайну з ёй мы прайгралі. Дык давайце прызнаем сваё паражэнне і не будзем будаваць ціры і танцпляцоўкі побач з храмамі, каб д'ябальскай музыкай перакрываць перазвон. Прыслухаемся лепш. Угледзімся. Разбяромся са сваімі пачуццямі.

Божа, уратуй наш свет!

Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.
Фота Сяргея ПАЛЕШУКА.






# На гары, дзе Змееў камень

Шмат розных паданняў бытуе ў нашага народа пра гарады і вёскі, рэкі і азёры. Сёння ўсім вядома, што курганы — гэта пахаванні нашых далёкіх продкаў, а гарадзішчы — рэшткі вельмі старажытных умацаваных паселішчаў. Раней людзі не заўжды асэнсоўвалі з'яўленне такіх пагоркаў, але ведалі, што засталіся яны ад продкаў. На працягу стагоддзяў разбурэнне такіх месцаў лічылася святатацтвам. Здаўна ў народзе складваліся паданні аб помніках даўніны, замацоўваліся за імі спецыфічныя назвы, узнікалі шматлікія павер'і і забабоны. Па ўсіх гэтых прыкметах можна прасачыць народнае ўяўленне аб археалагічных помніках у розныя гістарычныя перыяды.

Так, месцы старых умацаваных паселішчаў (гарадзішчы) звычайна ў народзе звязваюцца з храмам, горадам, якія праваліліся. Існуюць павер'і, згодна з якімі, калі легчы на зямлю і прыкласці да яе вуха, то можна пачуць перазвон або галасы людзей. Часта расказваюць, што ў гары закапаны скарб (зброя ці посуд) або што гара насыпана татарамі, шведамі ці французамі. На Беларусі вядома больш як паўтары сотні мясцовых назваў гарадзішчаў. Найбольш распаўсюджаныя з іх — Гарадок, Гарадзішча, Гарадзец. У Заходнім Палессі ёсць назвы гарадзішчаў Груда, Грудок, Востраў, Выспа, а на поўдні рэспублікі частыя назвы — Акоп, Акопішча. Асаблівую цікавасць уяўляюць назвы гарадзішчаў Талерка. Такіх помнікаў вядома каля дзесяці. Узнікненне назвы народ тлумачыць падабенствам да талеркі (посуду). Назва Талерка магла з'явіцца не раней як у XVI стагоддзі, тады, калі ўзнік і такі посуд. Вылучаюцца і гарадзішчы пад назвамі Рудавец, Прыстань. Першая назва хутчэй за ўсё звязана з бліжэйшымі месцамі здабычы руды, а другая — з сапраўднымі прыстанямі на водных шляхах.

Даволі часта гарадзішчы называюць Замак, Французская Гара, Шведская Гара і г. д. Назва Замак магла з'явіцца не раней чым у XVI ст., калі гэта слова ўжо трапіла на старонкі летапісаў. А назвы, звязаныя з назвамі народаў-захопнікаў, маглі з'явіцца ў пэўныя гістарычныя часы і атаясамліваюцца з вядомымі гістарычнымі падзеямі.

Зусім невыпадковыя і назвы гарадзішчаў Чортава Гара, Пагулянка, Ігрышча, Гуслішча і да таго падобныя. Такія назвы ўказваюць, што на гарадзішчах калісьці былі культавыя язычніцкія цэнтры, дзе адпраўляліся святы і стаялі ідалы або нават і храмы. Пазней, пасля прыняцця хрысціянства, на іх месцах часта будаваліся цэрквы, але надта старажытныя назвы, дадзеныя калісьці ў язычніцкія часы, добра трымаліся ў памяці народа. А з назваў гарадзішчаў Дварэц, Манастыр, Царкавішча, Званіца бачна, што такія назвы замацаваца за імі маглі толькі ўжо ў сярэднявечча.

**Асаблівай павагай у нашага народа карыстаюцца курганы — месцы вельмі старажытных пахаванняў. Гэта і нядзіўна, таму што шмат павер'яў ва ўсіх народаў звязваецца з культам продкаў. З этнаграфічных звестак вядома, што яшчэ ў 20-я гады нашага стагоддзя на Чэрвеньшчыне і Дзісненшчыне на радаўніцу курганы ўпрыгожвалі зелянінай, і моладзь вакол курганных насыпаў вадзіла карагоды. Перад тым, як ісці на магілы сваіх блізкіх, людзі заўжды заходзілі на курганы — пахаванні сваіх далёкіх продкаў і закопвалі на іх вяршынях яйкі ў зямлю. У Падзівінні курганы часцей за ўсё завуць валатоўкамі і лічаць, што там пахаваны волаты-асілкі. Большасць даследчыкаў паходжанне слова «волат» адносіць да старажытнарускага часу і звязвае яго з былінным эпасам. Вобраз волата-асілка галоўны персанаж і беларускіх казак. Волаты звычайна паказваюцца героямі, якія выкарчоўваюць дрэвы і перакідваюцца вялізнымі камянямі. Многія курганы лічацца ў народзе магіламі воінаў, загінуўшых у якіх-небудзь старажытных войнах, называюцца магіламі французаў, шведаў, туркаў, магіламі салдат Суворава і г. д. Бывае, што курганы звязваюцца з пахаваннямі памёршых ад чумы ці ад голаду.**

**Месцы старажытных грунтавых пахаванняў таксама вызначаюцца ў народзе своеасаблівымі назвамі. Іх завуць Паганскія Магілы, Могліцы, Галодны Магільнік, Старыя Клады, Баярскія Магілы, Халернік і г д. На многіх такіх могілках ёсць камяні з высечанымі на іх крыжыкамі, рознымі знакамі або каменныя крыжы.**

На зямлі нічога не знікае з народнай памяці. У народзе вызначаюцца не толькі тыя помнікі, якія добра бачны на мясцовасці, але нават і месцы паселішчаў першабытнага чалавека — стаянкі. Стаянкі не так проста знайсці і археолагу, але тут на дапамогу можа прыйсці народная памяць. Прасочваецца, што стаянкі каменнага і бронзавага вякоў звычайна знаходзяцца ва ўрочышчах з назвамі, якія часта паўтараюць назвы кurганоў або гарадзішчаў, — Замак, Гарадзішча, Прыстань, Замікальшчына. Але маецца і шэраг назваў, якія характэрны толькі для такіх відаў помнікаў, як Бугор, Грыва, Града. Для месцаў неўмацаваных паселішчаў ранняга жалезнага веку і эпохі сярэднявечча характэрны назвы — Селішча, Старое Сяло, Стараселле.

Асабліва цікавыя назвы ў культавых камянёў — Змееў Камень, Сцёп-Камень, Капавішча, Даждзьбог, Дзявочы Камень, Камень Кахання, Пярун, Скарпіён, Чортаў Камень і г. д. Павер'і, звязаныя з камянямі, асабліва распаўсюджаны ў народзе. Да многіх «святых» камянёў яшчэ нядаўна ў час царкоўных святаў хадзілі працэсіямі, маліліся, цалавалі камень і клалі ахвяры — манеты, мёд, лён, воўну, кветкі, яйцы, хлеб. У народзе жыве ўпэўненасць, што нібыта адны камяні дапамагаюць ад галаўных боляў, другія — ад хвароб вачэй, трэція — ад паралічу і г. д. Асабліва цудадзейнай лічыцца дажджавая вада з выемак на камянях.

Вялікай павагай карыстаюцца каменныя крыжы. Звычайна яны ставіліся на перакрыжаваннях шляхоў, на водных пераправах, па краях гарадоў і вёсак для заступніцтва ад халеры і ад ворагаў, а таксама на могілках.

Многія археалагічныя помнікі данеслі да нашых дзён дублетныя назвы. Напрыклад, адзін з курганных магільнікаў у Сенненскім раёне вядомы пад трыма назвамі — Балваны — Французскія Магілы — Камуна. Тут па назвах можна прасачыць, як мянялася ўяўленне пра старажытныя могілкі.

Гістарычную цікавасць уяўляюць таксама «святыя» крыніцы і студні. Такім вадаёмам звычайна насілі манеты, кветкі і іншыя ахвяры, побач на дрэвах вешалі ручнікі. Захаваліся і назвы азёр — Святое. Звычайна на берагах такіх азёр былі язычніцкія капішчы, дзе стаялі ідалы і адпраўляліся святы.

Згодна з законам аб ахове помнікаў гісторыі і культуры, не толькі гарадзішчы і курганы падлягаюць ахове, але павінны ахоўвацца і ўсе іншыя старажытнасці.

**Людміла ДУЧЫЦ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**

# Разбойнік-шавец

ЛЕГЕНДА

Каго толькі не сустрэнеш на вясёлым кірмашы! Заморскага купца і п'янага суседа, цыганку-гадалку і чапурыстую барыню, тоўстага папа і пераапранутага панам чорта. А калі пашанцуе, дык і сапраўднага разбойніка. Толькі адна бяда: калі сустрэнеш, як яго пазнаць? Крывы нож, лахманы, пісталеты — усе свае жахлівыя атрыбуты ён жа, пэўна, пакіне ў лесе. Разбойнік на кірмашы, які знешне нічым не адрозніваецца ад простага мужычка, часам трапляе з-за гэтага ў самыя незвычайныя сітуацыі. І так было са славутым Міколам, разбойнікам-шаўцом. Дарэчы, тады, калі пачыналася наша гісторыя, ніхто Міколу не называў такім гучным імем, і ніякай славы ў яго, звычайнага ляснога брата, дробнага рабаўніка і злодзея, не было.

На кірмаш ён быў пасланы атаманам разбойнікаў з вельмі пэўнай мэтай: даведацца, хто з купцоў больш выгадна збудзе свой тавар ды якой дарогай паедзе дамоў.

Пачаў хадзіць Мікола між гандлёвых радоў, да людзей прыглядваецца, прыцэньваецца, прыслухоўваецца да чужых размоў. Хутка ён вылучыў самага ўдалага купца і пачаў круціцца вакол яго.

— Гэй, хлопча! Ты што, прырос да нашага воза ці што? Амаль гадзіну бачу цябе тут. Мабыць, украсці штосьці наважваешся? — Узняў вочы лясны брат ды так і застыў, і рот разявіў ад здзіўлення. Прама перад ім стаіць дзяўчына, ды такая ладная і прыгожая, што погляду не адвесці.

— Ну, што ўтаропіўся, — засмяялася прыгажуня, — звычайнага чалавека не бачыў ніколі? А можа ты на мае словы пакрыўдзіўся, га? Ну, дык у цябе ж, хлопча, сапраўды вельмі падазроны выгляд, асабліва, калі ты нос суеш у бацькаў воз.

— А... ты дачка гэтага купца? — справіўшыся, урэшце, з сабою, вымавіў Мікола.

— А хіба гэта не зразумела? — усміхнулася бойкая дзяўчына. Людзі кажуць, мы падобны так, што калі б я была хлопцам, мяне б блыталі з бацькам. І імёны ў нас амаль аднолькавыя. Бацька — Павел, я — Паўліна. А ты, я бачу, хлопча, з нетутэйшых. Інакш ведаў бы нас — мы тут часта бываем. Бацька не прапускае ніводнага кірмашу, а я суправаджаю яго, бо я — адзіная дачка і нашчадак.

Пакуль дзяўчына весела балбатала, наш разбойнік зусім супакоіўся, і да яго вярнулася звычайная ўпэўненасць у сабе, якая гэтаксама, як і сумленным рамеснікам, патрэбна зладзеям.

— Якое ў цябе цудоўнае імя, Паўлінка, —загаварыў ён з прыгожай дзяўчынай. — І сама ты такая харошанькая, чысценькая, румяная. Вось бы мне такую нявесту! Але ж у цябе, пэўна, ёсць ужо каханы.

**— Няма пакуль, ды я не вельмі ж і спяшаюся, хлопча,—папраўляючы доўгую касу, прагаварыла Паўліна. — Выйсці замуж—справа няхітрая. Знайсці сапраўднага гаспадара для бацькавых багаццяў — больш складана. І ты б, хлопча, калі да мяне пасватаўся, павінен быў бы прайсці сур'ёзную праверку на годнасць. Бо бацька мой — суровы чалавек і не паважае гультаёў. Нават я, яго родная дачка, па яго загаду навучылася добраму рамяству і зараз вышываю золатам. А ўжо жаніх мой павінен быць сапраўдным майстрам у нейкай справе. Таму табе, даражэнькі, лепш не заглядвацца на маю дзявочую красу, бо, бачу па руках тваіх, ніякая праца ім сур'ёзна не знаёма.**

Зразумеў Мікола, што смяюцца з яго, пакрыўдзіўся. Працадзіў праз зубы:

— Глядзі, не засядзіся ў дзеўках, красуня, — ды і адышоў. Ідзе наш разбойнік прэч, бурчыць сабе пад нос: — Падумаеш, пані якая знайшлася! Ды як смее яна здзекавацца з хлопца? — а ў вушах усё гучыць звонкі смех Паўлінкі, у вачах усё стаіць яе харошанькі тварык. Запала дзяўчына ў сэрца, і нічога тут не зробіш. Так не заўважыў разбойнік, як трапіў на вуліцу, дзе жылі рамеснікі. Тут непрыкметна для сябе скончыў Мікола лаяць Паўлінку, пачаў думаць аб тым, што казала яна. Сапраўды ж, ніякая справа, акрамя разбойнічай, яму невядома. Ды і наўрад ці калі-небудзь хопіць цярпення вывучыцца якому-небудзь рамяству, яму, хто прывык адно толькі да нажа ды ліхога кісценя? Вось цікава, як бы Паўлінка гаварыла з ім, калі б ведала, хто ён? Ці спалохалася б? Напэўна, не. Па ўсяму бачна, гэта вельмі смелая дзяўчына. А вось ці прызнала б яго майстрам сваёй справы? Напэўна, таксама не. Майстар сярод разбойнікаў заўсёды атаман. Але ж з часам, хто ведае, можа і Мікола зробіцца атаманам! Моцы, удаласці маладзецкай у яго хапае, смеласці — таксама. Што яшчэ трэба? Удачлівасць? Дык яе разбойнікам, кажуць, прыносяць талісманы. Талісманам можа быць і добрая мянушка. Усё, вырашана, ён прыдумае сабе мянушку, якая дапаможа яму праславіцца як майстру разбойнай справы.

— Я — Мікола, Коля, яна — Паўлінка, Поля. Коля ды Поля, Ко-Поль, Каполь. А, можа, лепш Капыль?

«Бац» — хтосьці ўдарыў нечым цяжкім нашага героя па патыліцы. Паплыло ў беднага Міколы ўсё перад вачыма, грымнуўся ён з усяго маху на зямлю.

Калі разбойнік урэшце ачуняў, ён убачыў над сабой волата ў доўгім скураным фартуху, з дабрадушнай фізіяноміяй вясковага прастака.

— Уф, а я ўжо думаў, што незнарок забіў цябе, — з палёгкай уздыхнуў ён. Са стогнам абмацваючы галаву, разбойнік падняўся з зямлі:

— Чым гэта ты мяне? — спытаўся.

— Ды вось... — волат збянтэжана паказаў Міколу цяжкі бот, які трымаў у руцэ.

— Нічога сабе зброя, — усміхнуўся наш герой, агледзеўшы бот. — Не зайздрошчу таму, каму давядзецца яго насіць. З такой цяжкасцю на нагах хутка не пабегаеш, а ў вашых мясцінах, пэўна, гэта трэба ўмець кожнаму, калі ён не хоча, каб яго нізавошта пабілі.

— Ну прабач, дружа, — прагаварыў волат. — Я вінаваты. Але навошта ты дражніўся?

— Я?!

— А хіба ты мяне не абазваў капылом? — ужо не так упэўнена сказаў Міколаў субяседнік.

— Капылом? Я сапраўды, здаецца, уголас вымавіў такое слова, але якое дачыненне мае яно да цябе?

— Няўжо я памыліўся? — прамычаў волат.—Але, ведаеш, як надакучыла ўсё. Ну, хіба вінаваты я, што бацькі аддалі мяне ў вучні шаўцу? У мяне рукі цяжкія, а шавецкая справа тонкая. Не атрымліваецца ў мяне нічога. Тут бы паспачуваць чалавеку, пашкадаваць яго. Дык не. Як ідуць гараджане міма майстэрні, дык і зачэпяць. То «падэшвай» абдражняць, то «асновай», то «цвіком», а то і проста «ботам». Я як пачуў ад цябе «капыл», прама страціў розум. Дык ты не крыўдуй ужо на мяне.

— А што такое капыл? — зацікаўлена спытаў Мікола.

— Адкуль жа ты, сябра, калі гэтага не ведаеш? — здзівіўся вучань шаўца. — Пойдзем у майстэрню, я пакажу табе капыл.

Усё ў шавецкай майстэрні было незвычайна і цікава для ляснога брата. Капыл жа аказаўся проста кавалкам дрэва, зробленым у форме чалавечай ступні. На яго нацягваюць скуру і па гэтай мерцы робяць боты.

— Хіба гэта так крыўдна называцца капылом? — здзіўлена спытаўся Мікола, які вельмі часта сустракаў у сваіх сяброў мянушкі тыпу «кісцень», «нож», «ірваны кашэль». — Я б на тваім, братка, месцы зрабіў так, каб мянушку гэтую людзі вымаўлялі з павагай.

— Тады ідзі вучнем да майго майстра і праз год пагаворым, — пакрыўдзіўся волат.

— Добра, я падумаю,—рассмяяўся Мікола, бо думка праславіць мянушку Капыл, зрабіўшыся ліхім разбойніцкім атаманам, зноў з'явілася ў яго галаве.

Якраз у гэты момант у майстэрню ўляцеў маленькі сухенькі чалавечак з доўгімі моцнымі рукамі. Гэта і быў майстар-шавец. І Мікола раптам адчуў, як дробна задрыжэла падлога пад яго нагамі, гэта затросся ўсім целам волат, што стаяў побач.

— А ты зноў гультайнічаеш, Зміцер? — накінуўся майстар на вучня. — Хто гэты чалавек? Навошта ён тут? — спытаў стары, зірнуўшы на Міколу.

— Ён... ён выбірае сабе работу па душы, — нечакана вымавіў Зміцер. — І я вельмі раіў яму пайсці да вас вучнем. Вы ж быццам самі шукалі памагатага.

— Гэта сапраўды шукаў, — сказаў шавец, пільна ўглядваючыся ў твар і фігуру нашага героя. — Ды хіба ж ён сапраўды з гэтай мэтай тут?

— Так, я жадаю навучыцца нейкаму добраму рамяству, — адказаў Мікола, адчуваючы ў поглядзе майстра нейкую небяспеку для сябе. — Але я яшчэ не вырашыў канчаткова, ці хачу займацца шавецкай справай. Я яшчэ падумаю.

І ён накіраваўся да дзвярэй, але стары шавец заступіў яму дарогу.

— Здаецца мне, сынку, што ты ўжо валодаеш нейкім рамяством. Яно не вельмі карыснае, але бывае прыбытковым. Ці не так?

Мікола моўчкі зноў паспрабаваў выйсці, але майстар раптам пачаў гаварыць, ды так ціха, што нават Зміцер, які стаяў недалёка, не мог разабраць яго слоў.

**— Слухай, сынку, толькі што ў мястэчка вярнуліся мужыкі, якія разам з салдатамі ўдзельнічалі ў аблаве на разбойнікаў. Усіх схапілі, акрамя аднаго. Яны прызналіся, што іх таварыш быў пасланы на кірмаш назіраць за купцамі. Ты ж, хаця і апрануты селянінам, гледзячы па тваіх далікатных руках, ніколі ні касы, ні плуга блізка не бачыў. Калі я маю рацыю ў сваіх здагадках, то паслухай старога, у лесе табе больш няма чаго рабіць. Я мог бы выдаць цябе, але не ведаю чаму — шкада. Так што падумай і заставайся тут. Будзеш маім вучнем. Бог даруе мне ўсе грахі, калі мне ўдасца з адпетага бандыта зрабіць добрага рамесніка.**

Так амаль супраць волі стаў Мікола вучнем шаўца. Праз месяц пасля гэтага ў мястэчка прыйшла вестка аб тым, што ўсе разбойнікі, схопленыя ў тутэйшых лясах, павешаны. Штосьці зламалася тады ў Міколе. Цэлымі днямі сядзеў ён у майстэрні, закрыўшы твар рукамі, а праца стаяла. Але, мабыць, стары майстар вельмі добра разумеў усё і не чапаў свайго незвычайнага вучня.

І аднаго дня той урэшце накінуўся на працу, нібы галодны на хлеб.

— Што, Мікола? Зрабіў выбар?—ціха спытаўся ў канцы рабочага дня стары. — Малайчына, хлопец. Я непакоіўся, што не зразумееш, пойдзеш адсюль. Але калі усё вырашылася менавіта так — будзеш майстрам!

І прагна штодзень слухаў настаўленні шаўца Мікола, і рукі яго пакрывалі крывавыя мазалі ад нязвыклай справы, і шмат матэрыялу псаваў новы вучань. Але неяк атрымаўся ў былога разбойніка неблагі чаравік. І з тых часін ён пачаў радаваць сваім уменнем старога майстра.

Прайшоў год. Шавец адаслаў у родную вёску няўмёху Зміцера, а Міколу пачаў даручаць нават самую складаную працу. Яшчэ праз год усё наваколле ўжо ведала пра маладога шаўца Міколу Капыла, бо менавіта такое прозвішча абраў сабе былы разбойнік.

**А яшчэ праз год майстар сказаў яму: «Усё, сынку, больш я нічому цябе не навучу, бо ты ўсё ўмееш, што ўмею я. Уваходзь са мною ў долю, будзем разам валодаць майстэрняй.**

**Дзень за днём прыбывала слава Міколы Капыла. І спачатку ён майстэрствам сваім перамог настаўніка, потым стаў лепшым шаўцом на ўсёй вуліцы. А пасля кірмашу, на якім заморскія купцы скупілі ўсе боты, зробленыя Міколам, каб завезці ў далёкую Англію, маладога шаўца прызналі лепшым майстрам у мястэчку. З усяго наваколля зараз з'язджаліся да яго заказчыкі. І нікому не адмаўляў былы разбойнік.**

Аднаго разу вясной у дзвярах майстэрні ўзнікла ладная дзявочая постаць. Паўлінка, пачуўшы пра здольнасці шаўца, прыйшла прасіць пашыць ёй новыя чаравікі. Здзіўленыя маладыя людзі пазналі адзін аднаго. І зноў пацягнула Міколу да гэтай прыгожай дзяўчыны, і радасная ўсмешка з'явілася на яго твары, калі яна збянтэжана вымавіла:

— Дык гэта ты Капыл? Прабач мне, майстар, што смяялася тады з цябе, але ж я сапраўды нічога не ведала...

Што тут доўга гаварыць. Хутка наш герой згуляў вяселле з прыгожай Паўлінкай. Жылі яны доўга і шчасліва, і было ў іх шмат дзяцей. Усе, калі выраслі, сталі шаўцамі. І да прозвішча іх «Капыл» людзі заўсёды адносіліся з павагай, як марыў пра гэта іх бацька. Спачатку вуліца, дзе знаходзіліся іх майстэрні, пачала называцца Капыл. Пасля назва перайшла на ўсё мястэчка, якое да таго часу ўжо праславілася па ўсёй Беларусі, як сталіца шаўцоў. Невядома толькі, хто, калі і навошта змяніў яе на Капыль.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.



# Віно з



«Начальніку медсанчасці УЖ. Заява. Пераканаўча прашу пазбавіць мяне дзявоцкай плявы, таму што яна вельмі перашкаджае мне жыць.

Асуджаная З.».

**«ВЕСНА ПРИХОДИТ НАГАЯ...»**

ПЕРШЫ дзень лета мы сустрэлі ў калоніі. Над вуліцамі Гомеля нарэшце з'явілася сонейка, прымусіўшы цудоўную палову чалавецтва скінуць зімовыя аковы ў выглядзе адзення, якое прыкрывае цела, а мужчын — кідаць позіркі на спакуслівую прыгажосць, якая нечакана адкрылася погляду. Прыйшло лета і за калючы дрот, не магло не прыйсці, бо ўстанова 15/4 — калонія жаночая. А жанчына застаецца жанчынай нават у турэмным ватніку. Таямнічы водар летняга паветра, сіняя бездань неба ўскалыхнулі ўсе 650 тутэйшых душ. Адны задумаліся над праблемай, як бы непрыкметна скараціць даўжыню форменнай спадніцы, другім жа прыйшлі ў галаву нават грэшныя думкі пра тое, ці надзяваць пад рознакаляровыя майкі (прабачце за інтымную падрабязнасць) бюстгальтар. І яшчэ адна прыкмета часу з'явілася ў калоніі — чарга... у цырульню, якая нядаўна адкрылася тут. І калі б не вартаўнікі з сабакамі, калючы дрот і строгі распарадак жыцця, можна было б падумаць, што мы апынуліся ў нейкім закрытым піянерлагеры для жанчын. Дарэчы, пры такіх жа думках засталіся і некалькі народных дэпутатаў СССР, якія нядаўна наведалі калонію.

Пры мне дзве жанчыны-асуджаныя прынеслі заяву начальніку з просьбай пакінуць іх у калоніі, не пасылаць дабываць тэрмін «на хіміі» ў галоднае Заўралле. Так, спосаб жыцця гэтай установы рэзка адрозніваецца ад тых жа мужчынскіх калоній — і не толькі колькасцю перадач, сустрэч з роднымі (раз у месяц тут нават праводзяць «дзень адчыненых дзвярэй» для родных) і тым, што тут дазволена размаўляць з блізкімі па тэлефоне. Хутчэй, самім духам, які пануе тут.

**ГОЛІК Міхаіл Васільевіч — старшы інспектар па рабоце з асабовым саставам:**

— Я пачынаў тут службу ў 1982 годзе, і з тых супрацоўнікаў, якія пачыналі разам са мной, засталося толькі тры. Прыгнятае гэта праца. Гэта страта нерваў і часу.

— **А як вы лічыце, на вашым характары яна адбітак наклала?**

— На ўзаемаадносінах у сям'і — я б не сказаў, а на мяне асабіста — вядома. Пасля таго, як адпрацаваў тут 10 гадоў, няма ніводнага супрацоўніка, які б не паскардзіўся на якое-небудзь захворванне. Тут трэба цярплівасць мець. Калі яны, хоць і жанчыны, могуць аблаяць цябе, «выказаць усё, што яны думаюць», то мы сабе гэтага дазволіць не можам.

— **Вы не баіцеся, што аднойчы выйдзеце на вуліцу і будзеце глядзець на прыгожых дзяўчат як на нейкіх патэнцыяльных злачынцаў?**

— Не.

І ЎСЁ Ж я ніколі не паверу, што не ўскалыхнецца ані разу пад мундзірам нават самае суровае мужчынскае сэрца, калі побач столькі дзяўчат і жанчын, большасць з якіх — адзінокія.

— Мы ўжо прывыклі да гэтага, і на гэтыя пытанні не звяртаем ніякай увагі, — адказвае **начальнік калоніі Пётр Аляксандравіч Санковіч.** — А ў прынцыпе, калі асуджаная не надзявае бюстгальтар, гэта парушэнне рэжымных патрабаванняў...







# адуванчыкаў

Але што рабіць, калі часам нерастрачаную прагу кахаць і быць каханай не загнаць пад турэмную робу ніякімі дубінкамі. І каб вы зразумелі, наколькі адрозніваецца сістэма «лагерных» каштоўнасцей ад прывычных для нас з вамі, прывяду толькі адзін прыклад: на «каланійскім» жаргоне слова «сям'я» азначае дзвюх ці некалькіх сяброўак, «аднаклетак» (гэта значыць, тых, хто жыве ў адным бараку), наколькі блізкіх — не буду ўдакладняць, каб не пакрыўдзіць кіраўніцтва ўстановы, якое амаль усе тут лічаць справядлівым і клапатлівым.

Можа, таму і нас сустракалі тут нервовымі ўсмешкамі на тварах. Тварах забойцаў, рабаўніц, наркаманак і садыстак. Ёсць нават «гераіня і ахвяра» застою — былы абласны пракурор. І ці разблытаюцца некалі сотні гэтых пакалечаных лёсаў — невядома, бо карані іх — тут, на волі, у нашым з вамі жыцці.

**20-гадовая Таня сядзіць тут за забойства суседкі:**

**— У мяне проста непрыязныя адносіны з ёй былі, а калі я знаходзілася ў бальніцы, яна адвяла маё дзіця на балота і пакінула там. Пасля выпіскі я даведалася пра гэта ад маці, ну, і пайшла проста пагутарыць з ёй, у прынцыпе, забіваць яе не ішла...**

**З асабовай справы асуджанай З., 1972 г. нараджэння, якая не працавала і не вучылася, займалася крадзяжамі:**

**«Рапарт. Даводжу да вашай увагі, што З. у 12.30 без дазволу пакінула швейны ўчастак і пранікла на тэрыторыю працоўнай зоны з мэтай збору акуркаў, а таксама сапсавала швейную машыну...»**

**З асабовай справы Ж., 1970 г. нараджэння, якая ў маі 1988 года арганізавала групу непаўналетніх гвалтаўнікоў:**

**«Калі ў кватэру, дзе знаходзілася група хлопцаў і дзяўчат, зайшла непаўналетняя Ш., Ж. біла яе рамянём, кулакамі, баксёрскай пальчаткай, прыпальвала лоб і ногі запаленай цыгарэтай, прымушаючы яе да сужыцельства з хлопцамі. На працягу некалькіх сутак здзекавалася з пацярпеўшай, прымушала танцаваць без адзення, страляла з лука па ягадзіцах.. З тлумачэнняў Ж.: «Білі, каб даказаць, што Ш. такая ж, як і яны». Асуджана да 5 гадоў пазбаўлення волі...»**

**«КАЛІ НЕЗАЛЕЖНЫЯ МІКРАЧАСЦІЦЫ СКЛАДАЮЦЦА Ў ПЭЎНУЮ КАМБІНАЦЫЮ Ў МЭТАХ СТВАРЭННЯ І ПАДТРЫМАННЯ МІКРАЧАСЦІЦЫ, ЯКАЯ ДОЎГА ІСНУЕ, АСОБНЫЯ ВІДЫ СВАБОДЫ ДЗЕЯННЯЎ НАЛЕЖАЦЬ АБМЕЖАВАННЮ».**

**ДЖ. ВЭНС.**

ГОМЕЛЬСКАЯ жаночая калонія была заснавана адразу пасля вайны. Цяпер яна займае плошчу ў 7,3 га. Тэрыторыя падзелена на дзве зоны: жылую і вытворчую. У жылой зоне акрамя баракаў ёсць сярэдняя школа, ПТВ, дом дзіцяці. У вытворчай — швейная фабрыка. Сёння ў калоніі знаходзіцца каля 650 асуджаных, узрост якіх — ад 18 да 80 год. Асноўная вытворчасць — швейная. Аб'ём выпускаемай прадукцыі пасля павышэння цэн — 37,5 млн. рублёў у год. З іх толькі 18 працэнтаў ідзе на патрэбы калоніі, якая знаходзіцца на гаспадарчым разліку. Апошні пабег з калоніі зарэгістраваны ў 1982 годзе.

Самай галоўнай праблемай начальнік калоніі П. А. Санковіч лічыць тое, што вельмі зацягнулася прыняцце законаў аб выпраўленча-працоўных установах:

— Нам трэба было б даць больш самастойнасці, бо сёння мы цалкам залежым ад цэнтра.

— Я лічу, што ўсе калоніі, асабліва жаночыя, увогуле не павінны рабіць ніякіх адлічэнняў, — дадае М. В. Голік.,— Нам патрэбныя грошы на развіццё сваёй гаспадаркі (дарэчы, у нас ёсць свае цяпліцы), каб лепей харчавацца, каб асуджаныя пасля вызвалення маглі нешта набыць, для тых жа дзяцей...

— Мы з асуджанымі даволі часта пра жыццё размаўляем, — расказвае Надзея Фёдараўна Малышава, старшы майстар. — Мы, як жанчыны, увогуле іх разумеем. Іншы раз што такое забойства? Калі муж здзекаваўся з жанчыны, біў дзяцей ці згвалтаваў, напрыклад, дачку (і такое бывае), — такую жанчыну можна зразумець. Да нас прыходзяць з самага «дна» жыцця. І пры дапамозе ўсяго, што яны там накапілі, спрабуюць тут зацвердзіць сябе. А бывае, што ўвогуле нядрэнная дзяўчына пачынае праяўляць тут свае не лепшыя якасці. Пачынаеш размаўляць з ёй, аказваецца, ёй там, дзе яна знаходзілася раней, далі такі «наказ»: «каб не селі на галаву» ў калоніі...

**20-гадовая Жанна адбывае пакаранне за тое, што атрымлівала вялікія сумы грошай па чужых ашчадных кніжках:**

**— Я не магу з вамі размаўляць, баюся, што ў мяне потым зноў непрыемнасці будуць. Вось прыязджаў нядаўна карэспандэнт У., абяцаў не ўказваць прозвішча. Я яму расказала ўсё пра сябе, а ён, галоўнае, тлустымі літарамі надрукаваў прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, з якога горада, што я двойчы судзімая — усё ўказаў...**

**«ДЗЕЦІ — КВЕТКІ ЖЫЦЦЯ...»**

Хто сказаў, што ў нас свабоднае і справядлівае грамадства? Не верце таму, хто прынародна б'е сябе ў грудзі і крычыць пра гэта ля кожнага мікрафона. Бо вось яны — маленькія беласкурыя рабы савецкай дзяржавы. Рабы грахоў сваіх маці і «выдаткаў» нашай праваахоўнай сістэмы. Сёння іх у калоніі 16 — дзяцей, якія адбываюць пакаранне няволяй разам са сваімі маці.

Маленькія ручкі цягнуцца да майго дыктафона. Дзяўчынку завуць Таняй. А яе маці — Ліля:

**— У мяне ўжо заканчваецца тэрмін. Тры з паловай года за ўжыванне і распаўсюджанне наркотыкаў.**

**— А як вы лічыце, дзеці ўжо крыху разумеюць, дзе яны знаходзяцца,бо за акном — калючы дрот?**

**— Не яшчэ. Дзіця ёсць дзіця.**

**— А ці хацелі б вы, каб ваша дачка даведалася, дзе яна нарадзілася?**

**— Калі яна вырасце, я паспрабую растлумачыць ёй.**

А вось дачка Святланы, якая асуджана за крадзеж з разбоем, чамусьці баіцца мяне. Ёй толькі год і 2 месяцы.



**— У мяне дома яшчэ трое,** — расказвае Святлана...

Трохгадовай Элечцы не хочацца пайсці ў цырк, у заапарк ці проста пакатацца на каруселі. Бо яна не ведае, што гэта такое. Элечка святкуе сёння дзень нараджэння. І няма ў яе вачах трывогі за заўтрашні дзень. І дарма. Бо трымаць тут дзяцей дазваляецца толькі да трох год. Вельмі шанцуе тым, каго пасля гэтага забіраюць родныя. Астатніх жа чакае адзіны шлях — у дзіцячы дом. А які лёс далей — ведае адзін Бог: ці то стаць непаўналетняй наложніцай «выхавальнікаў», ці маленькім злодзеем. Дарэчы, не буду ўдакладняць, бо статыстыка сведчыць сама за сябе. І зараз у калоніі ёсць асуджаныя, якія некалі тут нарадзіліся.

Не, яны ні на што не скардзяцца, гэтыя стомленыя маці. Па-першае, самі вінаватыя, што апынуліся тут. Па-другое, догляд дзяцей добры, многія з іх проста не мелі б усяго гэтага на волі — рэгулярнага харчавання, урачоў і цацак. Усяго, акрамя самой волі.

А бывае і так, што маці вызваляецца разам са сваім дзіцем. І... не забірае яго, пакідаючы бязлітасным хвалям жыцця. А потым зноў «атрымлівае тэрмін» і зноў заводзіць дзіця, каб зноў пакінуць...

**З асабовай справы Аксаны Б., 1970 г. нараджэння, замужняй, лабаранткі адной з устаноў у Рэчыцкім раёне:**

**«25 кастрычніка 1990 года Б. выкінула сваю месячную дачку Алену ў выграбную яміну туалета, і дзяўчынка памерла. На судзе Б. растлумачыла: «Дачка плакала, і я ніяк не магла яе супакоіць...»**

Далей мая аўтаручка адмаўляецца пісаць. Скажу толькі, што выйшлі мы з калоніі з распухлымі галовамі і камянямі на сэрцы. І яшчэ з перакананасцю, што мы — разумныя істоты. Таму што—

**«ТОЛЬКІ РАЗУМНЫЯ ІСТОТЫ САДЗЯЦЬ ПАДОБНЫХ ДА СЯБЕ Ў КЛЕТКІ» (Б. ЧЭНДЛЕР).**

**Павел СІМАНАЎ,**
**Сяргей БРУШКО (фота).**

Р. S. Для тых, хто здольны дапамагчы дому дзіцяці Гомельскай жаночай калоніі, змяшчаем яе адрас: 246000, Гомель, вул. Антошкіна, 3. УЖ-15/4.





